Гісторыка-культурны музей-запаведнік «Заслаўе»




# Заслаўе.
# Карані нашага радаводу

матэрыялы канферэнцыі

Заслаўе 2011

# Прывітальнае слова ўдзельнікам канферэнцыі «Заслаўе. Карані нашага радаводу» старшыні прэзідыума Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі М.У. Мясніковіча

Сёння ў адным са старажытных гарадоў нашай краіны Заслаўі адбываюцца значныя падзеі — праходзіць VI Беларускі фестываль камернай музыкі «Заслаўе-2006. Музыка старадаўніх сядзібаў», а ў яго рамках навукова-практычная канферэнцыя «Заслаўе. Карані нашага радаводу».

Месцам правядзення гэтых мерапрыемстваў Заслаўе абрана невыпадкова. Гэты горад мае цікавую, багатую гісторыю і моцныя культурныя традыцыі, якія паспяхова захоўваюцца і ўзбагачаюцца жыхарамі горада. Айчынныя і замежныя навукоўцы ніколі не абміналі ўвагаю Заслаўе: яго вывучалі Дз.І. Даўгяла, А.М. Ляўданскі, Э.М. Загарульскі. Вялікая заслуга ў вывучэнні горада належыць супрацоўнікам Інстытута гісторыі НАН Беларусі Г.В. Штыхаву і асабліва Ю.А. Зайцу.

Працоўнымі намаганнямі сваіх жыхароў Заслаўе, якое ў канцы другога дзесяцігоддзя XX ст. не налічвала нават і тысячы жыхароў, вырасла, хоць і не ў буйны, але добраўладкаваны горад, у якім развіваюцца прамысловасць, сацыяльна-бытавая сфера і культура.

Горад Заслаўе (у летапісах «Изяславль») быў заснаваны пасля 983 г. кіеўскім князем Уладзімірам Святаславічам як умацаваны пункт на паўночна-заходнім рубяжы Кіеўскай Русі. Прыблізна ў 985 г. горад быў перададзены пад уладу сыну Уладзіміра князю Ізяславу і яго маці Рагнедзе — дачцы полацкага князя Рагвалода. Пасля адраджэння ў канцы X ст. самастойнай полацкай княскай дынастыі (у асобе згаданага Ізяслава Уладзіміравіча і яго нашчадкаў) Заслаўе заставалася ў складзе Полацкага княства і выконвала функцыю памежнай крэпасці. На мяжы XI і XII стст. Ізяслаўская воласць пераўтварылася ў асобнае ўдзельнае княства Полацкай зямлі, якое было перададзена пад уладу аднаго са старэйшых сыноў полацкага князя. XII ст. у гісторыі Заслаўя было перыядам росквіту горада, які па памерах, колькасці жыхароў, узроўню эканамічнага развіцця не саступаў іншым гарадам Полацкай дзяржавы. У канцы X—XI стст. горад быў значным цэнтрам пашырэння праваслаўнай рэлігіі.

У складзе новай дзяржавы — Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага — Заслаўе належала князям Гедымінавічам. Нашчадкі Яўнута Гедымінавіча, якія называліся па імені горада — князямі Заслаўскімі, актыўна ўдзельнічалі ў грамадска-палітычным жыцці Вялікага княства і займалі значныя пасады ў дзяржаве.

Новы росквіт горада, які не аднойчы цярпеў пад час войнаў і ўнутраных канфліктаў, прыпадае на другую палову XVI — першую палову XVII стст. У гэты час Заслаўе перайшло ва ўласнасць да знакамітага беларускага роду Глябовічаў. Пры іх адбылася перапланіроўка горада і замка, была наладжана вытворчасць уласнай паперы, заснавана друкарня. Заслаўе стала адным з цэнтраў рэфармацыйнага руху. У ім жыў і працаваў вядомы асветнік Сымон Будны.

Шмат яскравых падзей было ўпісана ў гісторыю Заслаўя ў XX ст. З 1924 г. яно стала цэнтрам Заслаўскага раёна, а ў 1938 г. атрымала статус гарадскога пасёлка. У Заслаўі былі заснаваны, сацыяльна-бытавыя гаспадарчыя і культурныя ўстановы, выдавалася газета. Неўзабаве пасля ўсталявання савецкай улады ў Беларусі гістарычныя і археалагічныя помнікі Заслаўя сталі аб'ектам гістарычнага і археалагічнага вывучэння беларускіх вучоных і краязнаўцаў.

У суровыя дні Вялікай Айчыннай вайны — у чэрвені 1941 г. — Заслаўе з'яўлялася адным з пунктаў, праз які праходзіла лінія абароны сталіцы БССР. У жорсткіх і ўпартых баях, якія вяліся тут да 27 чэрвеня, поплеч з байцамі Чырвонай Арміі і НКУС змагаліся і жыхары Заслаўя. Ворагу быў дадзены ўсенародны адпор.

Пад час акупацыі ў Заслаўі дзейнічалі падпольныя партыйны і камсамольскі райкамы, выдавалася газета «Мы отомстим», у раёне дзейнічала партызанская брыгада «Штурмавая». 4 ліпеня 1944 г. Заслаўе было вызвалена войскамі Чырвонай Арміі.

У пасляваенныя гады паступова наладжваецца мірнае жыццё пасёлка, будуюцца новыя прадпрыемствы, засноўваюцца ўстановы, наладжваецца і паляпшаецца быт жыхароў, пракладваюцца новыя вуліцы і маршруты камунальнага транспарту, будуецца новы вакзал. Для захавання гістарычнай памяці ў Заслаўі пачалі дзейнічаць дзяржаўныя і грамадскія музеі і выставы, створаны запаведнік. 1 верасня 1985 г. у сувязі са святкаваннем 1000-годдзя заснавання Заслаўя яму надаецца статус горада абласнога падпарадкавання.

Працягваючы шматвяковыя традыцыі, горад імкнецца заставацца цэнтрам культурнага жыцця: у ім ладзяцца рэспубліканскія і мясцовыя святы, фестывалі, канцэрты, навуковыя канферэнцыі.

Хацелася б выказаць спадзяванне, што заслаўчане і асабліва гарадскія ўлады заўжды будуць з разуменнем ставіцца да гістарычнага мінулага як роднага горада, так і нашай краіны, прыкладаць усе свае сілы для захавання і ўшанавання гісторыка-культурнай спадчыны і спрыяць росквіту нашай роднай Беларусі.

Мы вітаем жыхароў горада, яго кіраўніцтва, супрацоўнікаў гісторыка-культурнага музея-запаведніка «Заслаўе», гасцей, удзельнікаў фестывалю і навукова-практычнай канферэнцыі, краязнаўцаў, энтузіястаў вывучэння і захавання багатых культурных і гістарычных традыцый горада, жадаем ім плённай і паспяховай працы на карысць горада і нашай дзяржавы.

Старшыня прэзідыума НАН Беларусі
М. У. Мясніковіч

# Уважаемые участники и присутствующие!

История Заславля — это не просто один из эпизодов прошлого Беларуси, это миниатюрная модель исторического пути, пройденного нашим народом.

Научные чтения, на которых мы сегодня собрались, — это шаг к тому, чтобы осмыслить историю уникального в своем роде древнего города нашей страны и использовать сегодня то, что сделано нашими предшественниками по воспитанию патриотов земли белорусской. В этом значительна роль первого Президента Республики Беларусь, который уделяет много внимания развитию малых городов, осмыслению истории.

Научно-практическая конференция проходит как единое целое с фестивалем камерной музыки в Заславле.

И сегодня вы, лучшие представители исторической науки Беларуси, приехали к нам, к истокам формирования нашего белорусского менталитета, нашей памяркоўнасці, чтобы внести в научный оборот материалы об истории 1020-летнего Заславля, обобщить их, сделать достоянием мировой общественности. Это станет значительным шагом для новых открытий, для понимания современниками своего исторического начала, для формирования гордости за возможность жить и работать на этой благословенной земле.

Одним из важных моментов в истории города на сегодняшний день является открытие символической могилы Рогнеды как места ее упокоения — это необходимо как нам, ее потомкам, так и всем белорусам. Здесь каждый сможет найти духовное покровительство, здесь будет положено начало духовного пути человека, города, земли белорусской.

На мой взгляд, исторически не так важно наиболее достоверное место ее захоронения. Важно чувство соединения нас, сегодня живущих, и основательницы города, первой христианки, первой монахини.

Символическая могила Рогнеды, я уверен, станет местом паломничества не только православных христиан, но и всех, кому дорога история города, история государства, местом, где каждый сможет подумать о своем предназначении в этой жизни, о своем прошлом, настоящем и будущем.

Мы открыли музей «Долговременная огневая точка», мы открыли «Детский музей мифологии и леса», мы открыли родник «Слезы Рогнеды», выпустили альбом-каталог «Беларускія маляваныя дываны», мы стараемся сделать все, чтобы показать уникальность нашего города, чтобы каждый заславчанин, который родился на нашей земле, гордился своей Родиной, чтобы каждый, кто нашел здесь свой кров, почувствовал наше тепло, проникся чувством духовности и добра, и мы будем работать в этом направлении.

А сегодня я выражаю глубокую благодарность участникам научно-практической конференции, которые своим трудом, своими знаниями помогают нам и делают доступным для всех уникальный материал об истоках земли белорусской. Спасибо вам.

Председатель горисполкома *В. Р. Ситник*

# Паважаныя сябры!

З часоў Ізяслава і Рагнеды праз тысячагоддзі нясе Заслаўшчына святло духоўнасці, а тутэйшая даўніна, адна з ручаін, якой пачынаецца магутная рака айчыннай гісторыі. Спакон вякоў гістарычная памяць мацавала і захоўвала нацыю, але патрэбна, каб ланцужок пераемнасці не перарваўся, каб спадчына, што засталася ад продкаў, жывіла і нашчадкаў.

Вось таму ў Нацыянальным канцэртным аркестры ўзнікла ідэя мастацкіх фестываляў у малых гарадах Беларусі, у нашых гістарычных цэнтрах, у колішніх сядзібах музаў. Яна зарадзілася ў знакавы час, на зломе тысячагоддзяў, калі паўстала гістарычная неабходнасць адраджэння і вяртання айчыннай мастацкай спадчыны, асэнсавання яе месца ў прасторы сусветных каштоўнасцяў.

Прапагандаваць культурныя традыцыі малых гарадоў, адкрываць новыя старонкі іх мастацкай біяграфіі, вяртаць на радзіму забытыя імёны музыкантаў і кампазітараў мінулых стагоддзяў — вось канцэпцыя фестываляў, што ладзіць наш аркестр. Заслаўе ў гэтым руху займае адно з першых месцаў, потым узняліся фестывалі ў Міры, Навагрудку, Мсціславе, Тураве, а крыху раней — у Нясвіжы. Фестывальная ідэя аказалася настолькі плённай, што стала служыць на карысць аднаўлення саміх гарадоў і цяпер спрычынілася да дзяржаўнай праграмы адраджэння малых гарадоў Беларусі.

Прыязджаючы ў Заслаўе, я радуюся, што старажытны горад прыгажэе, узнімае свае помнікі і робіцца культурна-гістарычным цэнтрам, у які імкнуцца госці з замежжа, але галоўнае, я бачу, што фестываль стаў для Заслаўя родным і жаданым. Яго духоўная аўра жывіць, выхоўвае душы людзей, на ім узрастае новае пакаленне заслаўчан, якое робіцца актыўным слухачом і ўдзельнікам фестывальных імпрэз.

Кожны з фэстаў, які ладзіць Нацыянальны канцэртны аркестр Беларусі ў гарадах краіны, мае сваю канцэпцыю і гістарычную аўру. У Заслаўі гучыць музыка старых беларускіх сядзіб, якую нашы даследчыкі знаходзяць у архіўных сховішчах. Бывае, што аранжыроўшчыкі аркестра па адным нотным радку аднаўляюць старажытныя творы для іх сучаснага выканання. Нашы калектывы да кожнага фестывалю рыхтуюць унікальныя праграмы з твораў кампазітараў, якія нарадзіліся, працавалі або прыязджалі на Беларусь, каб ствараць тут сваю музыку. Заслаўе вяртае іх з забыцця для айчыннай культуры. Разам з тым тут гучыць класіка XX стагоддзя — творы Я. Глебава, М. Аладава, М. Чуркіна, Л. Абеліевіча.

Асветніцтва — вось ключавое слова ў кантэксце фестываляў у малых беларускіх гарадах. А Заслаўе падмацавала творчыя пошукі аркестра грунтоўнай навуковай базай: фестываль «Заслаўе-2006» распачаўся навуковай канферэнцыяй з удзелам супрацоўнікаў Нацыянальнай акадэміі навук. Я перакананы, што толькі ў спалучэнні навукі і мастацтва, кіруючых структур вобласці, раёна, горада Заслаўя, калектыва нашага Нацыянальнага канцэртнага аркестра і саміх заслаўчан, магчыма тая агульная справа, якую мы робім дзеля нашай Айчыны, на карысць чалавечай душы.

Народны артыст Беларусі,
лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, прафесар *Міхаіл Фінберг*

**Ганецкая І. У.,**
кандыдат гістарычных навук,
старшы навуковы супрацоўнік
Інстытута гісторыі НАН Беларусі

# Асноўныя архітэктурныя тыпы культавых пабудоў Полацкай зямлі

Гісторыя полацкага культавага дойлідства налічвае прыкладна 150 гадоў: перыяд паміж 1050-мі гадамі і канцом XII ст. На сённяшні дзень вядома трынаццаць помнікаў у самім Полацку, Віцебску, Мінску, Навагрудку, якія адносяцца да полацкай архітэктурнай школы. Першым узорам мураванага дойлідства быў Сафійскі сабор, які на працягу XI – XIII стагоддзяў займаў асаблівае месца ў гісторыі Полацкай зямлі, з'яўляючыся не проста галоўнай культавай пабудовай, але і ідэалагічным сімвалам, у якім услаўлялася не толькі вера, але і дзяржава. Ён быў узведзены князем Усяславам у перыяд найбольшай магутнасці Полацкага княства, у 1050-я гады. Рэшткі некалькіх помнікаў выяўлены ў межах старажытнага горада: на Верхнім замку, непадалёк ад Сафіі, на рву, на стрэлцы Ніжняга замку. Астатнія полацкія храмы размяшчаліся за горадам у манастырскіх комплексах: два належалі Спасаўскаму манастыру і чатыры з'яўляліся часткай ансамбля Бельчыцкага манастыра. На Ніжнім замку Віцебска захавалася царква Звеставання, на замку ў Мінску былі выяўлены падмуркі і пачатак сцен невялікай царквы. Барысаглебская царква ў Навагрудку тэрытарыяльна знаходзіцца за межамі Полацкай зямлі, але, паводле даследчыкаў архітэктуры, яе будавалі полацкія майстры.

Пануючым архітэктурным тыпам Полацкай школы культавага дойлідства быў візантыйскі крыжова-купальны храм. Як архітэктурны тып ён існаваў і развіваўся ў хрысціянскай архітэктуры паралельна з базілікай, хоць канцэптуальна сфармаваўся пазней. Арэал распаўсюджання крыжова-купальнага храма ў V – VI стст. велізарны: ад Равенны на захадзе да Анатоліі і Арменіі на ўсходзе. Пануючым тыпам крыжова-купальны храм быў у Візантыі ў IX – XII стст.[1], на паўднёвым узбярэжжы Малой Азіі – VII ст. У аснову канструкцыі пакладзены грэчаскі роўнаканцовы крыж ці блізкая да яго форма, у той час як прастора базілікі будуецца вакол лацінскага крыжа з моцна выцягнутым заходнім канцом. Крыж не абавязкова выяўлены вонкі, ён, як правіла, упісаны ў канструкцыю будынка.

Архітэктура характарызуецца перш за ўсё простымі і яснымі формамі Эўклідавай геаметрыі. Кожная частка аб'ёму аптычна закрытая, нават калі адкрываецца ў іншыя часткі большага аб'ёму. Крыж і купал – відавочныя і характэрныя рысы разглядаемага архітэктурнага тыпу. Купал быў сапраўднай дамінантай, што аб'ядноўвала ўсе часткі будынка,

[1] Buchwald H. Form, Style and Meaning in Byzantine Church Architecture. 1999. P. 8.

з'яўляючыся вертыкаллю не толькі царквы, але і найважнейшым арганізуючым акцэнтам сілуэта сярэднявечнага горада ў цэлым. Ад купала адыходзілі галіны крыжа, кожная з якіх мела асобнае перакрыцце. Такая канструкцыя стварае надзвычай пластычную і ўраўнаважаную сістэму. Усе часткі будынка падтрымліваюцца ўзаемна, утвараючы складаны, рацыянальны, але архітэктурна вытанчаны і дасканалы вобраз храма. Крыжова-купальная сістэма была прынятая як афіцыйная ў Візантыі, таму непарыўна звязана з усходнім хрысціянствам і распаўсюджвалася ў краінах, на якія мела ўплыў Візантыя.




162 — Полоцк, ц. в детинце; 164 — Полоцк, ц. на Нижнем Замке; 165 — Полоцк, ц. на рву; 166 — Полоцк, храм-усыпальница в Евфросиньевом м.; 167 — Полоцк, Спасская ц. Евфросиньева м.; 168 — Полоцк, Большой с. Бельчицкого м.; 169 — Полоцк, Борисоглебская ц. Бельчицкого м.; 170 — Полоцк, Пятницкая ц. Бельчицкого м.; 172 — Витебск, ц. Благовещения; 173 — Минск, ц.; 174 — Новогрудок, ц. Бориса и Глеба.

Планы храмаў XI—XII стст. Полацкай зямлі па Рапапорту

Першы і найбольш распаўсюджаны тып прадстаўлены храмам з асобнай перадапсіднай прасторай (вімай) і называецца канстанцінопальскім (сталічным, складаным) тыпам крыжова-купальнай сістэмы. Гэтая архітэктурная форма была закладзена ў плане Сафійскага сабора. З'яўленне дадатковага члянення перад алтарнай часткай абумоўлена не літургічнымі патрэбамі, а выключна асаблівасцямі архітэктурнай кампазіцыі. Наяўнасць вімы і была асноўнай прыкметай канстанцінопальскай школы візантыйскага дойлідства ў адрозненне ад правінцыйных. У культавым будаўніцтве сталіцы вялікай імперыі гэта засведчана ўсімі вядомымі на сённяшні дзень помнікамі. Распаўсюджанне крыжова-купальнага храма складанага тыпу ў літаратуры прынята звязваць з непасрэдным уплывам Візантыі, а менавіта Канстанцінопаля.



План Сафійскага сабора ў Полацку па Рапапорту

У Полацкай зямлі, апроч Сафіі, да дадзенага тыпу крыжова-купальнага храма адносяцца Вялікі Бельчыцкі сабор, храм-пахавальня Спасаўскага манастыра, Дабравешчанская царква ў Віцебску, Барысаглебская ў Бельчыцах, Спасаўская, царква на дзядзінцы, Барысаглебская ў Наваградку.

Выкарыстанне сталічнай канстанцінопальскай мадэлі крыжова-купальнага храма і развіццё яго на працягу значнага перыяду ў розных краінах спрыяла таму, што з'явілася даволі шмат варыянтаў дадзенага архітэктурнага тыпу. Не была выключэннем і Полацкая зямля.

Важнай характарыстыкай планавай структуры візантыйскага храма з'яўляецца форма ўпісанага крыжа. Паводле яе ўсе помнікі можна падзяліць на дзве групы.

Першая з іх аб'ядноўвае храмы, у якіх упісаны крыж мае выцягнутую ўсходнюю галіну. Да ліку такіх пабудоў адносяцца Сафійскі сабор, Вялікі Бельчыцкі сабор, царква на дзядзінцы, а таксама храм-пахавальня Спасаўскага манастыра. Падоўжанасць была вынікам даволі развітай апсіды і ўстаўленага перад ёю дадатковага пралёту, а ў шасціслуповых храмах гэты акцэнт узмацняўся пераносам падкупальнага квадрата на заходнія пары апорных слупоў. Такая лакалізацыя купала была ўвогуле характэрнай для шасціслуповых цэркваў канстанцінопальскага тыпу.

Іншы варыянт упісанага крыжа, які бачым у трох помніках (царква Звеставання ў Віцебску, Барысаглебская ў Бельчыцах, Спасаўская), мае два падоўжаныя канцы — і ўсходні, і заходні (у першым з названых заходні даўжэйшы, у апошніх — абодва канцы прыкладна роўныя). Такая разнавіднасць планавай схемы, як і большасць іншых, сфармавалася на перыферыі вялікай імперыі. Узоры вядомыя ў Грэцыі, Балгарыі, Малой Азіі, Грузіі. У полацкіх помніках усходняя галіна крыжа павялічвалася

за кошт далёка вынесенай апсіды і вімы, даўжыня заходняй галіны дасягалася пераносам падкупальнай прасторы на ўсходнія пары слупоў. Наяўнасць такога варыянту, які не адпавядае канстанцінопальскаму тыпу ў яго класічным выглядзе, указвае на з'яўленне новай плыні ў полацкім дойлідстве, звязанай з нейкай правінцыйнай архітэктурнай школай. Да таго ўсе тры пералічаныя помнікі будаваліся адзін за адным і ў адносна невялікі храналагічны адрэзак.

Наступны аспект планавай кампазіцыі храмаў Полацкай зямлі — сіметрычнасць адносна дзвюх восяў, што ў выніку давала выразную цэнтрычную кампазіцыю. Характар сіметрыі тым не менш быў неаднолькавы. У храмах першай групы апсідная частка, а ў шасціслуповых і віма, не ўваходзіла ў сістэму сіметрыі, застаючыся па-за яе кантэкстам, затое ўсе чатыры сектары паміж дзвюма восямі былі абсалютна ідэнтычныя. Іначай арганізавана кампазіцыя цэркваў другой групы. Пачынаючы з царквы Звеставання ў Віцебску бачым імкненне да абсалютнай сіметрыі ўсёй архітэктурнай кампазіцыі разам з апсідай. У віцебскім помніку, праўда, застаецца не ўлічаным нартэкс. Аднак прынесеная ідэя атрымлівае сваё развіццё і канчаткова афармляецца ў Спасаўскай царкве.

Такім чынам, у помніках канстанцінопальскага (складанага тыпу) упісаны крыж, які ўтвараў асноўнае ядро і ідэю планавай структуры, меў канцы рознай даўжыні: у параўнанні з паўночным і паўднёвым выцягнутым мог быць толькі ўсходні канец ці разам усходні і заходні. Як паказвае аналіз планавай кампазіцыі вядомых нам помнікаў, вылучаная характарыстыка з'яўляецца вельмі важнай не толькі для фармальнай класіфікацыі культавых пабудоў, але і для вырашэння праблем, звязаных са знешнімі ўплывамі і іх роляй у эвалюцыі мясцовых традыцый культавага дойлідства.

Двума помнікамі прадстаўлены просты, або правінцыйны, тып крыжова-купальнай сістэмы, тыпалагічнай прыкметай якога з'яўляецца адсутнасць вімы. Дадзеная архітэктурная форма мае шырокую варыятыўнасць, паколькі развівалася ў шматлікіх правінцыях Візантыйскай імперыі. Знойдзеная археолагамі на Мінскім замку царква ўяўляе сабой даволі рэдкі варыянт візантыйскага дойлідства — надзвычай просты па канструкцыі, лаканічны па сваёй архітэктуры. Гэта невялікі чатырохслуповы купальны храм з трыма апсідамі, прычым бакавыя цяжка назваць самастойнымі, настолькі слаба яны выяўлены вонкі. У адрозненне ад класічнай крыжова-купальнай сістэмы ўвесь цяжар канструкцыі павінны былі ўзяць на сябе тоўстыя каменныя сцены. У аснову плана царквы пакладзены прамавугольнік, блізкі да квадрата, як гэта бачылі ў чатырохслуповых храмах Полацка і Навагрудка. Падкупальны квадрат, утвораны гэтымі слупамі, прыкметна зрушаны да заходняй сцяны будынка, у выніку чаго ўсходняе адгалінаванне ўпісанага крыжа атрымалася даўжэйшым. Купал меўся абапірацца на масіўныя апорныя слупы Г-падобнай формы, даволі шчыльна пастаўленыя.

Увогуле трэба прызнаць, што для XI—XII стст. планавая структура мінскай царквы дае ўзор вельмі арыгінальнага канструкцыйнага ра-




Планы храмаў Полацкай зямлі

шэння і нагадвае хутчэй архаічныя ўзоры крыжова-купальнай сістэмы. Менавіта такія тоўстыя сцены і масіўныя згрупаваныя апорныя слупы давалі магчымасць узвесці купал у такой невялікай па памерах царкве. Увогуле ў архітэктурнай кампазіцыі таксама чытаецца ўплыў раманскай эстэтыкі. Улічваючы той факт, што будынак не быў даведзены да канца, рабіць якія-небудзь канкрэтныя высновы наконт тыпалагічнай блізкасці



Рэканструкцыя Спасаўскай царквы
ў Полацку па Рапапорту



Рэканструкцыя Сафійскага сабора
ў Полацку па Штыхаву

храма да пэўных рэгіянальных школ царкоўнага будаўніцтва некарэктна.

Рэдкай для ўсходнеславянскіх зямель архітэктурнай формай з'яўляецца храм-трыконх, які быў размешчаны на тэрыторыі Бельчыцкага манастыра. План царквы вядомы толькі па малюнку XVIII ст., зробленым манахам-бернардзінцам. Храм меў адну шырокую апсіду, а з паўночнага і паўднёвага бакоў яшчэ па аднаму паўкругламу выступу-конху. Форму ўпісанага крыжа можна апісаць такім чынам: вельмі кароткія паўночная і паўднёвая галіны і моцна выцягнутыя ўсходняя і заходняя. Такая мадэль храма сфармавалася і была шырока распаўсюджана (да XIX ст.) ў Балканскім рэгіёне.



Рэканструкцыя царквы
на дзядзінцы ў Полацку па Рапапорту

Апошні тып прадстаўлены невялікай па памерах бессluповай Пятніцкай царквой. У аснову плана пакладзены вузкі выцягнуты прамавугольнік. На ўсходзе ён быў завершаны адной прамавугольнай апсідай. Гэта быў вельмі высокі будынак без ніводнага апорнага слупа ўнутры, а значыць, ён не меў і купала. Сваёй архітэктурай Пятніцкая царква нагадвае простую і лаканічную канструкцыю раннехрысціянскіх храмаў. Характар агульнай канструкцыі, а таксама наяўнасць падземнай камеры пад царквой прыводзяць нас у пошуку аналогій у Балгарыю і ўказваюць на прызначэнне царквы як храма-маўзалея, як зусім слушна заўважыў І. Хозераў.

**Гаранская Т. Г.**

# Заслаўская кульмінацыя дзейнасці Сымона Буднага*

Асоба Сымона Буднага для пачаткаў беларускай асветы, беларускай культуры, беларускага кнігадрукавання пасля Францыска Скарыны адна з вызначальных. «Сымон Будны — выдатны багаслоў, таленавіты перакладчык і каментатар біблейскіх твораў — праклаў яскравы след у біблеістыцы Вялікага княства Літоўскага».(1) Асабісты ўклад Сымона Буднага па падаўжэнню справы Францыска Скарыны ў тым, што ён пасля значнага перапынку працягнуў выданне кірылічных тэкстаў. Сярод пэўнай колькасці такіх захаваўся «Катэхізіс» (1562), і маюцца звесткі аб некаторых іншых — «Апраўданне грэшнага чалавека перад Богам» (1562) і «Сціплае выпісанне аб хрышчэнні дзетак» (1564).

Кірылічныя выданні Буднага падобныя да Скарынаўскіх не толькі знешне (шрыфты і іншыя дэталі паліграфічнага аздаблення), але і ідэйнай накіраванасцю. Падобна Скарыне Сымон Будны адрасаваў свае выданні «простаму люду», дзеля іх «добрага навучання» (нясвіжскі «Катэхізіс»), выступаў абаронцам раўнапраўя мовы і культуры народа.(2)

Тое, што Сымон Будны актыўна распачаў выдавецкую дзейнасць менавіта з беларускамоўных кірылічных выданняў, сведчыць на карысць яго беларускамоўнага паходжання і высокага статуса грамадзяніна. «Буднага непакоіла заганная тэндэнцыя беларускай арыстакратыі «кахаць» чужаземныя мовы і пагарджаць сваёй. У гэтым ён бачыў духоўнае вырodства, здраду свайму народу і сваім продкам».(3) Вось і ў прадмове да свайго перакладу «Катэхізіса» асветнік звяртаецца да сыноў князёў Радзівілаў з гарачым заклікам, каб яны любілі мову таго народа, сярод якога жылі іх продкі. У звароце выказана глыбокая любоў да беларускай мовы і павага да яе гісторыі.(4)

Неаспрэчным выглядае пытанне куратарства над Будным Мікалая Радзівіла Чорнага. З яго імем звязаны найважнейшы перыяд у жыцці асветніка ў Вільні, дзе ён «не толькі знайшоў жыццёвы прытулак на некалькі год, але й атрымаў выдатную магчымасць дзякуючы існуючаму там асяродку развіць свой талент педагога, пісьменніка, філосафа і багаслова».(5) Хаця фармальна на працу ў Вільню запрасіў Сымона Буднага пратэстанцкі суперінтэндант Сымон Зак (які ў сваю чаргу быў перавезены з Польшчы Мікалаем Радзівілам у той час, калі там пачаліся ганенні на пратэстантаў; далей ён пастаўлены на працу міністрам заснаванага Чорным у Вільні пратэстанцкага збору), насамрэч гэта назначэнне прадыктавана зацікаўленасцю Будным самога Радзівіла. Верагодней за ўсё, такі пачатак стасункаў паміж магнатам і пачынаючым тэолагам прадыктаваны варункамі існуючай на той час субардынацыі.

* Каляровыя ілюстрацыі гл. на стар. 113.

З 11 студзеня 1558 года Сымон Будны выкладае асновы тэалогіі ў Вільні на пасадзе катэхізіста з кафедры галоўнага кальвінісцкага збору Вялікага княства Літоўскага. Пакуль гэта была пасада намесніка міністра збору, але хутка Будны атрымлівае і пасаду міністра кальвінісцкага збору, толькі не ў Вільні, а ў Клецку — рэзідэнцыі Мікалая Радзівіла Чорнага, адным са старэйшых гарадоў Беларусі. Пасля ўцёкаў у 1556 годзе з Клецка і ВКЛ каралевы Боны Радзівіл бярэ на сябе кіраванне Клецкім княствам, на якое яшчэ ў 1551 годзе атрымаў прывілей ад Жыгімонта Аўгуста. Ён адкрывае тут, у былым храме Св. Тройцы, кальвінісцкі збор, у якім спачатку выконвае функцыю міністра. Клецк дзякуючы аўтарытэту і асабістаму прыкладу служэння вучэнню Кальвіна ды й вялікай місіянерскай дзейнасці Мікалая Радзівіла, а таксама намаганням запрошанага з Вільні Сымона Буднага пераўтвараецца ў адзін з буйнейшых цэнтраў пратэстантызму. Менавіта ў Клецку быў падрыхтаваны да друку знакаміты «Катэхізіс» Сымона Буднага, які ў 1562 годзе быў надрукаваны ў суседнім Нясвіжы.[6] Верагодна, плёнам гэтага сяброўства і аднадумства стала выданне Радзівілам у Брэсце, у заснаванай ім друкарні, «Бібліі» — адной з першых кніг на Беларусі, якая ў далейшым атрымала назву Радзівілаўскай Бібліі.[7] Гэтыя факты даюць усе падставы меркаваць, што Сымон Будны і Мікалай Радзівіл былі аднадумцамі, сябрамі і паплечнікамі ў адной агульнай справе — служэнні вялікім ідэалам. Выглядае так, што Радзівіл быў «хросным бацькам» «Катэхізіса» Сымона Буднага, адсюль зусім зразумелая задача выдання яго на «мове народа».

Асоба Мікалая Радзівіла Чорнага не магла не мець асабістага ўплыву на фарміраванне асобы тады яшчэ зусім маладога Сымона Буднага. У часы, калі яны супрацоўнічалі ў Клецку, Радзівіл займаў пасаду




Друкарні і паперні ў Вялікім княстве Літоўскім у XVI — 1-й палове XVII стст.

віленскага ваяводы (першы ваяводскі тытул у дзяржаве), займаў пасады вялікага канцлера ды маршалка земскага — у руках яго была сканцэнтравана вялікая ўлада. «А калі дадаць, што яго стрыечны брат Мікалай Руды быў гетманам вялікім і ваяводам троцкім (другая ваяводская пасада ў дзяржаве), то можна зрабіць выснову, што ў пэўны час Радзівілы фактычна кіравалі Вялікім княствам Літоўскім».[8] Некаранаваным каралём Літвы называлі Мікалая Радзівіла. Адчуваючы ўсю адказнасць за краіну, за сваё даволі кароткае жыццё ён ажыццявіў шэраг праграм, якія дазволілі Вялікаму княству Літоўскаму стаць упоравень, а ў нечым і апярэдзіць краіны Еўропы.

Пад знакам куратарства дзвюх зорных асоб — Радзівіла Чорнага і Радзівіла Рудога — распачаў Сымон Будны сваю выдавецкую дзейнасць. У першай сваёй кнізе — «Катэхізісе» — ён, назіраючы, што і праваслаўныя, і каталіцкія святары не вельмі дбаюць аб духоўнай асвеце народа, бліскучай беларускай мовай, кірылічным пісьмом, у форме пытанняў і адказаў проста і зразумела распавядае аб сутнасці хрысціянскай веры, і, як ён прызнаваўся, «абы вси слова Божия исцины разумиша жаждущии мели, чего бы ся сами учыли и детак сваих навучали».[9] Падставай напісання і выдання гэтай кнігі якраз і паслужыла праца Буднага з сярэдзіны 50-х гадоў катэхізістам у Вільні, затым, у канцы 50-х, пратэстанцкім міністрам у Клецку.

Знаўца і аналітык беларускай рэнесанснай літаратуры Іван Саверчанка сцвярджае: «Катэхізіс» Буднага — гэта не пераклад і не плагіят, а бясспрэчна арыгінальны твор, вынік уласнай творчасці беларускага тэолага і філосафа, хоць у ім натуральна сустракаюцца месцы, агульныя для ўсіх пратэстанцкіх «Катэхізісаў». Без сумневу, «Катэхізіс» 1562 г. — адна з галоўных крыніц вывучэння філасофскіх, тэалагічных, этычных і сацыяльна-культурных поглядаў выдатнага беларускага пісьменніка і мысліцеля XVI ст.».[10]

Не ўстаноўлена імя друкара «Катэхізіса» Буднага, але аналіз шрыфтоў гэтай друкарні паказвае падабенства з друкарскімі асаблівасцямі віленскай друкарні Францыска Скарыны. Мяркуюць, што друкарскія шрыфты першадрукара з Полацка па загаду Астафія Валовіча (на той час падскарбія віленскага)




Помнік Сымону Буднаму ў Нясвіжы.
Скульптар Святлана Гарбунова



Аўтограф
Івана Іванавіча Глябовіча

перавезлі з Вільні, каб па іх узорах вырабляць новыя, якімі далей ужо і карыстаўся друкар у Нясвіжы.

Нясвіжская пратэстанцкая друкарня паўстала ва ўладаннях і па ініцыятыве Радзівілаў, на ўтрыманні нясвіжскага і клецкага кальвінісцкіх збораў. Міністры гэтых збораў, а менавіта Лаўрэнцій Крышкоўскі і асабліва Сымон Будны, угаварылі намесніка гаспадаркі (старасту Нясвіжа) Мацея Кавячынскага да афіцыйнай закладкі друкарні, што давала б магчымасць у Святых кніжках звяртацца да люду беларускага на зразумелай яму мове.(11)

Выхад «Катэхізіса» стаў новым этапам у развіцці беларускага кнігадрукавання. Упершыню з 1522 года, калі спыніўся друкарскі станок Францыска Скарыны, знайшоўся чалавек, які падоўжыў ягоную справу. Без перабольшання можна сказаць, што Будны быў адным з адукаванейшых людзей свайго часу. Навуку ён атрымаў у Кракаўскім універсітэце (ва ўніверсітэцкіх дакументах захавалася ўзгадка пра яго пад 1544 годам). Даследчыкі яго дзейнасці мяркуюць, што вучыўся ён і ў Базельскім пратэстанцкім універсітэце. Ён добра ведаў антычную філасофію, сачыў і за новым словам еўрапейскіх мысляроў, валодаў некалькімі мовамі, а як знаўца «Святога пісьма» быў прызнаным аўтарытэтам ва ўсёй Еўропе.(12)

Прычынай звароту да друкаванага слова праз выданне «Катэхізіса» асветнік тлумачыў імкненнем перашкодзіць распаўсюджванню хлуслівых вучэнняў — «злых рэчаў, якія перамаглі ў царкве». Называючы сябе сціплым слугою Хрыстовай навукі, асветнік галоўную мэту выдадзенага «Катэхізіса» бачыў у тым, каб данесці, наколькі магчыма, сапраўдны сэнс Слова Божага да ўсіх жадаючых. Выданне кнігі адразу прыцягнула ўвагу адукаваных людзей як у Вялікім княстве Літоўскім, так і па-за яго межамі. У Маскоўскай Русі і Польшчы твор не аднойчы перапісвалі, каментавалі ці спрачаліся з выказанымі ў ім думкамі. У 1628 годзе «Катэхізіс» Буднага перавыдалі ў Швецыі з мэтай пашырэння сапраўднай Хрыстовай навукі сярод тых насельнікаў Маскоўскай дзяржавы, якія па ўмове Стаўбцоўскага міру 1617 года перайшлі ў шведскае падданства. (13)

Праз колькі месяцаў пасля выхаду з друку «Катэхізіса», а дакладней — 11 кастрычніка 1562 года, Будны выдаў на старабеларускай мове чарговую кнігу — «Апраўданне грэшнага чалавека перад Богам». Ён прысвячае яе Астафію Валовічу, аб чым сведчыць прадмова да выдання. Забягаючы наперад, заўважым, што менавіта Астафій Валовіч — тая са-

мая асоба, якая садзейнічала Буднаму ў далейшым у крытычныя хвіліны, калі пасля смерці Мікалая Радзівіла Чорнага асветнік застаўся без апекуна. Астафій Валовіч не толькі падтрымаў выдавецкую справу Сымона Буднага, але і стаў пасрэднікам у яго далейшых, вельмі перспектыўных стасунках з Янам Янавічам Глябовічам у Заслаўі.

У сваю чаргу ў Астафія Валовіча былі асаблівыя адносіны з Глябовічамі. Даследчыкі сыходзяцца ў меркаваннях, што ў 40-х гадах XVI стагоддзя ён знаходзіўся пад апекай надзвычай уплывовага тады Яна Юр'евіча Глябовіча (1480—1549), канцлера Вялікага княства Літоўскага, які прыняў маладога чалавека на службу, — таго самага, якому Ганна, дачка Фёдара Заслаўскага, якая стала яго жонкай, прынесла з пасагам частку Заслаўскага замка. Астатнія часткі ў далейшым былі выкупленыя ў іншых нашчадкаў, і з тых часоў Заслаўе стала «родавым гняздом» для некалькіх пакаленняў Глябовічаў.

«Валовіч некалькі год выконваў абавязкі сакратара віленскага ваяводы, аб чым сведчыць перапісаная ім Метрыка Глябовіча за 1546 год. Хутчэй за ўсё па хадайніцтву Глябовіча Валовіч стаў берасцейскім падстарастам. Адбылося гэта ў 1550 годзе, а праз два гады Жыгімонт II Аўгуст прызначыў яго найвышэйшым пісарам Вялікага княства Літоўскага».[15] Так пачалася кар'ера аднаго з найбольш уплывовых у XVI стагоддзі людзей ВКЛ. Валовіч не меў права забывацца на гэта. Да таго ж пры двары ён пазнаёміўся ўжо з сынам Яна Юр'евіча Глябовіча — Янам Янавічам Глябовічам, якога ў сваю чаргу падтрымаў у дзяржаўнай кар'еры. Валовіч садзейнічаў добрым пачынанням Яна Янавіча, у прыватнасці ў справе станаўлення кальвінізму як у краіне, так і ў яго прыватным Заслаўі, дзе малады Глябовіч узвёў кальвінісцкі збор, у скляпеннях якога, паводле тэстаменту, меркаваў быць пахаваным пасля смерці.[16]

Кар'ера ж Сымона Буднага ў Нясвіжы, у тыпаграфіі братоў Кавячынскіх, зведала рэзкія змены. Пачаліся яны, калі пад уціскам палітычных абставін, «у сувязі з пагрозай незалежнасці нашай дзяржавы, беларуская шляхта на палявым Сойме пад Віцебскам у верасні 1562 года прапанавала праект новай дзяржаўнай уніі з Польшчай».[17] Неймаверныя намаганні Мікалая Радзівіла і яго паплечнікаў не здолелі перашкодзіць утварэнню ўніі, а толькі адцягнулі яе наступ (Люблінская ўнія была заключана ў 1569 г., ужо пасля смерці Радзівіла Чорнага, якая наступіла ў маі 1565 года). Пэўнай кампенсацыяй гэтай неверагоднай страты для незалежніцкіх пазіцый нашай краіны было ўсталяванне ў 1566 годзе Статуту Вялікага княства Літоўскага (які быў пэўным гарантам правоў беларусаў на сваёй зямлі). Распрацоўваўся Статут пад наглядам Радзівіла Чорнага, але быў зацверджаны ўжо пасля яго смерці прывілеем Жыгімонта Аўгуста.

Яшчэ пры жыцці Мікалая Радзівіла, пад уціскам палітычных абставін аўтарытэт пратэстантаў і пратэстанцтва пахіснуўся. Беларуская мова ў краіне пачала здаваць пазіцыі, і найперш у выдавецкай справе. «Надзеі Буднага і яго паплечнікаў на разгортванне кірылічнага кнігадрукавання не спраўдзіліся галоўным чынам па грамадска-палітычных прычынах. Рэфармацыйныя рухі не знайшлі моцнай падтрымкі з боку большай

часткі простага насельніцтва Беларусі і Украіны, якое трымалася традыцыйнай веры і звязвала пагаршэнне свайго матэрыяльнага становішча з узнаўленнем польскіх уплываў і шляхецкіх вольнасцяў. Відавочная роля беларускіх і літоўскіх магнатаў і паноў у Рэфармацыі, а таксама даволі жывыя сувязі рэфармацыйных абшчын з польскімі зборамі, здаецца, толькі падмацавалі гэтыя асцярогі».[18]

Нясвіжская пратэстанцкая друкарня змяніла стратэгію выдавецкай справы, адмовіўшыся ад кірыліцы. Перавага цяпер аддаецца польскай і лацінскай мовам. Сымон Будны пры гэтых абставінах у наступныя гады ўсё менш і менш апякуецца друкарскай справай. А напачатку заснавання друкарні ў Нясвіжы быў яе духоўным лідэрам і фактычна адзіным аўтарам першых нясвіжскіх выданняў, аб чым існуюць сведчанні яго сучаснікаў. Да таго ж канкурэнцыі яму ў бліскучым валоданні кірылічным пісьмом (старабеларускай мовай) фактычна не існавала. Са сваіх сціплых даходаў асветнік вынаходзіў магчымасці выдаткоўваць сродкі на долевае фінансаванне накладаў кірылічных выданняў. Але ўсе гэтыя намаганні пры новых абставінах выглядалі марнымі. Прыйшлі іншыя часы, новая ўлада, іншыя парадкі.

Смерць галоўнага патрона Сымона Буднага, Мікалая Радзівіла Чорнага, была для яго першым сакрушальным узрушэннем. Разам з гэтай стратай адыйшлі ілюзіі аб стварэнні паўнацэннага гарманічнага нацыянальнага духоўнага асяродка. Будны ў далейшым праз усё жыццё, нават у светлыя яго часіны, так і не аправіўся ад гэтай страты, а лекаваўся напружанай, самаадданай працай — на гэты раз па перакладу Бібліі з арыгіналаў на польскую мову (гэтак дыктавалі абставіны і новая рэчаіснасць). Даследчыкі адзначаюць у яе тэкстах вялікую колькасць напісаных лацінкай беларускіх слоў: такім чынам Будны часткова адаптаваў для айчыннага верніка і чытача незразумелыя рэлігійныя тэрміны. Гэта быў сціплы штрых яго даніны вялікай ідэі.

Яшчэ працуючы ў Клецку, Сымон Будны пашырае творчыя кантакты праз ліставанні і ўдзел у шырокіх рэлігійных дыскусіях з вядучымі дзеячамі заходнееўрапейскай Рэфармацыі. З сярэдзіны 60-х ён фактычна узначаліў беларуска-літоўскае адгалінаванне рэфарматараў. Апорай рэфармацыйнага руху на Беларусі была магнатэрыя, бо рух так і не здолеў, у многім і па вышэй азначаных прычынах, ахапіць шырокія слаі тагачаснага Вялікага княства Літоўскага. Пры ўсіх недахопах заслугай беларускай Рэфармацыі былі «значныя зрухі ў грамадскім, палітычным і духоўным жыцці, пашырэнне культурных і палітычных сувязяў з краінамі Заходняй і Цэнтральнай Еўропы, пранікненне рэнесанснай культуры, гаспадарчы ўздым, які суправаджаўся ростам таварна-грашовых адносін, развіццём фальваркавай эканомікі, аграрнай рэформай, умацаваннем гарадскога самакіравання».[19]

Другой яго праблемай выглядала тое, што гэта быў усяго толькі рух, які меў значны ўплыў на далейшае жыццё краіны, але застаўся эпізадычным «прасветам» у ім, што атрымаў назву «Залатога веку Беларусі». Рэфармацыя Сымона Буднага найперш несла новыя ідэі, другі светапогляд, што

знайшло адлюстраванне ў новым прачытанні Бібліі. У гэтым і была высокая місія Сымона Буднага, што ён здзейсніў пераклад Новага і Старога Запаветаў, багата аздобіўшы яго каментарыямі, у якіх заключалася задача давесці прагрэсіўныя погляды асветнікаў. Здзейснілася яна ў многім у выніку заслаўскага перыяду жыцця і творчасці Буднага, нягледзячы на ўвесь трагізм збегу акалічнасцей таго часу.

Адзін з самых адукаваных дзеячаў еўрапейскай Рэфармацыі, Сымон Будны быў прыхільнікам паступовага развіцця грамадства, бо ведаў вынікі радыкальных падыходаў у Еўропе, асабліва калі яны грунтаваліся на насіллі, паўстаннях і бунтах. Тым не менш ён на чале значнай групы беларуска-літоўскіх антытрынітарыяў кідае выклік двум рэгіянальным адгалінаванням антытрынітарскага руху Рэчы Паспалітай — люблінскім братам (Марцін Чаховіч, Ян Немаеўскі, Станіслаў Фарноўскі і інш.) і віленскай абшчыне (суперінтэндант Мікалай Вендрыхоўскі). Суперінтэндант хелмскага збору Мікалай Жытна прапанаваў Вендрыхоўскаму выкарыстаць свае сувязі з Радзівілам і спыніць далейшую выдавецкую дзейнасць у Нясвіжы. Фактычна нясвіжскаму намесніку Мацею Кавячынскаму была дадзена ўстаноўка спыніць друк «ядавітых» кніжак Буднага.[20]

На гэты час Сымон Будны працаваў міністрам у клецкім зборы. Намеснік нясвіжскі звольніў яго і з гэтай працы. І тады, у 1565 годзе, ён пераходзіць са службы ў Радзівілаў да Кішкаў. Такі збег акалічнасцей пазбавіў Буднага непазбежных непрыемнасцей, якія напаткалі іншых пратэстанцкіх і арыянскіх святароў, у тым ліку і яшчэ аднаго з заснавальнікаў нясвіжскай друкарні — Лаўрэнція Кшышкоўскага, калі іх дзесьці каля 1571 года Міхаіл Крыштаф Радзівіл Сіротка звольніў з прававедніцкай службы ў сваіх уладаннях.[21]

У клецка-нясвіжскі перыяд Сымон Будны быў удзельнікам літаратурнага гуртка, у склад якога ўваходзілі Андрэй Тшэцескі, Якуб Любельчык, Гжэгаш Аршах, Пётра Статорыўс, Джордж Шоман, Тананд, Старкар і інш. (іх стараннем у Нясвіжы быў здзейснены першы пераклад Бібліі). Іх праца падштурхнула Буднага на больш глыбокі экзэгетычны і тонкі філалагічны яе пераклад. Але страта ў гэты час Мікалая Радзівіла Чорнага, які неверагодна шмат зрабіў для асветніка, перашкодзіла рэалізацыі задумы.[22]

З клецкай пасады па запрашэнні віцебскай ваяводзіны Ганны Кішчанкі (у дзявоцтве — Радзівіл) Сымон Будны пераходзіць на працу міністрам арыянскага збору ў Хохлаве. Акрыялы творца з захапленнем пачынае пераклад Бібліі, а ў 1570 годзе, пасля 5-6 год руплівай працы, друкуе Новы Запавет і Апокрыф. Выданне прафінансаваў Мацей Кавячынскі, але калі яно друкавалася, Сымон Будны з нейкіх прычын з'ехаў з Хохлава і ўжо працаваў катэхізістам у заслаўскім кальвінісцкім зборы пад патранатам згаданага вышэй Яна Янавіча Глябовіча. Магчыма, з'езд Буднага з Хохлава быў звязаны з нямогласцю або смерцю Ганны Кішчанкі Радзіваловай. Яе муж — віцебскі ваявода Станіслаў Пятровіч Кішка — памёр раней, у 1554 г.. Ганна мела дачку і сыноў — Станіслава і Яна Кішкаў. З апякунствам апошняга звязаны вялікі плённы паслязаслаўскі перыяд дзейнасці асветніка.

Кальвінісцкі збор і прыход у Заслаўі былі заснаваныя Янам Янавічам Глябовічам. Напачатку міністрам тут працаваў Качаноўскі, пасля смерці якога Глябовіч і запрасіў на гэту пасаду Сымона Буднага, дзе ён 15 чэрвеня 1572 года ў пасляслоўі да Старога Запавету пазначыў заканчэнне перакладу Бібліі. Праца над ёй у Заслаўі была цяжкой, бо з прычыны вялікай колькасці папярэдніх праблем і чарады хуткаплынных перамен у жыцці, страты аднаго за другім мецэнатаў-апекуноў, шматлікіх пераездаў і змен асноўных месцаў працы, у тым ліку і праз напружаную бесперапынную дзейнасць па перакладу Бібліі Сымон Будны страціў зрок. Гэта было кульмінацыяй яго трагедый на піку творчай дзейнасці. Тым не менш пры дапамозе яўрэйскага хлапчука, які чытаў яму на іўрыце, Будны працягваў працу па перакладу. Яшчэ ён вельмі многа маліўся Богу, каб той вярнуў зрок — яму неабходна было завяршыць пераклад Бібліі... І зрок вярнуўся. Пра гэта мы даведваемся з ліста Сымона Буднага з Заслаўя да Любенскага ад 29 красавіка 1572 года.

Пераклад Бібліі, зроблены Сымонам Будным, меў складаны шлях да паўнацэннага выдання. Існавала два яго варыянты: першая кніга варыянта 1572 года — «Новы Запавет» — была надрукавана ў 1570 годзе на сродкі Мацея Кавячынскага. «Стары Запавет» друкаваўся ў 1572 годзе, ужо пасля смерці Мацея Кавячынскага, на сродкі братоў — Гектара і Альбрэхта Кавячынскіх.

Пасля выдання ў 1570 годзе першай з гэтых кніжак арыянская друкарня ў Нясвіжы была закрыта. Пра гэта сведчыць ліст Мікалая Крыштафа Радзівіла Сіроткі да высокапастаўленай асобы ў Нясвіжы — Геронія Макавіцкага, датаваны 1571 годам (захоўваецца ў Санкт-Пецярбурзе), дзе Радзівіл загадвае закрыць друкарню. Яе перанеслі ў іншае месца, верагодней за ўсё, у Заслаўе[23], нездарма ж Ян Янавіч Глябовіч будаваў тут дыхтоўную каменную паперню. У яго і ў іншых маёнтках меліся такія, напрыклад, паперня ў Міцкунай ля Вільні, Лідскі павет. Глябовічам яна належала з 1657 года, у вадзяных знаках выкарыстоўвала геральдычную выяву «леліва», спалучаную з ініцыяламі ўладальніка. Яшчэ адна знаходзілася ў Дуброўне — родавым маёнтку Глябовіча, дзейнічала з пачатку стагоддзя па 1645 год. Вадзяныя знакі заслаўскай паперні захаваліся па сённяшні дзень. У інвентары Заслаўя, складзеным у 1760 г. з нагоды продажу яго мужам і жонкай Крысцінай Сапежанкай з Глябовічаў і Казімірам Сапегам рэфендарыю літоўскаму А. Пшаздзецкаму, апісваецца папяровы млын у Заслаўі, які дзейнічае. [25]

На карысць існавання перанесенай Кавячынскім з Нясвіжа заслаўскай друкарні сведчаць многія навукоўцы. Адзін з іх — пратэстанцкі гісторык Санда. У сучаснай навуковай літаратуры аб гэтым сцвярджаецца ў Беларускай энцыклапедыі: «Друкар Даніэль Лянчыцкі ў 1571—1572 гадах друкаваў кнігі ў Заслаўі»; а яшчэ ў кнізе А. Анушкіна «Даніэль Лянчыцкі ў 1571 г. перабіраецца ў Заслаўе, у маёнтак каштэляна мінскага Яна Глябовіча, дзе ўжо было заснаванае выдавецтва».[27] Яшчэ мы маем адпаведнае сведчанне адмысловага знаўцы гэтай праблематыкі Ляўцявічуса: «Мацей Кавячынскі, заснавальнік і ўладар паперні і тыпа-

графіі ў Нясвіжы, быў намеснікам Радзівілаў і распаўсюджвальнікам арыянізма ў Літве. Калі Мікалай Крыштаф Радзівіл прыняў каталіцтва, М. Кавячынскі быў выдалены з Нясвіжа і перайшоў пад патранат іншага прапаведніка арыянізма, ваяводы троцкага Яна Янавіча Глябовіча, уплывовага літоўскага магната, што пражываў у Заслаўі. З прычыны таго, што тыпаграфія і паперня ў Нясвіжы былі ўласнасцю Кавячынскага, ён перанёс тыпаграфію ў Заслаўе, а новы папяровы млын збудаваў у сваім маёнтку. Пасля смерці Мацея Кавячынскага тыпаграфіяй і паперняй валодалі яго браты».[28]

Абедзве кнігі першага варыянту выдання Бібліі мелі прадмовы. Першая з іх (1570) змяшчала наступны тэкст: «Надрукавана ў Нясвіжы накладам Мацея Кавячынскага, старасты нясвіжскага, друкаром Даніэлям з Ленчыц у 1570 г.», і ён натуральна адпавядае рэчаіснасці. Толькі гэта кніга не магла задаволіць Буднага, бо застрашаныя Кавячынскія і Кшышкоўскі не сталі друкаваць у ёй уступную прадмову перакладчыка, а з перакладу знялі ўсё, што было вынікам крытычных даследаванняў Буднага (шматлікія тлумачэнні да Бібліі) са змененым парадкам чарговасці кніг Новага Запавету. Сымон Будны адракаецца ад гэтага выдання: «Гэты пераклад прыпісвайце каму хочаце, толькі не мне».

Другая кніжка Бібліі Буднага мела болей шчаслівы лёс. Калі асветнік працаваў над яе перакладам, разыгралася нясвіжская трагедыя Мацея Кавячынскага з яго выгнаннем з радзівілаўскіх маёнткаў. Годны і ганарлівы гаспадарнік на працягу многіх год у сядзібах Мікалая Радзівіла Чорнага, ён лёгка распараджаўся лёсамі многіх людзей, у тым ліку і Сымона Буднага. Цяпер самому Мацею давялося зведаць пакут і перажыванняў. Мацей Кавячынскі арганізаваў працяг выдання Бібліі ў Заслаўі, але здзейсніць яго ўжо не здолеў праз заўчасную смерць. Яго браты разгубіліся: сродкаў неставала, і сам выдавецкі працэс звычайна кантраляваўся братам. Будны скарыстаў сітуацыю і напрасіўся на дабрачынную працу карэктарам пры друку Старога Запавету. Кавячынскія страцілі пільнасць альбо «закрылі вочы» на тое, што ў другой частцы Бібліі перакладчык аднавіў усе тлумачэнні.

Ажыццявіць поўнае выданне перакладу Бібліі Сымону Буднаму ўдалося толькі ў Лоску, у 1574 годзе, у друкарні Яна Кішкі, які выкупіў яе у Кавячынскіх і стварыў выключныя ўмовы для далейшай плённай шматгадовай творчай працы Сымона Буднага — слыннага дзеяча эпохі Рэнесансу на Беларусі.

Спасылкі:

1. Саверчанка І.В. Кніжна-пісьмовая культура Беларусі. Мн., 1998, ст. 52.

2. Анушкин А. На заре книгопечатания в Литве. Вильнюс, 1970, с. 31—32.

3. Чаропка В. Працу маю ацэняць нашчадкі. // Беларуская мінуўшчына. № 4, 1997, ст. 47.

4. Парэцкі Я.І. Сымон Будны. Мн., 1975, ст. 11—12.

5. Саверчанка І.В. Сымон Будны гуманіст і рэфарматар. Мн., 1993, ст. 13.

6. Канановіч У. Клецкія Радзівілы. // Беларуская мінуўшчына, № 2, 1996, ст. 10

7. Грыцкевіч А. Мікалай Радзівіл Чорны. // Славутыя імёны Бацькаўшчыны. Мн., 2000, ст. 25.

8. Грыцкевіч А. Мікалай Радзівіл Чорны. // Славутыя імёны Бацькаўшчыны. Мн., 2000, ст. 21.

9. Чаропка В. Працу маю ацэняць нашчадкі. // Беларуская мінуўшчына.№ 4, 1997, ст. 47.

10. Саверчанка І.В. Сымон Будны гуманіст і рэфарматар. Мн., 1993, ст. 23.

11. Tapolska M.N. Gzytelnik Ieksiazka w Wielkim Knieastwie Litewskim w dobie Renesansu I Baroku. Zaklad Narodowy im. Ossolinskih — Wydawnictwo, Wroclaw, 1984, s. 90.

12. Чаропка В. Працу маю ацэняць нашчадкі. // Беларуская мінуўшчына. № 4, 1997, ст. 46—47.

13. Саверчанка І.В. Сымон Будны гуманіст і рэфарматар. Мн., 1993, ст. 22—23.

14. Tapolska M.N. Gzytelnik i ksiazka w Wielkim Kniastwie Litewskim w dobie Renesansu i Baroku. Zaklad Narodowy im. Ossolinskih — Wydawnictwo, Wroclaw 1984, s. 67—68.

Саверчанка І.В. Сымон Будны гуманіст і рэфарматар. Мн., 1993, ст. 18, 19.

15. Марціновіч А. Годны муж дзяржаўны Астафій Валовіч. // У часе прасветленыя твары. Мн., 1999, ст. 56.

16. Тэстамент Яна Янавіча Глябовіча, ваяводы Троцкага (1544—1590) — у AGAD. AR. dz. XI, nr 38. s. 215—227.

17. Грыцкевіч А. Мікалай Радзівіл Чорны. // Славутыя імёны бацькаўшчыны. Мн., 2000, ст. 24.

18.. Грыцкевіч А. Мікалай Радзівіл Чорны. // Славутыя імёны бацькаўшчыны. Мн., 2000, ст. 41.

19. Іванова Л. Рэфармацыйны рух на Беларусі // Беларускі гістарычны часопіс, № 2, 1997, ст. 55.

20. Галенчанка Г. Сымон Будны // Славутыя імёны Бацькаўшчыны. Мн. 2000, ст. 44—45.

21. Merczyng Henryk. Szymon Budny jako krytyk tekstów biblijnych. Krakow. 1913, s. 40.

22. Саверчанка І.В. Сымон Будны гуманіст і рэфарматар. Мн., 1993, ст. 32.

23. Гаранская Т.Г. Будны ў Заслаўі. // Заслаўе на меншчыне. Мн., 1989 (прынтнае выданне, 68 старонак), ст. 48—49.

24. Ляуцявичюс Э. Бумага в Литве в XV—XVIII веках. Вильнюс, ст. 71, 75.

25. Ляуцявичюс Э. Бумага в Литве в XV—XVIII веках. Вильнюс, с. 76—77.

26. Беларуская энцыклапедыя. Мн., 1999, т. 9, ст. 426.

27. Анушкин А. На заре книгопечатания в Литве. Вильнюс, 1970, с. 113—114.

28. Ляуцявичюс Э. Бумага в Литве в XV—XVIII веках. Вильнюс, ст. 76.

**Гаранская Т. Г.**

# Карэнні хрысціянства крывіцкай зямлі і Заслаўе*

Рагнеда!
— «Хто яна? У стомленым гудзе год не чуваць яе слёз.
Звалі Рагнедаю людзі, зваў Гарыславаю лёс».

Гэтыя радкі з паэмы Таісы Бондар надзвычай трапныя таму, што перадаюць непасрэдны імпульс як трагічнасці, так і велічы лёсу гэтай асобы, якая, верыцца, будзе разам з сынам Ізяславам кананізаваная Царквой.

Цяпер добра вядома, што летапісцы, па творах якіх мы мяркуем пра пачатковую гісторыю свайго народа, месцамі падтасоўвалі факты гэтай гісторыі па загаду князя, які на той час меў уладу. Але і тады быў стрымліваючы фактар: побач былі іншыя краіны, прадстаўнікі якіх непасрэдна бралі ўдзел у агульных гістарычных падзеях. У гэтых краінах таксама пісаліся летапісы. Таму летапісцам для давядзення інтарэсаў іх князёў пакідалася даволі вузкая шчыліна інтэрпрэтацый канкрэтных падзей, якія будаваліся на варыяцыях дэталяў і нюансаў.

Сёння, каб вызначыць сапраўдныя пазіцыі, раскладку інтарэсаў і мэтаў кожнай з палітычных сіл, што фігуравалі ў кантэксце канкрэтных гістарычных падзей, навукоўцам даводзіцца скрупулёзна вывучаць і аналізаваць менавіта нюансы і акалічнасці, якімі розняцца летапісы ды хронікі адных і тых жа падзей у розных народаў. У выніку часам паўстаюць зусім нечаканыя гіпотэзы, якія не маюць прамога сведчання ў летапісах, але шмат дэталяў у аповедах летапісцаў і натуральная логіка, што аб'ядноўвае іх, адкрываюць нам цікавыя, а часам проста надзвычай важныя аспекты нашай гісторыі.

Да такіх належаць старонкі біяграфіі Рагвалода, Рагнеды, Ізяслава, большая частка якіх дасюль стракаціць белымі плямамі. Але яны паддаюцца рэканструкцыі, да якой падступіліся многія гісторыкі. Мы ж зробім спробу іх падсумаваць, каб болей выявіць карціну мінуўшчыны, значную ў аспекце вывучэння гісторыі як Заслаўя, так і ўсёй Беларусі: яна ж надзвычай актуальная і ў плане вывучэння беларускага менталітэту ў сэнсе разумення пластоў духоўнасці нацыі.

Усё часцей гісторыкі схіляюцца да думкі, што хрышчэнне палачане ўзялі не ад Кіева, а непасрэдна з Візантыі. Сярод такіх навукоўцаў, што вывучалі Полацкі летапіс, які не захаваўся да нашага часу: найбольш аўтарытэтнымі прызнаюць меркаванні В. Тацішчава.(1)

Пра гэта ж пісаў сучасны аўтар У. Арлоў: «Як бы ні хацелася камусьці аб'явіць хрысціцелем крывіцкае зямлі кіеўскага князя Уладзіміра, новая вера прыйшла непасрэдна з Візантыі».(2)

Вынікае, што калі язычнікі Уладзімір ды Яраполк сваталіся да Рагнеды, яна ўжо магла быць хрысціянкай. Таму лагічнай паўстае адмова

---

* Каляровыя ілюстрацыі гл. на стар. 114.

Рагнеды на сватаўство Уладзіміра і наданне перавагі Яраполку, які «...біў хрысціян, і калі сам не хрысціўся, баючыся народа, то, прынамсі, другім не перашкаджаў».[3]

Якраз прыхільнасць хрысціянкі Рагнеды на шлюб з Яраполкам з падтрымкай магутнага Рагвалода магла б надаць смеласці Яраполку прыняць хрысціянства і ўслед за гэтым узяць шлюб з палачанкай. Магчыма, цераз гэтую акалічнасць, якая вымагала пэўнага часу дзеля рэалізацыі, Уладзімір, для якога пазіцыя сілы і ўласныя інтарэсы былі пераважнымі, здолеў апярэдзіць Яраполка, ажыццявіўшы свае памкненні гвалтам. Паразу Яраполка Уладзіміру як вынік прыхільнасці да хрысціянства, акрамя Тацішчава, даводзіць С. Салаўёў.[4] Гісторык М. Ермаловіч заўважае мажлівасць такой сітуацыі праз уплыў выхавання Яраполка яго бабуляй, хрысціянкай-княгіняй Вольгай.[5]

Довады даследчыкаў перавагі Рагвалода і Рагнеды ў бок Яраполка як пашаны яго вайсковай моцы перад Уладзімірам не маюць пад сабой сур'ёзных падстаў, і гэта пацверджана ходам наступных гістарычных падзей, калі Уладзімірава войска, нават аслабленае пасля бойкі з магутным Рагвалодам, без асаблівых намаганняў узяло Кіеў.

Не пераконвае заўвага, што годная Рагнеда ўсё роўна не пайшла б за Яраполка, бо ў яго на гэты час ужо была жонка — палонная грачанка: не перашкодзіла ж візантыйскай царэўне Ганне пайсці за Уладзіміра, які на той час меў болей за 300 жонак і наложніц...

Не працуе супраць нашай канцэпцыі летапісны тэкст: «Не хачу разуці рабыніча», — па-першае, таму, што, па меркаванню гісторыкаў, гэтыя словы маглі быць дамысленыя і прыпісаныя Рагнедзе аўтарамі летапіснага падання.[6]

Па-другое, элементы многіх шлюбных, радзільных, пахавальных і іншых абрадаў перайшлі ў царкоўную абраднасць, і гэта шырока вядома. Такім чынам, абрад разування абранага жаніха і яго выкананне не мог дысансаваць з хрысціянскімі ўстоямі. Многія з язычкіх абрадаў, асабліва звязаныя з ручнікамі як абрадавым атрыбутам, шырока распаўсюджаныя ў хрысціянскай абраднасці і цяпер.

Калі мы прымаем пазіцыю, што да трагічнага сватаўства Уладзіміра і Яраполка Рагнеда і Рагвалод былі хрысціянамі, адразу лагічна і лёгка выбудоўваецца наступная хада падзей, якая ў выпадку непрыняцця гэтай канцэпцыі дзівіць мноствам алагізмаў.

Першы, і самы галоўны: ці варта было Уладзіміру браць Полацк і гвалтам жаніцца на Рагнедзе з мэтай далучэння Полацкага княства да кіеўскіх земляў, каб праз нейкіх 5—6 год проста так, у падарунак Рагнедзінаму сыну Ізяславу перадаць іх з наданнем асаблівага статуса самастойнасці, у адрозненне ад надзелаў, перададзеных іншым сынам? У першую чаргу супраць гэтага рашэння, не будзь за ім значных падстаў, а не толькі бацькоўскае замілаванне сынам, як гэта даводзілі дасюль, узбунтаваліся б і кіеўскае веча, і баярская эліта: дзеля чаго тады галовы паклалі воі, беручы ў бойках Полацк і Кіеў? Значыць, іх пралітая кроў была дарэмнай? А як звычайна паступаў узбунтаваны кіеўскі люд з непаслухмяным кня-

зем, мы добра ведаем хаця б на прыкладзе славутых падзей XII стагоддзя, калі кіеўляне запрасілі на кіеўскі стол палоннага Усяслава, а ўласнага князя прагналі з горада...

Заканамерна паўстае выснова, што падставы для перадачы Полацка Ізяславу былі абстаяльнымі, прычыны глыбокія, сітуацыя адназначная. Паспрабуем яе рэстаўраваць на падмурку вышэй азначанай канцэпцыі.

У адной са службаў IX стагоддзя, прысвечанай гібелі палонных візантыйцаў у Балгарыі пад час праследавання хрысціян, захопленых у раёне Андрыёпаля ў 813 годзе ханам Крумам, узгадваюцца мучанікі са славянскімі імёнамі — Любамір і Хатамір. Безумоўна, хрысціянінам быў і Фама Славянін, які ўзняў паўстанне ў 820—823 гадах, і іншыя асобы славянскага паходжання, што вызначыліся на вайсковай ці грамадзянскай службе ў Візантыі ў VIII — пачатку IX стагоддзяў. Вядомы таксама асобы (са славян), якія зрабілі духоўную кар'еру. У 766—780 гадах патрыяршы прастол займаў Мікіта Славянін, у 40-х гадах IX ст. — нейкі Дамян Славянін, які раней займаў важны пост паракімамена, ён жа заснаваў манастыр у Канстанцінопалі.

VIII—IX стагоддзі — перыяд мноства вайсковых паходаў Візантыі да славян (русь, балты, балгары) і наадварот. Кожны чарговы паход узмацняў залежнасць славян ад Візантыі, але славяне, становячыся даннікамі, саюзнікамі ці федэраламі імперыі, у сваім уласным жыцці кіраваліся ўнутранымі нормамі ды законамі.

У выніку амаль двухсотгоддзя сімбіёзу з візантыйскім насельніцтвам адбывалася падрыхтоўка славян да ўспрыняцця новай веры. Вялікую ролю ў гэтым адыгрывалі манастыры, якія засноўвалі на славянскіх тэрыторыях візантыйскія місіянеры. Пры гэтых манастырах, якія існавалі і як адукацыйныя цэнтры, набывалася адукацыя. Менавіта Візантыя стымулявала ўтварэнне славянскай азбукі і пісьменства з мэтай забеспячэння хрысціянскіх місій сярод славян, бо лічылася, што поспех хрысціянскай візантыйскай місіі сярод славян у многім залежыць ад пропаведзі на родных для славян мовах.[(7)] Ёсць сведчанні пра тое, што ў першай палове IX стагоддзя славянская азбука выкарыстоўвалася як у побыце (на днішчах гаршкоў, на замках і інш.),[(8)] так і ў дзелавой перапісцы. Кнігі на славянскай мове ўжываліся ў кіеўскай царкве прарока Іллі, што ўзгадвалася ў дамове 944 года, а згарэла да хрышчэння Русі.[(9)]

Плацдармам стратэгій з боку Візантыі, якія меркавалася праводзіць праз хрысціянізацыю кіруючай вярхушкі славянскіх народаў — князёў і да іх набліжаных, зрабіліся найбольш буйныя гандлёвыя ды адміністратыўныя цэнтры, што паўставалі на вузлавых кропках гандлёвага шляху «з варагаў у грэкі». Адным з магутнейшых сярод такіх быў Полацк, дружыннікі якога ў 907—911—941—944 гадах хадзілі ў паход на Царград — Канстанцінопаль, сталіцу Візантыйскай імперыі (Полацк мы знаходзім у пераліку гарадоў, якім Царград плаціў даніну). Скандынаўскія краіны гэтаксама зазналі моц вайсковай сілы палачанаў, што давалі належны адпор пад час набегаў варажскіх рабаўнікоў, таму апошнія аддавалі перавагу сяброўскім зносінам з Полацкам, што

будаваліся на пазіцыях партнёрства ў справах гандлю. Таму не аднойчы Полацеск, Полцеск, Полацьск трапляе на старонкі скандынаўскіх сагаў.

З другога боку, у сярэдзіне IX стагоддзя сфармаваўся палітычны трохкутнік Кіеў—Ноўгарад—Полацк,[10] у якім апошняму выпала на той час роля вызначаць перавагу Кіева над Ноўгарадам і наадварот, у залежнасці ад стасункаў зносін з Полацкам: з кім быў Полацк, той і выйграваў. Так ці іначай Полацкай зямлі з гэтых часоў давялося ў многім вызначаць першынства ў рэгіёне, а значыць, трапіць пад увагу Візантыі, якая выдатна арыентавалася, дзе ў першую чаргу неабходна забяспечваць свае інтарэсы.

Адсюль зразумела, чаму яшчэ ў IX стагоддзі паралельна паўсталі цэрквы: у Кіеве — царква прарока Іллі, у Ноўгарадзе — царква Спаса, у Полацку — царква Святога Іаана. Царква Святога Іаана была пры манастыры Іаана Хрысціцеля.[11]

У. Арлоў дапускае, што гэта быў першы ва ўсходніх славян манастыр. Ён жа піша, што знайсці высокую гару, на якой стаяў гэты манастыр у Полацку, не ўяўляе складанасці.[12]

Зусім лагічна, што манастыры выконвалі і на Полаччыне тую місію, з якой паўставалі: з'яўляліся адукацыйнымі і місіянерскімі цэнтрамі. Місіянераў Візантыя рыхтавала з людзей славянскага паходжання ці блізкіх да такіх. Да таго ж кірылічная пісьмовасць трапіла на крывіцкія тэрыторыі задоўга да афіцыйнага прыняцця хрысціянства на гэтых землях.[13] Таму, калі ў гістарычных крыніцах сустракаем звесткі аб перапісцы знаці ці вядзенні дыпламатычнай дакументацыі славянскімі князямі, гэта ўспрымаецца натуральным. Вось яшчэ адно пераканаўчае сведчанне — у 945 годзе дамову з Візантыяй побач з кіеўскім князем Ігарам падпісала полацкая княгіня Прадслава.[14] Можна дапусціць, што менавіта Прадслава калі не заснавала манастыр Іаана Хрысціцеля, то актыўна спрыяла яго пабудове. Ці не яе легендарная постаць натхніла Еўфрасінню Полацкую на хрысціянскі шлях? Ці не ў гонар прапрабабкі Еўфрасіння атрымала імя Прадслава?

З'яўленне імені палачанкі побач з імем князя Ігара ў гістарычным дакуменце 945 года, які і цяпер прыводзіцца кожным значным гісторыкам у даследаваннях падзей IX—X стагоддзяў на славянскіх тэрыторыях, а на тыя часы быў сярод лёсаносных дакументаў, мела ўнікальнае, вельмі важнае значэнне. За гэтым, здавалася б, дробязным фактам, паўстае вылучэнне палачанкі ў шэраг палітычных лідэраў свайго часу. Энергія значнасці гэтай асобы, якая, мабыць, была бабуляй князёўны Рагнеды, не магла не паўплываць на фармаванне характару, грамадзянскага тэмпераменту, самасвядомасці дачкі Рагвалода. Менавіта годнасць, розум, славутасць Прадславы ў значнай ступені маглі стаць узорам жыццёвых пазіцый для ўнучкі — Рагнеды. І яна з годнасцю прайшла свой, напоўнены пакутамі, выпрабаваннямі і пачэснай місіяй выхавання Ізяслава — хрысціяніна, кніжніка — жыццёвы шлях.

Постаць першай манашкі на славянскіх землях Рагнеды, і першаасветніка Ізяслава да такой ступені былі напоўненыя духоўнай моццу і



Пячатка полацкага князя Ізяслава — сына Рагнеды

святлом, што яны не толькі сталі аднымі з самых яркіх асоб на старонках летапісаў, якія апісвалі падзеі тых часоў, але і ў легендарных апаведах захаваліся да нашага часу, фарміруючы ў пэўнай ступені нашу свядомасць, нашу жыццёвую пазіцыю, нашу годнасць. А што казаць пра тых людзей, якія жылі з імі ў адной эпосе і ўдзельнічалі ў адных і тых жа гістарычных падзеях?

Менавіта з гэтай пазіцыі натуральна было б разглядаць трагедыю, што адбылася каля 80 года X стагоддзя ў Полацку: не да язычніцы, а хутчэй за ўсё да адукаванай хрысціянкі сваталіся Уладзімір і Яраполк. Таму прыхільны да хрысціянства, хаця і слабейшы вайсковай сілай Яраполк быў прыязна сустрэты Рагнедай ды Рагвалодам, а Уладзіміру было адмоўлена. Перамагчы Рагвалода і гвалтоўна парадніцца з Рагнедай, пагарджаючы яе хрысціянскай чысцінёй, было вельмі важна для Уладзіміра не толькі таму, што ён аб'ядноўваў гэтым самым свае тэрыторыі з полацкімі землямі. Знішчыўшы і прыхільнага да хрысціянства ўласнага брата Яраполка, князь гэтым самым кідаў выклік Візантыі, які вельмі хутка рэальна замацаваў, як толькі ўзяў Кіеў. Услед адразу ён рушыў з войскам на Канстанцінопаль.

Візантыйскія правіцелі моцна занепакоіліся, і дзеля перасцярогі непрадказальных, верагодней за ўсё, трагічных для імперыі наступстваў, дзеля абуздання неўтаймаванага Уладзіміра, пусцілі ў ход увесь набор вопыту дыпламатычных хадоў, палітычных хітрыкаў і псіхалагічных авантур, ахвяраваўшы дзеля галоўнай мэты царэўнай Ганнай. Комплекс усіх сродкаў, умела скамбінаваных і стратэгічна ўдала праведзеных, дазволілі Візантыі выйграць самую складаную, самую адказную бойку на шляху хрысціянізацыі славян праз хрышчэнне Уладзіміра.

Пры такой трактоўцы падзей зразумелымі становяцца ўчынкі як Уладзіміра, так і Рагнеды, вядомыя нам з летапісаў:

Уладзімір, прыняўшы хрысціянства, вяртаецца ў Кіеў. Цяпер яго жонка — візантыйская царэўна Ганна.

Рагнеда павінна змірыцца з тым, што не праз яе, а праз Ганну Уладзімір прыняў хрысціянства, што замест яе Ганна будзе жыць у стольным Кіеве, што не засталося надзеі пры паўстаўшым нізкім статусе Рагнеды ў Кіеўскай дзяржаве на адраджэнне Бацькаўшчыны.

Пераламаць сябе не ўдаецца. Рагнеда спрабуе забіць мужа, але замах быў няўдалы. У абарону маці супраць Уладзіміра выйшаў малалетні сын Ізяслаў з мечам у руках. Гэты ўчынак дзіцяці, верагодна, падказаны Рагне-

дай, выглядаў з аднаго боку наіўным (маленькі — супраць бацькі), з другога — як знак-напамін, што за крывіцкімі князямі моц, святло і праўда.

Ці перакананне новай веры, ці замілаванне смеласцю Ізяслава, ці азіранне на ацэнкі ўчынкаў Уладзіміра візантыйскай і скандынаўскай знаццю, дзе Рагнеду ведалі ды паважалі, а магчыма, усё разам, не дазволілі Уладзіміру ўчыніць расправу над непакорлівай жанчынай. Рагнеду ціла і кіеўская эліта, таму баяры і ўступіліся ў абарону яе ды Ізяслава.

Магчыма, усе гэтыя абставіны разам паўплывалі на рашэнне кіеўскага князя дараваць Рагнедзе і вярнуць Ізяславу вотчыну яго дзядоў. Магчыма, гэта пасля прыняцця хрысціянства ў Візантыі да Уладзіміра прыйшло пакаянне за бязмежную колькасць гвалту, што чыніў ён раней на славянскіх землях і непасрэдна на Полаччыне — зямлі продкаў Ізяслава. У любым выпадку фактар хрысціянізацыі князя адыграў тут вырашальную ролю і ў першую чаргу паўплываў на станоўчую ходу падзей.

Уладзімір прапанаваў Рагнедзе пайці замуж за аднаго са сваіх набліжаных мужоў.

Яна ж вырашыла пастрыгчыся ў манашкі. Кіеўскі князь пабудаваў для Рагнеды і Ізяслава горад Ізяслаў, дзе ўзвёў для былой жонкі манастыр. І атрымала Рагнеда новае імя — Гарыслава, магчыма, у напамін пра славу яе бабкі-хрысціянкі Прадславы, магчыма, у гонар самой Рагнеды, каб «гарэла славай» памяць пра яе.

Прайшло болей за тысячу год з таго часу. Не згасла памяць пра Рагнеду ды Ізяслава. Памяць пра іх жыве не толькі на нашай зямлі, але і сярод іншых народаў. Яна мацуе духоўнасць, годнасць, моц.

Спасылкі:

1. Татищев В.И. История российская с самых древних времен. М.-Л., 1962, т. 2, с. 12.

2. Арлоў У.А. Таямніцы полацкай гісторыі. Мінск. 1994, ст. 36.

3. Татищев В.И. История Российская с самых древних времен. М.-Л., 1962, т. 2, с. 141.

4. Соловьев В.С. История России. М., 1062, кн. 1, с. 307.

5. Ермаловіч М.І. Старажытная Беларусь. Мінск, 1990, ст. 79.

6. Ермаловіч М.І. Старажытная Беларусь, Мінск, 1990, ст. 78.

7. Принятие христианства народами Центральной и Юго-Восточной Европы и крещение Руси. М., 1988, с. 11, 13, 24.

8. Принятие христианства народами Центральной и Юго-Восточной Европы и крещение Руси. М., 1988, с. 209.

9. Принятие христианства народами Центральной и Юго-Восточной Европы и крещение Руси. М., 1988, с. 211.

10. Ермаловіч М.І. Старажытная Беларусь. Мінск, 1990, ст. 60.

11. Сага о крещении. // Древнерусские города в древнескандинавской письменности. М., 1987, с. 102, 103.

12. Арлоў У. Таямніцы полацкай гісторыі. Мінск, 1994, ст. 37.

13. Принятие христианства народами Центральной и Юго-Восточной Европы и крещение Руси. М., 1988, с. 24, 209.

14. ПВЛ, ч. 1, с. 34.

**Гаранская Т. Г.**

# Тэстамент Антонія Пшаздзецкага як выразнік сацыяльнага, культурнага і эканамічнага становішча Заслаўя ў XVIII стагоддзі*

Першая мая паездка ў Польшчу з мэтай збору матэрыялаў па гісторыі Заслаўя пачалася 14 верасня 1988 года. І адразу, у Варшаве, напаткала расчараванне. Падняўшы тэчку па Пшаздзецкіх у Галоўным архіве (аддзяленне пры Варшаўскім універсітэце), высветліла, што вялізны архіў магнатаў Пшаздзецкіх быў знішчаны скінутай з самалёта бомбай у гады Другой сусветнай вайны. Адно суцяшала: нейкім чынам ацалеў тэстамент Антонія Пшаздзецкага, дакладней — яго копія. Рукапісны дакумент, складзены ў Варшаве 23 красавіка 1772 года (за 5 дзён да смерці Антонія) і завераны каралём Польшчы Станіславам Аўгустам Панятоўскім, захаваўся перапісаным у каралеўскай канцылярыі. Цытую пачатак:

«Абвяшчаем гэтай выпіскай каму аб гэтым ведаць патрэбна, што ў судах нашых надворных асэсарскіх Вялікага княства Літоўскага ў Варшаве з'явіўся гаспадзін Грыкола Аздзінскі, падчашы Пінскага ваяводства, каторы падаў Нам тэстамент Антонія Пшаздзецкага, падканцлера Вялікага княства Літоўскага. Падаючы тэстамент, Грыкола Аздзінскі прасіў Нас, Караля на 8-ым годзе ўлады, і суд Наш, каб тэстамент гэты з усімі, выказанымі ў ім словамі, быў у кнігах дэкрэтавых надворных асэсарскіх Вялікага княства Літоўскага ўпісаны. Таму Мы, Кароль, разам з панамі, радамі, і чыноўнікамі ў судах Нашых надворных асэсарскіх Вялікага княства Літоўскага, што прыязна паставіліся да гэтай просьбы, узгаданы тэстамент у кнігі нашы дэкрэтавыя дакладна запісаць загадалі. У імя Айца і Сына, і Духа Святога, Амінь».

Далей па тэксту даецца тэстамент і словы Антонія Пшаздзецкага, у якіх ва ўзнёслым тоне магнат разважае аб сваім прызначэнні ў жыцці. Развагі гэтыя ён завяршае клятвамі адданасці рымска-каталіцкай веры, паслушэнству касцёлу ў павазе і міласці да Бога як чалавек, што спадзяецца на Боскую міласэрнасць.

Такі важкі і значны па сэнсу ўступ да тэстамента, зроблены Пшаздзецкім, мае адпаведны грунт у выхаванні Антонія, у яго жыццёвай пазіцыі. Гадавалі яго бацькі — Аляксандр Пшаздзецкі, харунжы Мазырскі, і Канстанцыя Аляксандра з Камінскіх — у паслушэнстве да веры Божай добрым каталікам. Асновы гэтага выхавання Антоній Пшаздзецкі пранёс праз усё жыццё, і ўрэшце рэшт яны матэрыялізаваліся пачаткам будаўніцтва магнатам ад самага ўступлення ва ўладанні ў 1755 годзе Заслаўскім графствам магутнага парафіяльнага касцёла ў імя Нараджэння Найсвяцейшай Дзевы Марыі.

---

* Каляровыя ілюстрацыі гл. на стар. 117.

Пры жыцці графу Пшаздзецкаму не ўдалося завяршыць будаўніцтва касцёла. Прычына магла палягаць і ў неабходнасці пераважнага пражывання па-за Заслаўем, у буйных гарадах Вялікага княства Літоўскага, з прычыны надзвычай актыўнай дзейнасці магната. Толькі павярхоўны пералік яго пасад і палітычных кампаній уражвае:

Першая старонка тэстамента Антонія Пшаздзецкага (Архіў Варшаўскага ўніверсітэта, копія з перакладам са старапольскай мовы гісторыкам Лявонціем Клока знаходзіцца ў прыватным архіве Т. Гаранскай і В. Маркаўца)

— 1739 г. — дэлегаваны ў Трыбунал ВКЛ і адразу абраны маршалкам Трыбуналу, у гэтым жа годзе атрымаў пасаду пісара ВКЛ;

— 1740, 1744 гг. — абраны паслом у Сойм ВКЛ, дзе праявіў глыбокія веды і добрую арыентацыю ў палітыцы пад час шматлікіх выступленняў на дэпутацкіх сейміках ВКЛ;

— 1748 г. — удзельнічаў у распрацоўцы Канстытуцыі і адыгрываў значную ролю ў адстойванні ў ёй правоў Вялікага княства Літоўскага;

— 1750 г. — стаў падчашым, у 1752 г. — рэферэнтам літоўскім;

— 1750, 1752, 1754 гг. — пасол на Соймах;

— 1752 г. — Антоній Пшаздзецкі атрымлівае Мінскае войтаўства, у жніўні 1757 г. — ордэн Белага Арла (вышэйшая ўзнагарода дзяржавы);

— адзін з арганізатараў і фактычны кіраўнік Генеральнай канфедэрацыі Вялікага княства Літоўскага, утворанай у Вільні 16 красавіка 1764 г.;

— на Сойме 1764 г. тытулаваны падканцлерам ВКЛ.

Асноўным месцам жыхарства палітыка Антонія Пшаздзецкага стаўся выкуплены ў Сапегаў палац у Мінску, у якім змясцілася юрысдыкцыя Заслаўскага графства. Хаця ў сувязі з патрэбамі палітычнай дзейнасці яму даводзілася шмат часу праводзіць у Вільні і Гародні, дзе меў прыватныя дамы, атрыманыя ў пасаг ад жонкі Катажыны, дачкі троцкага ваяводы Юзэфа Агінскага, а таксама ў Варшаве, дзе меў двор у Пражскім прадмесці.

У тэстаменце Антонія Пшаздзецкага заслаўскі касцёл прыгадваецца шматкроць, пачынаючы з першых старонак, дзе пазначалася самае галоўнае, важнае:

«Пасля маёй смерці цела маё павінна быць пахавана без усялякай пыхі ў айцоў Францысканцаў, калі я памру ў Варшаве. Але калі смерць мая напаткае мяне ў Літве, тады цела маё павінна быць пахавана ў склепе Заслаўскага касцёла».

Справу па завяршэнню будаўніцтва касцёла Антоній ускладае на нашчадкаў. Чытаем адносна гэтага ў тэстаменце:

«Калі ж мой Бог не паспрыяе мне ў справе завяршэння будаўніцтва касцёла Заслаўскага пры жыцці маім, то абавязваю гаспод апекуноў сына майго малодшага і выканаўцаў волі маёй паводле тэстамента, каб абавязкова, і як мага хутчэй, завяршылі гэтую справу, збіраючы даходы з маёнткаў Заслаўя; дзеля завяршэння будаўніцтва касцёла. Сын мой Міхал павінен выдаткаваць апекунам майго малодшага сына 10.000 злотых польскіх. З іх 23 красавіка бягучага года 5.000 злотых польскіх, і ў будучым 1773 г. таго ж дня і месяца яшчэ 5.000 злотых. Гэтыя сродкі павінны прызначацца, галоўным чынам, на аздабленне інтэр'ера касцёла, і перадавацца з рук камісараў будоўлі Бурбы і Вашкевіча. Пасля зацвярджэння фундушу плебані заслаўскага касцёла апекуны павінны загадаць пабудаваць у Заслаўі за кошт маіх мясцовых даходаў памяшканне для камендадта плебані (ён жа бакалаўр), а таксама школу, у якой павінны навучацца 6 асобаў шляхецкага паходжання і 6 асобаў крэпаснога наследства Заслаўскага, а яшчэ шпіталь для бедных».

Калі Антоній Пшаздзецкі будаваў у Заслаўі касцёл, цагляных заводаў тут яшчэ не было, і цэглу дастаўлялі ў графства на падводах з Мінска, са збудаванага там Пшаздзецкім цагельнага завода. Па смерці Антонія, паколькі малодшы яго сын Дамінік быў яшчэ малалетнім (галоўнымі яго апекунамі, паводле тэстамента, былі прызначаны старэйшы брат Міхал, менскі гарадскі суддзя Бурба, Барташэўскі, стараста Марцін Вашкевіч), галоўная адказнасць за дабудову касцёла лягла на Міхала, што ажаніўся з Марыяй з Мастоўскіх. Ён павінен быў выконваць распараджэнні бацькі па Заслаўю да паўналецця малодшага брата Дамініка, якому па паўналецці (у 1780 г.) Заслаўе пераходзіла ў спадчыну. Аб гэтым канкрэтна напісана ў тэстаменце:

«Графства Заслаўскае, што знаходзіцца ў Мінскім ваяводстве з мястэчкам, фальваркам Ломшын, Вяжын, Сек, Вязынка, — з ўсімі належнымі ім вёскамі, з падданымі, з дворнымі забудовамі, з усялякай жывёлай, зернем, фабрычным абсталяваннем, а таксама з мэбляй, прыбітай да сценаў, з браварнай меддзю, буфетамі і ўсімі запасамі гарэлкі, зерня, саленняў, што захоўваюцца ў амбарах, са штогадовымі прыбыткамі ад гандлю з Круляўцом, а менавіта, з усялякімі напоямі моцнымі і мядовымі трыццацігадовай даўніны, што знаходзяцца ў заслаўскіх склепах, з кнігамі, што ў бібліятэках знаходзяцца, — застаецца сыну майму Дамініку на заўжды, аб чым жалую і запісваю».

Перыяд гаспадарання ў Заслаўі старэйшага сына Антонія, Міхала, склаў 8 год. Ён актыўна ўзяўся за выкананне бацькавага запавету. Тут прыдалася выдатная адукацыя, атрыманая Міхалам пры адпаведных намаганнях бацькі, аб чым мае месца ўзгадка ў тэстаменце:

«Нятрэба сумнявацца ў маім добрым стаўленні да сына майго Міхала. Няхай памятае пра душу бацькі свайго, які столькі доказаў любові сваёй выказаў і, асабліва, у надзвычай дарагой дапамозе ў атрыманні адукацыі на радзіме і па-за яе межамі».

Атрыманая Міхалам адукацыя і шматлікія вандроўкі па Еўропе садзейнічалі перайманню ім у жыццёвую практыку лепшых вынаходніцтваў у сферы эканомікі і культуры. Паводле ўласных праектаў і задум Міхал Пшаздзецкі збудаваў у Заслаўі цагляны завод, заводы па вырабу дахоўкі, вапны і іншыя, што забяспечылі не толькі патрэбы яго гаспадаркі, але таксама працавалі на продаж прадукцыі.

Непасрэдна ў маёнтку было задумана стварыць узорную сельскагаспадарчую вытворчасць, якая была наладжана ў адпаведнасці з найноўшымі еўрапейскімі тэхналогіямі і стандартамі пры вядзенні пасяўных, уборачных работ з выкарыстаннем навейшай сельскагаспадарчай тэхнікі — сеялак, веялак, і інш., навейшых метадаў і тэхналогій выкарыстання пры пашырэнні лясных плошчаў, развядзення рыбы ў спецыяльных сажалках, у гадоўлі коней на Заслаўскім конным заводзе, у прамысловым пчалярстве. У кожнай з галін гаспадарчай дзейнасці, распачатай Міхалам і Дамінікам у Заслаўі, былі дасягнуты выдатныя вынікі. Браты намагаліся стварыць гаспадарку, вартую памяці іх бацькі Антонія Пшаздзецкага, прыдбаўшага для іх роду графскі тытул.

Здабыткі братоў Пшаздзецкіх у адбудове Заслаўскага графства ў многім мелі месца дзякуючы парадам і кансультацыям, куратарству канцлера Вялікага княства Літоўскага Іаахіма Храптовіча[1], які праславіўся ў гісторыі ВКЛ як палітычнай дзейнасцю, дзейнасцю ў адукацыйнай камісіі, так і выдатнымі гаспадарчымі пачынаннямі ў сваіх маёнтках Шчорсы, Вішнява, Бешанковічы. Гэта ён упершыню ў Вялікім княстве Літоўскім увёў севазварот, у Шчорсах наладзіў выраб колаў да фурманак, славутага піва, вёў племянную жывёлагадоўлю, пераганяў плыты ў Прусію. У тэстаменце Антонія Пшаздзецкага сказана:

«Для дакладнага выканання майго тэстамента прызначаю зяцёў сваіх Храптовіча (ён быў мужам сярэдняй дачкі Антонія — Канстанцыі), сакратараВялікага княства Літоўскага, і Радзівіла, мечніка літоўскага, разам з выканаўцамі майго запавета».

Міхал Пшаздзецкі меў шмат агульнага з мужам старэйшай сястры Алены — Міхалам Іеранімам Радзівілам[2], выхаваным пад апякунствам

---

[1] Іаахім Ігнацій Юзаф Літавор Храптовіч (1729—1812). Паходзіў са старажытнага беларускага магнацкага роду, прадстаўнікі якога адыгралі значную ролю ў развіцці культуры і асветы на Беларусі. Нарадзіўся ў маёнтку на Наваградчыне, адукацыю атрымаў у Віленскай акадэміі. З 1780 г. кіраўнік каралеўскай групоўкі магнатаў і шляхты ў ВКЛ, з 1791 г. — міністр замежных спраў, з 1793 г. — канцлер ВКЛ. Заснаваў у Варшаве «Таварыства сяброў навукі».

Ажаніўся з дачкою Антонія Пшаздзецкага Канстанцыяй і пасяліўся з ёй у родавай рэзідэнцыі Храптовічаў у Шчорсах. Дзеля ўзвядзення тут каменнага палацавага комплексу з цудоўным ландшафтным паркам каля 40 гектараў са скульптурнымі кампазіцыямі, фантанамі, керамічным вадаправодам і іншымі для таго часу «дзівосамі» на месцы састарэлага драўлянага маёнтка Храптовіч запрасіў славутых у Еўропе дойлідаў — француза Я. Габрыеля, італьянцаў Дж. Сака і Карла Спампані (таго самага Спампані, што працаваў галоўным упраўляючым па будаўніцтву палаца і іншых комплексаў у Заслаўі ў братоў жонкі Храптовіча Канстанцыі — Міхала і Дамініка Пшаздзецкіх. Адсюль шматлікія паралелі ў Заслаўскім і Шчорсаўскім палацавых комплексах).

[2] Міхал Іеранім Радзівіл (1744—1831), ваявода віленскі, ардынат клецкі. На працягу ўсяго жыцця збіраў розныя каштоўныя рэчы: меў адну з найбагацейшых у краіне калекцыю медалёў (у тым ліку залатых і срэбных), яго бібліятэка ў Небарове налічвала болей за шэсць тысяч тамоў (у яе склад уваходзіў кнігазбор Людовіка XVIII), а яго карцінную галерэю складалі 239 карцін, 224 гравюры, 25 скульптур. Менавіта Міхал Іеранім Радзівіл кансультаваў братоў Пшаздзецкіх у фармаванні бібліятэкі і карціннай галерэі ў спецыяльна ўзведзеным у парку Заслаўскага палаца флігелі (цяпер — будынак Дома дзіцячай творчасці ў Заслаўі па вуліцы Дачнай).

Ажаніўся Радзівіл з самай малодшай і самай прыгожай дачкой Антонія Пшаздзецкага — Аленай. Па прычыне ранняй смерці маці Алены дзяўчынку малалетняй аддалі на выхаванне Аляксандры Агінскай з Чартарыйскіх, жонцы Міхала Казіміра Агінскага (гетмана ВКЛ, якога па інтарэсах, адукацыі, якасцях характару яго сучаснікі вызначалі перш за ўсё чалавекам мастацтва).

Вяселле Алены з Пшаздзецкіх і Міхала Іераніма Радзівіла адгулялі ў варшаўскім палацы Аляксандры Агінскай, дзе прысутнічаў кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, які пазней стаў хросным бацькам народжанага праз тры гады ў маладым сямействе Радзівілаў сына Людовіка. Хрэсніку кароль падараваў ва ўладанне маёнтак у Наваградскім павеце.

Міхала Казіміра Радзівіла Рыбанькі (сваіх дзяцей магнат не меў, усю бацькоўскую любоў аддаў выхаванцу). Рыбанька даў Міхалу Іераніму, прагнаму да навук, выдатную адукацыю.

Нашчадак Рыбанькі праславіўся не толькі як палітык і дзяржаўнік, але і як самы вялікі калекцыянер твораў мастацтва ў ВКЛ.

Цягнула Міхала Пшаздзецкага на сяброўскія стасункі і з Іаахімам Храптовічам, які апроч дзяржаўных спраў і заняткаў гаспадаркай захапляўся кнігамі. Яго кнігазбор — бібліятэка ў Шчорсах, а таксама зборы ўнікальных дакументаў, карцін, прадметаў даўніны — вызначаў Шчорсы як скарбніцу еўрапейскай культуры. У шчорсаўскай бібліятэцы працавалі Адам Міцкевіч і Ян Чачот, астраном Пачобут-Адляніцкі, гісторык Іаахім Лялевель ды многія іншыя славутасці. У Шчорсах пры падтрымцы Храптовічаў рэалізаваў філаматкія ідэі асветніцтва сябра Адама Міцкевіча па Віленскім універсітэце Францішак Маеўскі, які надаваў вялікае значэнне новым метадам навучання, што садзейнічалі пашырэнню асветы сярод простага люду, давалі адукацыю сялянскім дзецям.

І ў Заслаўі браты Пшаздзецкія нароўні з гаспадарчай дзейнасцю, па прыкладу сваіх куратараў, вялікую ўвагу надавалі справе культуры. У тэстаменце Антонія Пшаздзецкага выразна прагучала зацікаўленасць у адукацыі заслаўчан. Магнат даў распараджэнне сваім нашчадкам, каб заслаўскія дзеці належна адукоўваліся. У школе пры касцёле ў імя Нараджэння Найсвяцейшай Дзевы Марыі, што вынікае з рапарта плебана епіскапу Менскаму і Валынскаму за 1797 г., дзяцей вучылі чытаць на рускай і польскай мовах (у далейшым — і на мясцовай), а таксама латыні і ігры на клавікордах. У школе пры дамініканскім кляштары навучаліся дзеці беднай шляхты. У праграму навучання, акрамя моў, уваходзіла арыфметыка і асновы веры. Працавала ў Заслаўі і яўрэйская школа, згаданая ўпершыню ў пісьмовых крыніцах пад 1698 годам.

Музыка, выяўленчае мастацтва — абавязковыя кампаненты свецкага жыцця магнатаў XVIII стагоддзя, тым больш Пшаздзецкіх, якія былі вядомы як заснавальнікі бібліятэк, мастацкіх і літаратурна-музычных салонаў. Лідэрамі сям'і ў гэтай справе была Алена Пшаздзецкая, жонка Міхала Іераніма Радзівіла, сястра Міхала і Дамініка Пшаздзецкіх, а таксама другая іх сястра, Марыяна, што пабралася шлюбам з Ігнацієм Тызенгаўзам, чые мастацкія салоны разам з калекцыямі скрыпічных музычных інструментаў належалі да самых славутых. Тызенгаўз з жонкай Марыянай далучалі да справы калекцыянавання твораў мастацтва і музычных інструментаў родных і сяброў. У Заслаўі была арганізавана музычная капэла. Яна выконвала ў 1776—1784 гг. у дні ўрачыстасцей оды, панегірыкі і дыфірамбы заслаўскім магнатам.

Міхал Пшаздзецкі спраўна выканаў наказ бацькі. Для аздаблення інтэр'еру касцёла ён запрасіў вядомых майстроў. Ляпніну і скульптурныя кампазіцыі выканаў Караль Ельскі, які пачынаў як лепшчык у 1778—1782 гг. разам з архітэктарам Карла Спампані. Жывапісныя творы для касцёла належалі пэндзлю Антонія Смуглевіча, вучня Я. Плерша, які быў

вядомым тэатральным дэкаратарам і ўваходзіў у Варшаўскае тэатральнае таварыства пад кіраўніцтвам В. Багуслаўскага. Кіраваў работамі па аздабленню касцёла італьянскі архітэктар Карла Спампані.

Міхал і Дамінік Пшаздзецкія пазнаёміліся са Спампані ў Нясвіжы, пры двары Радзівілаў, куды была выдадзена замуж іх сястра Алена, з Ганнай Радзівіл потым ажаніўся Дамінік. На гэты час у Пшаздзецкіх паўстала задача па ўзвядзенню задуманага яшчэ бацькам палаца ў Заслаўі, адпаведнага статусу графа. Ды і ў Спампані ўжо быў набыты дастатковы вопыт для маштабнага будаўніцтва. Таму, калі Пшаздзецкія зрабілі яму прапанову распачаць дзейнасць па завяршэнню будаўніцтва касцёла і ўзвядзенню палаца ў Заслаўі, архітэктар з ахвотаю пагадзіўся. Карла Спампані бліскуча справіўся з пастаўленымі задачамі, тым самым спрыяў выкананню запаветаў Антонія Пшаздзецкага паводле яго тэстаменту.

У раду Пшаздзецкіх Антоній быў адзінай буйной, палітычна значнай асобай, дзяржаўнікам. Нашчадкі яго ў большасці выпадкаў праславіліся як дзеячы культуры і заўжды ва ўспамінах сваіх, лістах да блізкіх, сяброў і знаёмых, у літаратурных выданнях выказваліся пра свайго прашчура з захапленнем і пашанай. Граф не быў бездакорнай асобай. Гэта была складаная, яскравая постаць у гістарычным кантэксце эпохі. Ён пакінуў па сабе добрую памяць у першую чаргу ў жыхароў Заслаўя. Цэнтр Заслаўскага графства Антоній зрабіў як культурным, так і прамысловым асяродкам. Ён жа дабіўся ад караля прывілея на правядзенне чатырох кірмашоў на год. Іх наведвалі сотні людзей з самых разнастайных рэгіёнаў, каб набыць у Заслаўі сельскагаспадарчую тэхніку, разведзеную ў заслаўскіх прудах рыбу, вырабы заслаўскай керамікі, коней з заслаўскага коннага завода, добрыя віна і нават творы мастацтва ды яшчэ шмат іншага.

Жонка Антонія Пшаздзецкага памерла рана, пакінуўшы сіротамі пяцёра дзяцей, двое з якіх былі малалетнімі. Другім шлюбам Антоній не браўся, дзяцей сваіх моцна любіў і апякаўся імі да апошняга дня, усім ім забяспечыў кар'еры праз удалыя шлюбы з прадстаўнікамі самых выбітных і багатых родаў краіны. А для Заслаўя ён адметны ў першую чаргу ўзвядзеннем касцёла, які стаіць і сёння, хаця патрабуе значных выдаткаў на рэстаўрацыйныя работы.

Бібліяграфія:

1. Гаранская Таццяна. Антоні Тадэвуш Пшаздзецкі. // Памяць. Заслаўе. Мн., БЕЛТА, 2000, ст. 95-96;

2. Гаранская Таццяна. Нашчадкі Антонія Пшаздзецкага. // Памяць. Заслаўе. Мн., БЕЛТА, 2000, ст. 96-100;

3. Гаранская Таццяна. Пшаздзецкія і Карла Спампані. // Памяць. Заслаўе. Мн., БЕЛТА, 2000, ст. 100-104;

4. Ішчанка Святлана. Аднаўленыя вобразы магнатаў. // «Культура». 26 мая 2001 г.

Спіс ілюстрацый (гл. каляровую ўстаўку):

1. Першая старонка тэстаменту Антонія Пшаздзецкага (Архіў Варшаўскага ўніверсітэта, копія з перакладам са старапольскай мовы гісторыкам Лявонціем Клока знаходзіцца ў прыватным архіве Т. Гаранскай і В. Маркаўца).

2. Партрэт-рэканструкцыя вобраза Антонія Пшаздзецкага (1718—1772). Мастак В. Маркавец. Палатно, алей, 49х39 см, 2001 г.

3. Партрэт-рэканструкцыя вобраза дачкі Антонія Пшаздзецкага Алены Радзівіл (1753—1821). Мастак В. Маркавец. Палатно, алей, 49х39 см, 2001 г.

4. Партрэт-рэканструкцыя вобраза мужа Алены Радзівіл — Міхала Іераніма Радзівіла (1744—1831). Мастак В. Маркавец. Палатно, алей, 49х39 см, 2001 г.

5. Партрэт-рэканструкцыя вобраза жонкі Даменіка Пшаздзецкага (сына Антонія Пшаздзецкага) Ганны Радзівіл. Мастак В. Маркавец. Палатно, алей, 25,5х19 см, 2001 г.

6. Партрэт-рэканструкцыя вобраза Іаахіма Храптовіча (1729—1812) — мужа Канстанцыі (дачкі Антонія Пшаздзецкага). Мастак В. Маркавец. Папера, акварэль, 49х39 см, 2001 г.

7. Касцёл у імя Нараджэння Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў Заслаўі (асвечаны ў 1774 г.). Мастак В. Маркавец. Палатно, алей, 96х150 см, 2005 г.

**Дзярновіч С. Д.,**
малодшы навуковы супрацоўнік
Інстытута гісторыі НАН Беларусі

# Прысутнасць скандынаваў на тэрыторыі Полацкай зямлі ў IX — пачатку XII стст.

Для Заходняй Еўропы пачаткам паходаў вікінгаў лічыцца 8 чэрвеня 793 г., калі скандынаўскія вікінгі разрабавалі манастыр Святога Кутберта на востраве Ліндзісфарн — хрысціянскую святыню ў Англіі. Пачынаючы з гэтага часу англа-саксонскія, ірландскія і франкскія землі на працягу многіх дзесяцігоддзяў падпадалі пад спусташальныя нарманскія напады, галоўным чынам з боку нарвежцаў і датчан. У другой палове IX ст. дзейнасць скандынаваў набывае новыя рысы. На паўночным захадзе Францыі ўзнікае правінцыя Нармандыя, падуладная васалам французскага караля, былым вікінгам. Брытанія, Ірландыя, Ісландыя, іншыя астравы, нават Грэнландыя і Паўночная Амерыка становяцца прыцягальнымі для землякробаў і рамеснікаў са Скандынавіі. Паўстае новы вобраз нармана — абаронцы, васала, гандляра, рамесніка, земляроба і ўжо — хрысціяніна. Напрыканцы эпохі вікінгаў скандынаўскія пасяленцы былі інтэграваны ў заходнееўрапейскае феадальнае грамадства і асіміляваны.

У сярэдзіне IX стагоддзя «паўночная хваля» дайшла і да тэрыторыі сучаснай Беларусі. На старонках старажытных скандынаўскіх саг у далёкім Austrvegr (Усходні шлях) разам з Hólmgarđr (Ноўгарадам) і Kænugarđr (Кіевам) паўстае Palteskia (Полацк) — найстаражытнейшы горад Беларусі, сэрца Полацка-Віцебскага Падзвіння. «Нарманскія хвалі» дасягаюць Браслаўскага Паазер'я, Цэнтральнай Беларусі, Панямоння, Падняпроўя і Палесся. Па водных артэрыях — Заходняй Дзвіне, Дняпры, Нёмане, Віліі, Прыпяці, Сожы — паступова, але няспынна адбывалася знаёмства мясцовага насельніцтва з дасягненнямі цывілізацый Заходняй Еўропы, Арабскага Усходу, Візантыі.

Для Усходняй Еўропы нарманская прысутнасць адзначаецца летапісным паведамленнем пад 859 годам (ПВЛ. 1996. С. 12).

А ўжо пад 862 годам паведамляецца аб запрашэнні славянскімі і фінскімі плямёнамі на княжанне варажскага конунга Рурыка для спынення міжусобіц і абароны ад пірацкіх набегаў (ПВЛ. 1996. С. 13). У кантэксце гэтых драматычных падзей упершыню ў спісе старажытных гарадоў Усходняй Еўропы называецца Полацк (ПВЛ. 1996. С. 13). Сапраўды, археалагічныя матэрыялы дазваляюць сцвярджаць, што Полацк узнік і развіваўся як горад крывічоў. Першым умацаваным цэнтрам з'яўлялася гарадзішча, размешчанае ў цяперашні час на правым беразе Палаты ў 0,8 км ад месца яе ўпадзення ў Заходнюю Дзвіну (Тарасаў. 1992. С. 10-12). З прыходам і дзейнасцю крывічоў суадносіцца і з'яўленне вакольнага горада-пасада (Тарасаў. 1992. С. 10-12). Такім чынам, По-

лацк знаходзіўся прыкладна на адлегласці аднаго кіламетра ад Заходняй Дзвіны і, маючы ўмацаванні, выконваў ваенна-адміністратыўныя функцыі, а таксама з'яўляўся рэлігійным цэнтрам (Тарасаў. 1996. С. 16).

Адкрытым застаецца пытанне аб дынастыі, якая правіла ў Полацку. Летапіснае паведамленне пад 980 годам распавядае пра трагічны лёс полацкага князя Рагвалода, яго сыноў і дачкі Рагнеды (ПВЛ. 1996. С. 36). Большасць даследчыкаў разглядае полацкую княжацкую дынастыю як скандынаўскую (Ловмяньский. 1985. С. 207-208; Мавродин. 1945. С. 213-214; Пашуто. 1968. С. 27). Іншыя, як, напрыклад, А. Стендэр-Петэрсен і С.В. Тарасаў, нават адзначаюць яе нарвежскія карані (Ловмяньский, 1985. С. 207; Тарасаў. 1991. Ст. 10).

Імя Рагнеды сустракаецца яшчэ ў адным летапісным эпізодзе, а менавіта яе спроба замаху на жыццё Уладзіміра і заступніцтва Ізяслава (ПСРЛ. 1962. Стб. 300-301). Нягледзячы на падобныя выпадкі помсты ў паўночным эпасе паводле саг (Рыдзевская. 1978. С. 209, 214), можна выказаць меркаванне, што менавіта скандынаўскія нормы права на атрыманне ў спадчыну радавога ўладання ляжаць у аснове працягу княжацкай дынастыі ў Полацку пасля забойства Рагвалода і яго сыноў (Дернович, 2001. С. 185-187). Цікавым і ў той жа час знамянальным паўстае наступны факт з гісторыі Полацкай зямлі: пасля смерці Ізяслава ў 1001 годзе князем становіцца Брачыслаў, т. ч. унук, а не сын Уладзіміра.

Некаторыя выпадковыя эпізоды ўзаемаадносін мясцовага насельніцтва з нарманамі на працягу X—XI стагоддзяў утрымліваюць паўночнаеўрапейскія пісьмовыя крыніцы.

«Прядь аб Эймунде, сыне Хрінга» (Рыдзевская, 1978. С. 90-91; 101) вызначае Кіеў, Ноўгарад і Полацк як асноўныя палітычныя цэнтры ва Усходняй Еўропе на фоне адлюстравання сітуацыі ў першай чвэрці XI ст., а таксама распавядае аб непасрэдным знаходжанні нарманаў у Полацку і Полацкай зямлі.

Паведамленне «Сагі аб Тідраку Бернскім» і ўрывак з «Сагі пра Одду-Стралу» (Древнерусские....1987. С. 142-143; 177-179), нягледзячы на іх дастаткова легендарны характар, блытаніну храналагічных пластоў і стэрэатыпнасць апісанняў, адносяцца да водгаласу ўзброенай барацьбы Полацка як з нарманамі, так і ў міжусобных сутычках. Выхадцы са Скандынавіі былі вядомыя на Полаччыне і ў якасці «находнікаў», і «наёмнікаў».

Як факт знаходжання варагаў у Полацку можна разглядаць кампазіт Palteskjuborg, што выкарыстаны ў «Сазе пра Одду-Стралу». Корань borg служыць прыкладам «афармлення старажытна-скандынаўскай тапаніміі Заходняй Еўропы і нетыповы для абазначэння гарадоў Старажытнай Русі» (Джаксон. 1994. Ст. 77). Магчыма, што нарманы, якія наведвалі Полацк, стварылі тапонім Palteskjua, а потым сталі называць горад Palteskjuborg, «адпаведна са звыклай для сябе тапанімічнай мадэляй X-borg» (Джаксон. 1991. Ст. 151—154). Разам з эпізодамі ўдзелу скандынаваў у палітычным жыцці Полацкай зямлі пісьмовыя крыніцы захавалі звесткі іншага накірунку.

Можна выказаць меркаванне, што асобныя ўрыўкі (Рыдзевская, 1978. С. 102) адлюстроўваюць фарміраванне «паўднёвай часткі паўночнага, прыцягнутага да Балтыйскага басейну, адрэзку Шляху з Вараг у Грэкі, у вярхоўях Ловаці — Заходняй Дзвіны» і спробы наладзіць кантроль з боку Полацка ў Днепра-Дзвінскім міжрэччы і ў «Менскай воласці» (Лебедев. 1997. С. 201-203; Насонов. 1951. С. 151; Заяц. 1993. С. 5-11).

Непасрэдная рэканструкцыя гандлёвых шляхоў паміж Скандынаўскімі краінамі і Полацкай зямлёй становіцца магчымай на падставе аналізу «Сагі пра Олава Святога» і «Сагі пра гутаў» (Джаксон. 1991. Ст. 165; Джаксон. 1993. Ст. 242-243). Перад намі прадстаўлены адпаведныя транспартныя камунікацыі Скандынавія—Готланд—Ноўгарад і Скандынавія— Готланд—вусце Заходняй Дзвіны—Полацк—Кіеў.

Пісьмовыя крыніцы, якія захавалі адбітак падзей канца IX — першай паловы XI стагоддзяў, змяшчаюць агульныя тэндэнцыі распаўсюджвання хрысціянства. У гэты час «хрысціянскія сувязі пранізвалі ўжо ўсю Паўночную і Усходнюю Еўропу на Шляху з Вараг у Грэкі» (Петрухин. 1995. Ст. 232). Паведамленне пра працэс хрысціянізацыі ў Полацкай зямлі і факт існавання суполкі хрысціян у горадзе ўтрымлівае епіскапская «Сага пра хрышчэнне» (Древнерусские....1987. С. 102-103). Пытанне, дзе пахаваны Торвальд, канчаткова не вырашана і застаецца адкрытым.

Такім чынам, нешматлікія пісьмовыя крыніцы адлюстроўваюць розныя накірункі стасункаў мясцовага насельніцтва са скандынаўскімі краінамі ў IX—XI стст.

Канец VIII—XI стст. — час змен у жыцці насельніцтва Беларускага Падзвіння, калі былі закладзены падмуркі грамадскага, эканамічнага і культурнага развіцця ў наступныя стагоддзі. Пачынаючы з сярэдзіны XI ст. паўночнаеўрапейскі ўплыў на культуру рэгіёна становіцца відавочным. Асноўным напрамкам для кантактаў быў знакаміты «шлях з вараг у грэкі». Па водных камунікацыях праз пасрэдніцтва нарманаў паступала еўрапейская зброя, наборы каштоўных упрыгажэнняў, надзвычай функцыянальныя рэчы побыту. Кожны з гэтых прадметаў з'яўляецца не толькі пэўным артэфактам, а сапраўднай непрадузятай крыніцай, якая лаканічна, дасканала прадстаўляе сваю эпоху, час вікінгаў і яе носьбітаў у Полацкай зямлі.

Як своеасаблівы доказ прысутнасці нарманаў на тэрыторыі Полацкай зямлі ў «эпоху вікінгаў» можна разглядаць знойдзеныя пад час археалагічных даследаванняў паўночнаеўрапейскія артэфакты. Да катэгорыі скандынаўскага рэчавага комплексу належаць пэўныя прадметы ўзбраення, рыштунку вершніка, рэчы побыту, а таксама ўпрыгажэнні і дэталі касцюма, язычніцкія амулеты (Pushkina, 1997. P. 84-85). Такія вырабы з'яўляюцца прывезенымі са Скандынавіі, галоўным чынам са Швецыі. У той жа час некаторыя з іх былі выраблены цалкам альбо часткова на месцы на падставе замежных узораў. Неабходна ўлічваць і прадметы заходнееўрапейскага паходжання, якія паступалі ў рэгіён праз пасрэдніцтва нарманаў. Асаблівая значнасць такіх артэфактаў дапаўняецца тым, што яны не толькі ўказваюць на высокі сацыяльны ста-

тус іх уладальнікаў, але і дастаткова выразна адзначаюць храналагічныя межы працэсаў, якія адбываліся.

Сярод прадметаў паўночнаеўрапейскага паходжання найбольш выразная калекцыя ўзбраення. Гэта група ўключае зброю бліжэйшага і дыстанцыйнага бою.

Распаўсюджванне двухлязовага мяча на тэрыторыі рэгіёна прыпадае на другую палову IX — канец X стст. і невыпадкова супадае з узмацненнем ролі выхадцаў са Скандынавіі. Іх паступленне звязана са знаходкамі мячоў тыпу «H» па тыпалогіі Я. Петэрсена каля вёскі Брылі ў пойме р. Бярэзіны і з ваколіц Віцебска (Рябцевич. 2001. С. 60-61; Плавінскі. 2005. Ст. 60-61; Дзярновіч, Плавінскі, Шаркоўская. 2003. Ст. 268). Да групы каралінгскіх мячоў таксама належаць экземпляры тыпу «V» па тыпалогіі Я. Петэрсена з ваколіц Полацка і курганнага пахавання былой Вілейскай акругі (Кирпичников. 1966. С. 21; Kazakevicius. 1996. P. 61).

Да паўночнаеўрапейскіх старажытнасцей «эпохі вікінгаў» належаць наканечнікі коп'яў ланцэтападобнай формы тыпу «E» па тыпалогіі Я. Петэрсена (Petersen. 1919. P. 26-28). Асабліва вылучаюцца артэфакты са «стральчатым», альбо «гатычным», арнаментам. Такія коп'і знойдзены ў Браслаўскім Паазер'і і ў ваколіцах Мінска (Дучыц. 1991. Ст. 4; Покровский. 1892. Табл. XIV.6). Даследчыкі зазначаюць франкскае паходжанне такіх артэфактаў і іх наступны імпарт ужо са Скандынавіі ў сумежныя краіны на працягу 800 — 1050 гг. (Solberg. 1991. P. 244-247).

Да паўночнаеўрапейскага кола старажытнасцей належаць і коп'і з падоўжана-трохкутным пяром, рамбічным у сячэнні, выяўленымі плечыкамі і масіўнай утулкай з інкрустацыяй. Артэфакт, які адпавядае тыпу «G» па тыпалогіі Я. Петэрсена, быў знойдзены ў ваколіцах Лукомля (Штыхов. 1978. С. 131-132). Наканечнікі коп'яў, дзе захаваліся сляды інкрустацыі, лакалізуюцца на тэрыторыі Прыбалтыкі, Фінляндыі і Скандынавіі, галоўным чынам на Готландзе і датуюцца сярэдзінай — канцом X — пачаткам XI стст. (Nerman. 1929. P. 103-120; Kivikoski. 1973. P. 115-116; Thunmark-Nylen. 1998. Taf. 243-244; Мугуревич. 1965. С. 44-45; Кирпичников. 1966. С. 13).

Даволі ўзорнай з'яўляецца скандынаўская зброя дыстанцыйнага бою. Яна прадстаўлена жалезнымі наканечнікамі стрэл ланцэтападобнай формы. Такія артэфакты змешчаны ў калекцыях археалагічных помнікаў Полацка-Віцебскага Падзвіння, Браслаўскага Паазер'я, а таксама Панёмання і Палесся (Штыхов. 1978. С. 31-53; Дучыц. 1991. Ст. 40-41; Шадыро,Ласкавый. 1994. С. 217-225; Мітрафанаў, Каробушкіна. 1975. Ст. 38-40; Зверуго. 1967. С. 307-341; Пивоварчик. 1994. С. 192-197; Іоў. 1993. Ст. 71-73; Макушников. 1994. С. 166; Гурын. 1996. Ст. 101). Амаль усе прадметы адносяцца да тыпу 62 варыянта 2 па тыпалогіі А.Ф. Мядзведзева (Медведев. 1966. С. 73-74). Экземпляры іншай разнавіднасці — тыпу 62 варыянта 1 — сустракаюцца значна радзей. Стрэлы, у якіх лязо мае трохвугольнае, квадратнае, рамбічнае сячэнне, прадстаўлены адзінкавымі артэфактамі.

Паўночны спосаб верхавой язды з VII — VIII і да сярэдзіны XI стст. прадугледжваў выкарыстанне пугаўя са злучальным кальцом і абоймы з

заклёпкамі для бізуна і прывесак (Кирпичников. 1973. С. 71-73). Асобныя іх дэталі знойдзены ў курганных пахаваннях д. п. X — п. п. XI стст. каля Мінска і Полацка (Штыхаў. 1992. Ст. 119-121. Мал. 67.6-8; Ст. 173-174. Мал. 61.13).

Сярод археалагічнага матэрыялу рэгіёна сваёй арыгінальнасцю і рэпрэзентатыўнасцю вылучаюцца ювелірныя вырабы, характэрныя для скандынаўскага рэчавага комплексу. Іх з'яўленне і далейшае развіццё можна звязваць з прыходам нарманаў.

У 1982 годзе падчас даследавання гарадзішча каля в. Маскавічы (Браслаўскае Паазер'е) была знойдзена бронзавая раўнаплечая фібула (Дучыц. 1991. Ст. 61. Мал. 34.1). Зашпілька адносіцца да тыпу 73 па тыпалогіі Я. Петэрсена і датуецца першай паловай IX ст. Упрыгажэнні падобнай формы і арнаментацыі ўзніклі ў Паўночнай Еўропе як вынік культурнага ўплыву Франкскай імперыі (Амбросиани, Гайдуков, Носов, Янссон, 1994. С. 114). Яны выкарыстоўваліся для сашчэплівання верхняй вопраткі скандынаўскай жанчыны на працягу ранняга і, у некаторых рэгіёнах Скандынавіі і Русі, сярэдняга перыяду «эпохі вікінгаў», калі іх месца займаюць трохлістыя і вялікія круглыя фібулы (Янссон. 1999. С. 23-25).

Скандынаўская мужчынская вопратка тых часоў была больш інтэрнацыянальнай. Сярод нешматлікіх металічных дэталяў касцюма асобнае месца займаюць кольцападобныя фібулы з доўгай іголкай. Іх прататыпы бяруць пачатак ад ювелірных вырабаў Брытаніі (Янссон. 1999. С. 27). Адзін такі вельмі рэдкі артэфакт паходзіць з курганнага могільніка каля в. Гарадзілава, што ў Цэнтральнай Беларусі (Киркор. 1859. С. 16; Покровский. 1892. Табл. IV. 2).

Даволі шырокае выкарыстанне набылі ва Усходняй Еўропе кольцападобныя фібулы альбо зашпількі з кольцападобнай галоўкай з доўгай іголкай, якія належаць да тыпу 237 па тыпалогіі Я. Петэрсена (Petersen J. 1928. P. 191:237). У д. п. XIX ст. такая зашпілька была знойдзена У.З. Завітневічам пад час вывучэння курганных старажытнасцей у ваколіцах Мінска (В.С. Дедюхина. 1967. С. 204). Безумоўна, адметнымі з'яўляюцца ўпрыгажэнні гэтага тыпу, якія паходзяць з культурнага пласта паселішчаў Цэнтральнай і Паўночнай Беларусі — селішча ва ўр. Равінкі (Цэркавішча) і гарадзішча «Замак» каля в. Пруднікі (Л.Д. Побаль. 1972. Ст. 130-138; В.И. Шадыро. 1992. С. 2-7. Рис. 20. 4).

Прыкладам скандынаўскага ювелірнага рамяства з'яўляецца сярэбраная літая падвеска з курганнага могільніка каля в. Ізбішча ў наваколлях Мінска (Штыхаў. 1992. Ст. 81, 84. Мал. 2). У Скандынавіі падобныя артэфакты атрымліваюць распаўсюджванне галоўным чынам у X ст. і поўнасцю выходзяць з ужывання ў XI ст., у той час як на тэрыторыі Старажытнай Русі яны маюць некалькі іншы перыяд выкарыстання — «пераважна XI, а нярэдка таксама XII ст.» (Лесман. 2002. Ст. 212).

Таксама шырокія паралелі мае лодкападобны бранзалет з Віцебска (Бубенька. 1996. Ст. 119). Такія артэфакты маюць шырокія паралелі ў Скандынавіі, а таксама сустракаюцца ў Фінляндыі, Прыбалтыцы і на

паўночным захадзе Русі ў IX—XI стст. (Arbman. 1940. P. 449-451; Taf. 109.9; Kivikoski. 1973. Fig. 736, 740; Левашева. 1967. С. 243).

Паўночнага паходжання, магчыма, і манетападобныя падвескі з арнаментам у выглядзе валют з паселішчаў на р. Менцы і Заслаўя (Штыхов. 1968. С. 58-61; Штыхов. 1978. С. 71. Рис. 28.6); прывеска з выявай «малаткоў Тора» з курганнага пахавання X—XI стст. у Заслаўі (Заяц. 1995. С. 67).

Сярод іншых матэрыялаў, знойдзеных у межах Полацкай зямлі, неабходна адзначыць ледаходныя шыпы, кубічныя замкі і ключы да іх, пэўныя тыпы нажоў, аднабаковых састаўных грабянёў, нажніц і іншых прадметаў паўночнаеўрапейскага паходжання, якія ў X—XI стст. становяцца арганічнай часткай мясцовай культуры. Пра знаходжанне скандынаваў у рэгіёне сведчаць таксама асобныя артэфакты і манеты з рунічнымі знакамі і надпісамі (Мельникова. 2001. Сс. 129-130; 146-149; 213-247; 251-253).

Такім чынам, сведчанні пісьмовых крыніц і прадметы паўночнаеўрапейскага імпарту адлюстроўваюць пранікненне выхадцаў са Скандынавіі, пачынаючы з сярэдзіны — другой паловы IX стагоддзя і іх удзел у жыцці рэгіёна. Далейшае распаўсюджванне адзначаных артэфактаў можна звязваць з развіццём мясцовых дзяржаўных утварэнняў.

**Доўнар А. Б.,**
кандыдат гістарычных навук,
загадчык сектара Інстытута гісторыі
НАН Беларусі

# Сельская гаспадарка Заслаўскага графства ў канцы XVII ст.

Заслаўскае графства было буйным маёнткам, якое ў 1698 г. адміністрацыйна складалася з горада Заслаўя, чатырох фальваркаў і адпаведна чатырох войтаўстваў (Заслаўскага, Вязынскага, Ломшынскага, Сялецкага — 28 вёсак і 11 засценкаў) [5, с. 71—72]. Асновай эканамічнага патэнцыялу графства была сельская гаспадарка. Так, у 1698 г. агульны даход графства складаў 13 808 злотых, з якіх 11 943 злотых (86,5 %) прыходзілася на даходы ад павіннасцей і абслугоўвання сельскага насельніцтва і на даходы ад фальваркаў (артыкул напісаны на аснове інвентара Заслаўскага графства 1698 г. [4]).

На жаль, аб стане сельскай гаспадаркі Заслаўскага графства ў канцы XVII ст. можна меркаваць, толькі абапіраючыся на даныя аб фальварках. Асновай гаспадаркі было паляводства. Асноўнымі культурамі, якія вырошчваліся ў фальварках, былі збожжавыя: жыта, авёс, ячмень, пшаніца, грэчка. Акрамя таго, сеялі гарох, агародніну (цыбулю, мак і г.д.). На 1698 г. было высеяна 116,25 віленскіх бочак азімага жыта (віленская бочка — 406,5 літра, для засева 1 морга (0,71 га) неабходна было 0,25 бочкі), 5,5 бочкі яравога жыта, 175 бочак аўсу, 38,3 бочкі ячменю, 0,75 бочкі азімай і 5,75 бочкі яравой пшаніцы, 4,5 бочкі гароху, 4,75 бочкі грэчкі [4, арк. 23 адв.]. Большасць пасяўных плошчаў займалі жыта і авёс. Гэтыя культуры ў асноўным вырошчваліся для продажу на рынку [2, С. 103], прычым шмат аўсу ішло для ўтрымання і абслугоўвання коней, як асноўнай рухаючай сілы тагачасных транспартных сродкаў. З тэхнічных культур вырошчвалі каноплі (высеяна на 1698 г. 5,5 бочкі — больш за 15 га) і лён (2,25 бочкі — каля 7 га). Пасевы каноплі ўдвая перавышалі пасевы льну, бо яны былі менш патрабавальнымі да якасці глебы, патрабавалі прасцейшай агратэхнікі і давалі большыя ўраджаі. Акрамя таго, з насення каноплі рабілі смачнае масла, а з травы — пяньку, якую прадавалі на знешнім рынку і з якой ў сваю чаргу вырабляліся вяроўкі, канаты. Выраб вяровак (ліней) у Заслаўскім графстве быў даволі распаўсюджаным: спецыялісты гэтай вытворчасці (ліннікі) пражывалі як у Заслаўі, так і па вёсках графства.

У 1698 г. агульны засеў у фальварках быў значным. Было высеяна 358 бочак насення, што было на 61 бочку больш, чым у 1760 г., калі ў фальварках графства высявалася 297 бочак рознага насення [3, табл. 3]. У той час для насельніцтва, якое працавала ў фальварку (цяглае сялянства), аб'ём паншчыны быў меншым, у сувязі з чым у канцы XVIII ст. частка мяшчан, якая карысталася цяглымі гарадскімі пляцамі, павінна была выконваць паншчыну (2 дні на тыдзень). У якасці насення для панскіх фальваркаў

выкарыстоўвалі свой насенны матэрыял. Але пры сяўбе жыта ў абавязковым парадку выкарыстоўвалі дзякальнае збожжа, г.зн. якое давалі ў якасці натуральных пабораў цяглыя сяляне.

Другой галіной сельскай гаспадаркі была жывёлагадоўля. У Заслаўскім графстве ўтрымлівалася буйная рагатая жывёла (у чатырох фальварках графства былі дойныя каровы (37 галоў), ялавіцы (31 галава), цяляты (32 галавы), бычкі (4 галавы), адзін бык, развівалася авечкагадоўля (было 6 бараноў і 150 авечак), козагадоўля (19 коз і 3 казлы), свінагадоўля (27 свіней, 8 падсвінкаў, 10 парасят і 1 вепр) і птушкагадоўля (14 гусей, 15 качак, 24 курыцы, 8 куранят і 3 пеўні). Акрамя таго, як у панскай, так і ў сялянскай гаспадарцы трымалі пчол. Панская адміністрацыя прадумана падыходзіла да развіцця жывёлагадоўлі, улічвала гаспадарчыя патрэбы і прыродныя ўмовы. Так як заслаўскі фальварак быў у непасрэднай блізкасці да панскай рэзідэнцыі, то тут найбольш была развіта малочная галіна і авечкагадоўля. Грунтуючыся на багатых водных рэсурсах вязынскага фальварка, у ім развівалася птушкагадоўля.

Панская гаспадарка грунтавалася на эксплуатацыі сельскага насельніцтва. У Заслаўскім графстве яно складалася з зямян, цяглых і чыншавых сялян. Цяглыя сяляне ў якасці сваёй асноўнай павіннасці мелі паншчыну (службу цяглую); а чыншавыя сяляне — чынш (грашовы падатак). Зямяне ў XVII ст. уяўлялі сабой групу ваеннаслужывага сельскага насельніцтва шляхецкага паходжання, якая служыла магнатам за карыстанне магнацкай зямлёй. У канцы XVII ст. зямяне перасталі быць замкнутай сацыяльнай групай, і ў яе склад сталі пераводзіцца заможныя прадстаўнікі сялянства. Так, у Заслаўскім графстве ў гэты час з'явіліся асобы, якія выконвалі зямянскія павіннасці, карысталіся зямянскімі зямельнымі надзеламі, але ў інвентары не мелі супраць свайго прозвішча паметку «зямянін». У той час як зямяне, якія былі імі па паходжанню, звычайна, калі яны жылі сярод цяглых, чыншавых сялян, такую паметку мелі. Пра тое, што «новыя» зямяне да нядаўняга часу былі простымі сялянамі, гаворыць наяўнасць у тых жа вёсках, дзе жылі пазначаныя асобы, цяглых, чыншавых сялян з такімі ж прозвішчамі. Так, у в. Шчэрбіна выконвалі зямянскія павіннасці Янка і Мікола Каралі, а Ілля і Юрка Каралі былі цяглымі, у в. Крычкі Пётр Рудзік трымаў зямянскія землі, а Фёдар і Макей Рудзікі — цяглыя і г.д. [4, арк. 11, 16 адв, 20 адв.]. Асаблівасцю Заслаўскага графства быў вялікі працэнт зямян сярод сельскага насельніцтва: у 1698 г. ён складаў 42%, а ў 1760 г. — 36% (гл. табл. 1) [3, табл. 30], у той час як у сярэднім па Беларусі ваенна-служывая група зямян і баяр складала каля 10% сельскага насельніцтва.

Кожная катэгорыя сельскага насельніцтва абавязана была выконваць свой комплекс павіннасцей.

Зямяне павінны былі плаціць чынш з зямянскай валокі ў памеры 22 злотых. Акрамя таго, яны былі абавязаны дастаўляць панскую карэспандэнцыю («дарогу») у межах 40 міль (каля 300 км) (па чарзе адзін раз з валокі). Чыншавыя сяляне плацілі чынш — 40 злотых з валокі і летам павінны былі адбываць восем талок з валокі (дзве талокі для арання пад

*Табліца 1*

**Забяспечанасць зямлёй сельскага насельніцтва Заслаўскага графства ў 1698 г.**

| | Колькасць гаспадарак шт./% | Колькасць зямлі | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Аселых валок, шт. | Прыёмных валок, шт. | Усяго валок, шт./% | У сярэднім на 1 гаспадарку | | |
| | | | | | Аселых валок | Прыёмных валок | Усяго валок |
| Цяглыя сяляне | 200/51 | 84, 75 | 81,05 | 165,8/41 | 0,4 | 0,42 | 0,83 |
| Чыншавыя сяляне | 26/7 | 20,25 | 5,5 | 25,75/6,3 | 0,77 | 0,21 | 0,99 |
| Зямяне | 166/42 | 144 | 69 | 213/52,7 | 0,88 | 0,41 | 1,29 |
| Усяго | 392/100 | 249 | 155,5 | 404,55/100 | | | |

азімыя, адну — для баранавання ўзаратага, па два дні — для ўсталявання пасекі і ў час жніва, дзень — для сушкі сена).

Цяглыя сяляне з цяглай валокі плацілі чынш 16 злотых; у якасці дзякла давалі адну віленскую бочку жыта; выконвалі 16 талок у год (тры талокі для арання пад азімыя, тры — для баранавання ўзаратага, два дні — для ўсталявання пасекі і восем — у час жніва і для сушкі сена). Акрамя таго, павінны былі двойчы з'ездзіць па панскай патрэбе на падводзе да Вільні і на блізкія адлегласці павінны былі выязджаць з падводай два разы ў год. Асноўнай павіннасцю цяглых сялян было выкананне паншчыны. Яе яны павінны былі выконваць з паўвалокі па аднаму чалавеку — летам 4 дні на тыдзень (ад св. Юрыя вясенняга да св. Юрыя асенняга) і 3 дні ў тыдзень зімой (ад св. Юрыя асенняга да св. Юрыя вясенняга). Акрамя таго, кожная гаспадарка цяглых сялян павінна была вырабіць 4 талокі з панскага лёну і па чарзе па тыдню ахоўваць панскі двор і фальваркі («стража»). Прычым гаспадарам, якія выконвалі стражу, на наступны тыдзень змяншалі норму паншчыны на адзін дзень [4, арк. 28—28 адв.].

Кожная катэгорыя сельскага насельніцтва, акрамя сталых зямельных надзелаў (аселых валок), трымала прыёмныя валокі і плаціла, з іх толькі чынш. Зямяне плацілі з прыёмнай валокі 11 злотых, чыншавыя сяляне — 20 злотых, цяглыя сяляне — 10 злотых [4, арк. 9—10 адв.].

З павіннасцей вынікае, што становішча сельскага насельніцтва было нялёгкім. У гэты час у магнацкіх маёнтках, калі селянін не аддаваў своечасова грашовыя, натуральныя падаткі, то панская адміністрацыя канфіскоўвала ў яго пэўную маёмасць (вала, прылады працы і г.д.) і трымала яе ў панскім двары адзін-два тыдні. На працягу гэтага часу селянін павінен быў аддаць «доўг» і тым самым выкупіць сваю маёмасць. Калі ж гэтага не адбывалася, то сялянская маёмасць прадавалася і вырučаныя грошы ішлі на «пагашэнне запазычанасці» селяніна. Пры гэтым дзейнічала правіла: калі грошай было выручана больш, чым селянін быў вінен, то «лішак» у абавязковым парадку варочаўся селяніну.

Панская адміністрацыя добра разумела, што яе дабрабыт залежыць ад эканамічнай моцы сялянскай гаспадаркі, і таму разам з жорсткай пазіцыяй адносна спагнання павіннасцей шырока выкарыстоўвала сістэму ільгот. Калі ў межы графства прыходзілі і сяліліся вольныя сяляне ці сыны, браты мясцовых сялян, якія раней вялі агульную гаспадарку, вырашалі вылучыцца ў самастойную гаспадарчую адзінку, панская адміністрацыя надзяляла такіх гаспадароў зямельнымі надзеламі і вызваляла іх ад ўсіх павіннасцей на працягу трох год, ці такім гаспадарам выдзяляліся толькі прыёмныя зямельныя надзелы, аб'ём павіннасцей з якіх быў на парадак

*Табліца 2*

**Выкарыстанне сельскім насельніцтвам Заслаўскага графства аселых і прыёмных зямельных надзелаў* ў 1698 г.**

| Віды зямельнага надзела | Катэгорыя сельскага насельніцтва | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Цяглыя сяляне | | Чыншавыя сяляне | | зямяне | |
| | Колькасць гаспадарак | % | Колькасць гаспадарак | % | Колькасць гаспадарак | % |
| аселыя і прыёмныя | 155 | 77,5 | 21 | 80,8 | 78 | 47 |
| аселыя | 42 | 21 | 5 | 19,2 | 85 | 51,2 |
| прыёмныя | 3 | 1,5 | — | — | 3 | 1,8 |
| Усяго | 200 | 100 | 26 | 100 | 166 | 100 |

* кожная катэгорыя насельніцтва мела аселыя надзелы свайго статуса: зямяне — зямянскія, цяглыя і чыншавыя сяляне — адпаведна цяглыя і чыншавыя надзелы.

*Табліца 3*

**Дыферэнцыяцыя сельскага насельніцтва Заслаўскага графства ў 1698 г. па памеры зямельных надзелаў**

| Памер зямельнага надзела (валокі) | Катэгорыя сельскага насельніцтва | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Цяглыя сяляне | | Чыншавыя сяляне | | Зямяне | |
| | Колькасць гаспадарак | % | Колькасць гаспадарак | % | Колькасць гаспадарак | % |
| 0,25 — 0,33 | 14 | 7,5 | — | | — | |
| 0,5 — 0,6 | 59 | 29,5 | 6 | 23 | 33 | 19,8 |
| 0,75 | 21 | 10,5 | 3 | 11,5 | 14 | 8,4 |
| 1 — 1,25 | 88 | 44 | 13 | 50,1 | 47 | 28,4 |
| 1,5 — 1,75 | 14 | 7 | 2 | 7,7 | 13 | 7,8 |
| 2 і больш | 3 | 1,5 | 2 | 7,7 | 59 | 35,6 |
| Усяго | 200 | 100 | 26 | 100 | 166 | 100 |

ніжэйшым, чым з аселых зямель [4, арк. 13]. У выпадку беднасці селяніна яго маглі вызваліць ад часткі павіннасцей ці ад асобнага віда павіннасці. Так, з-за беднасці Андрэй Бягун з в. Далжаны выконваў паншчыну з 0,5 цяглай валокі 2 дні ў тыдзень замест неабходных 4-х, а Якім Дрыготня з Прудзішч па гэтай жа прычыне выконваў павіннасці з 0,25 цяглых валок, хоць трымаў 0,5 валокі. А зямянін Ежы Савіцкі быў вызвалены ад развозкі лістоў па прычыне знішчэння дома і гаспадарчых пабудоў пажарам [4, арк. 10, 23; 13,]. Для распрацовак закінутых зямель панская адміністрацыя аддавала іх на ўмовах выплаты снапшчызны (чацвёртай часткі ўраджаю).

Забяспечанасць зямлёй сельскага насельніцтва Заслаўскага графства была даволі высокай. Лічыцца, што для нармальнага вядзення гаспадаркі селяніну ў гэты час патрэбна было 0,5 валокі. Як бачна з табліцы № 1, усе катэгорыі сельскага насельніцтва ў сярэднім мелі больш неабходнай нормы. Прычым лепш былі забяспечаны зямлёй зямяне (1,29 валокі на адну гаспадарку), у той час як цяглыя сяляне мелі ў сярэднім толькі 0,83 валокі на гаспадарку. Але і гэта цыфра была большай за сярэдні паказчык забяспечанасці зямлёй сялян Заходняй і Цэнтральнай Беларусі, які ў другой палове XVII — першай палове XVIII стст. быў роўны 0,58 валокі [1, С. 108, 158].

Пры гэтым трэба ўлічваць, што сярод насельніцтва графства існавала маёмасная дыферэнцыяцыя. Чыншавыя сяляне былі больш заможныя, чым цяглыя, а зямяне — больш заможныя, чым чыншавыя сяляне. Але большасць сельскага насельніцтва, за выключэннем 7,5% цяглых сялян, мелі эканамічна моцныя гаспадаркі, якія забяспечвалі належны ўзровень жыцця (гл. табліцу № 3). Як і трэба ўлічваць, што зямяне на 2/3 былі забяспечаны аселай зямлёй, у той час як цяглыя сяляне — толькі на 50%. Пра больш шырокае выкарыстанне прыёмных зямель цяглымі сялянамі сведчаць даныя табліцы № 2: у той час як аселымі і прыёмнымі землямі карысталася 77,5% гаспадарак цяглых сялян, у зямян гэты паказчык складаў 47%. Гэта тлумачыцца высокім аб'ёмам павіннасцей, які спаганяўся з аселых цяглых валок, у сувязі з чым сяляне больш ахвотна карысталіся прыёмнымі землямі.

У цэлым, нягледзячы на мясцовыя асаблівасці, можна зрабіць выснову, што сельская гаспадарка, як і становішча сельскага насельніцтва Заслаўскага графства ў канцы XVII ст., адпавядала тэндэнцыям развіцця эканомікі і грамадства таго часу.

Літаратура:

1. Голубеў В.Ф. Сялянскае землеўладанне і землекарыстанне на Беларусі XVI — XVIII стст. — Мінск, 1992.

2. Заяц Ю. А. Заславль в эпоху феодализма. — Минск, 1995.

3. Козловский П.Г. Крестьянское хозяйство и положение крестьян в магнатских вотчинах Белоруссии во второй половине XVII и в XVIII в.: Дис. ... канд. ист. наук: 07.00.02. — Минск, 1965. — Приложение.

4. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ф. 1774 (Навагрудскі земскі суд), воп. 1, спр. 140.

5. Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Заслаўя. — Мінск, 2000.

**Заяц Ю. А.,**
кандидат исторических наук,
старший научный сотрудник
Института истории НАН Беларуси

# К вопросу о курганных захоронениях с нарушенным анатомическим порядком костяков*

Каждому, кто раскапывал курганные захоронения, совершенные по обряду трупоположения, известны случаи нарушения у костяков анатомического порядка. Смещение костей рук, ног и т. д. чаще всего объясняют воздействием корней деревьев и кустов, росших на курганной насыпи, либо движением (оседанием) земли, из которой был сооружен курган. Последняя версия представляется нам маловероятной: оседание насыпи происходило не позднее полного разложения трупа, без чего смещение отдельных костей скелета было невозможно; кроме того, «расползание» насыпи должно было привести к смещению всех, а не отдельных костей скелета.

Среди раскопанных нами курганов имелось захоронение, одна из костей которого была не только сдвинута, но и частично разрушена корнем сосны, проросшим через кость (курган № 2 группы VII) и фаланговая кость пальца, смещенная корнем, проросшим между нею и перстнем (курган № группы IX; обе группы относятся к Заславскому курганному могильнику).

Однако среди захоронений в Заславском курганном могильнике имеются и такие, нарушение анатомического порядка костяков которых невозможно объяснить ни движением земли в насыпи, ни воздействием корней. Это захоронения по обряду трупоположения в курганах № 2 (молодой женщины) и № 4 (мужчины-воина 30—35 лет) группы II. Оба эти кургана располагались практически в центральной части группы II на сравнительно небольшом удалении друг от друга и ни формой, ни размерами не выделялись среди прочих насыпей группы [3, 21]. Костяки в них помещались под насыпью в центре зольного пятна от ритуального костра на спине, в вытянутом положении, и были ориентированы головами на запад (курган № 2) и северо-восток (курган № 4)**. В обоих захоронениях черепа помещались не на обычном месте, а, по замечанию А.Н. Левданского, «пад пахаю», теменем вниз, т.е. между плечевой костью правой руки и областью груди, исключая нижнюю челюсть, которая была найдена на обычном месте [3, мал.14-16].

---

* Цветные иллюстрации см. на стр. 119.

*Здесь указана нумерация курганов, присвоенная им в публикации А.Н. Левданского 1928 г. (см. п. 3 данного списка), соответствующая нумерации раскопок 1926 г.; по сводной же нумерации эти насыпи соответственно имеют порядковые номера 9 и 12 [2, 44].

Объяснение такого положения черепа, данное исследователем («Зьмяшчэньне чэрапа адбылося, дзякуючы мяккаму пяшчанаму насыпу» [3, 26, прим.1], не представляется убедительным, поскольку смещенными оказались не только череп, но и кости правой руки, как будто специально отведенной в сторону и согнутой в локте [3, мал. 14 – 16]. Возникает мысль, что головы в этих захоронениях были специально отделены от корпуса и помещены между рукой и туловищем. Подобная погребальная церемония посмертного обезглавливания известна во франкских захоронениях эпохи Меровингов (вторая половина V – VI вв.). В погребальном обряде франков присутствовали также ритуальный костер, заворачивание покойника в плащ и положение его лицом к востоку (т. е. головой на запад), отсутствие гроба и наличие оружия и припасов пищи в сосудах, но покойников закапывали в землю, не сооружая над ними насыпи [5, 90-91]. В мужских захоронениях Заславского могильника ритуальный огонь, как показали раскопки, применялся весьма часто и в разных формах [2, 43, 48-49]. Наличие плаща или иной ткани, покрывавшей покойника, фиксируется не только по пряжкам-фибулам, как в захоронениях франков, но и по фрагментам ткани, зафиксированным коррозией на железных предметах из погребений (рис. 2 : 1, 3. 5), что неоднократно отмечалось как А.Н. Левданским (в том числе и в кургане № 4 группы II [3, табл.VII]), так и нами.

Несмотря на ряд параллелей между обрядами захоронения у салических франков и кривичского населения Изяславля, существенное дистанцирование их во времени и пространстве не позволяет, как нам представляется, говорить об их взаимосвязи или влиянии. Но с другой стороны эти параллели дают возможность интерпретировать по аналогам некоторые непонятные черты похоронной обрядности в Заславском курганном могильнике. Так, например, можно было бы предположить, что необычное и неестественное расположение черепов в курганах №№ 2 и 4 группы II Заславля связано практиковавшимся, как и у франков, обрядом посмертного обезглавливания покойника. Однако подобной интерпретации противоречат следующие обстоятельства. Головы покойников в вышеназванных курганах Заславского могильника перемещались в область между грудью и рукой не целиком: нижняя челюсть в обоих захоронениях была обнаружена на обычном для нее месте (рис. 1). Подобную «разбросанность» частей головы можно объяснить только тем, что после ритуального обезглавливания покойника голова его расчленялась и части ее помещались отдельно в разных местах погребальной площадки.

Необходимо отметить, что курганная группа II, из которой происходят оба захоронения со смещенными черепами, является преимущественно могильником кривичского населения летописного Изяславля, однако в этой группе присутствуют вещи и элементы погребального обряда, свойственные финно-уграм и скандинавам [2, 106 ]. На связь с последними указывают находки привески с изображением «молоточков бога Тора» в кургане № 2 и наконечник копья с ланцетовидным пером из кургана № 4 (рис. 2 : 3) [2, 62, 67]. Возможно, влияние скандинавов, кото-



Заславль, замок, 1991 г., раскоп XVI. Остатки неизвестного малого храма второй половины XVII – XVIII вв. Вид с севера



Заславль, замок, раскоп XVII, 1992 г. Члены экспедиции Ю.А. Заяц и В.М. Милютин на расчищенном деревянном настиле конца XIII – XIV вв.



Расчищенное захоронение пожилого мужчины в одном из курганов Заславского могильника



Заславский курганный могильник, группа VII, курган № 2. Погребение знатного воина с булавой (на переднем плане) и его слуги. Конец X — начало XI вв.

рые, как и франки, относятся к германскому этносу, могло отразиться на обряде захоронения в вышеупомянутых заславских курганах. Но скорее всего, полагаем мы, смещение голов в захоронениях из курганов №№ 2 и 4 связано с языческими верованиями и порожденными ими обычаями и обрядами. К сожалению, несмотря на выход в последние десятилетия значительного количества публикаций по проблеме язычества славян и, в частности, восточных славян, огромный пласт их языческих верований, обычаев и культуры до сих пор остается мало изученным.

Необходимо особо подчеркнуть, что, вопреки широко бытовавшему мнению о переходе в погребальном обряде от кремации к трупоположению под влиянием христианской религии, сам обычай захоронения умерших в курганах по своей сути является языческим (хотя некоторые изменения в нем происходили не без влияния распространявшегося христианства), как неоднократно отмечалось нами, а теперь признается и иными исследователями [1, 21-22; 2, 112; 4]. Не исключено, что обычай посмертного обезглавливания покойника с особым помещением на погребальной площадке головы или ее части был связан со стремлением обезопасить себя от покойника, могущего приносить неприятности живым. Такие представления бытовали у ряда племен и народностей, их проявление фиксируется как по эпосу, так и по материалам археологических раскопок. Видимо, объектом ритуально-магических действий (посмертного обезглавливания) становились те, кого еще при жизни молва связывала с колдовством и т. п.

Для решения проблемы курганных захоронений, в которых костяки имеют явные следы умышленного нарушения анатомического порядка, не-



Группа заславских школьников — активных помощников археологов.
Посад, раскоп XI, 1982 г.



Заслаўскі замок, раскоп X, 1980 г.
Остатки срубной постройки, погибшей
в пожаре 1127 г.



Заслаўль, замок. Раскоп X, 1980 г.
После сильных дождей уровень воды
в раскопе иногда достигал 1 метра



Прорезка вала конца X в. на заслаўском
городище «Замэчак». 1979 г.



Группа заслаўских и
минских школьни-
ков, осуществивших
прорезку вала и
рва городища «За-
мэчак» в 1979 г.



Городище «Замэчак» в Заславле. 1979 г. Расчищенный развал печи-каменки жилища XI в.

обходимо, не ограничиваясь отдельными захоронениями в одном могильнике, собрать сведения о сходных захоронениях в других могильниках. Однако, к нашему сожалению, далеко не все археологи, проводившие раскопки курганов на территории Беларуси, тщательно и скрупулезно фиксировали положение костяков, зачастую ограничиваясь лишь общей констатацией их положения и состояния. Но даже при детальной и подробной фиксации подобные сведения не всегда приводятся в публикациях, оставаясь в рамках полевых дневников и отчетов. Например, в монографии Г.В. Штыхова при описании захоронений в курганах группы V у д. Дорохи Городокского района Витебской области [6, 133—136] ни разу не отмечено аномальное положение черепов. Между тем в полевом дневнике 1973 г., который вел-



Заславский замок. Раскоп X, 1980 г. Расчистку построек производят школьники Заславля А. Шушкевич, С. и Е. Зиновчики



Заславский замок; раскоп XV, 1983 г. Руины и фундамент кирпичной постройки конца XVI — первой половины XVII вв. Предположительно дворец Глебовичей



Заславский замок. Раскоп X. 1980 г. Остатки деревянных построек второй половины XVII в. с изразцовыми печами



Заславский замок, раскоп XV, 1983 г. Кирпичная постройка конца XVI — первой половины XVII вв. Остатки лестницы



Заславский замок. Раскоп X, 1980 г. Остатки деревянных жилищ XII в.




Рис. 1. Планы курганов №№ 2 (а) и 4 (б) группы II Заславского могильника
(по публикациям А.Н. Левданского 1928 г.)




Рис. 2. Вещи из погребения в кургане № 4 группы II: 1 — топор, 2 — браслет, 3 — наконечник копья, 4 — нож, 5 — фибула (по А.Н. Левданскому)

ся нами по поручению начальника археологического отряда, отмечено несколько таких случаев [7]. Так, в кургане № 4 (рабочая нумерация курганов полевого дневника совпадает с их номерами в монографии Штыхова) череп помещался на 0,3 — 0,4 м выше уровня костяка и был расчленен на две части: лицевую и черепную коробку. В кургане № 5 также череп был найден на 0,2 м выше уровня положения костяка на значительном расстоянии от него и был разделен на несколько частей. В курганах №№ 9 и 10, судя по расположению черепов, головы покойников были отделены, а затем приложены теменем к области шеи. При этом нижняя челюсть в кургане № 9 находилась отдельно от черепа, на обычном для нее месте, а в кургане № 10 она была удалена от черепа на 0,4 м и помещалась почти в области пояса. В перечисленных четырех курганах лишь один костяк принадлежал женщине, остальные — мужчинам.

Следует отметить, что вышеописанные дороховские курганы с курганами №№ 2 и 4 группы II Заславского могильника сближают такие детали обряда, как преимущественно западная ориентировка костяков и наличие зольного пятна для погребения. Ярко выраженных иноэтничных вещей и деталей обрядности здесь не наблюдается. Не прослеживаются и обычай заворачивания покойника в плащ или ткань либо покрывание

ими трупа, не считая находки подковообразной фибулы (вероятно, застегивавшей плащ) в захоронении из кургана № 5 [6, рис. 70 : 12].

Дороховские курганы, расположенные близ юго-западного берега озера Сенница, оставлены, вероятно, полоцкими кривичами, относившимися к усвятской или ловатско-усвятской их группе. От Изяславля дороховские могильники и поселения отделяло более двух сотен километров. В изученных курганных могильниках, расположенных на территории между этими двумя известными археологическими памятниками, захоронения со следами посмертного обезглавливания покойника нам не известны, быть может, по причине отсутствия детального описания костяков в публикациях.

Подчеркнем еще раз, что далеко не всегда нарушение анатомического порядка костяков в курганных захоронениях можно объяснить естественными причинами. В некоторых случаях, несомненно, имело место умышленное посмертное повреждение тел усопших, связанное, как мы полагаем, с языческими верованиями. Данная проблема требует дальнейшего изучения и прежде всего тщательной детальной фиксации результатов раскопок могильников.

Представляется несомненным, что заславские захоронения с нарушенным анатомическим порядком костяков, как и весь Заславский курганный могильник, являются ценным и уникальным источником по истории и культуре дохристианского периода как города Изяславля, так и территории Беларуси в целом.

Литература:

1. Заяц Ю.А. Распространение христианства в городах Полоцкой земли (по материалам археологии) // Тэзісы навуковай канферэнцыі, прысвечанай 1000-годдзю Полацкай епархіі і праваслаўнай царквы на Беларусі. 25 верасня 1992 г. Мн.,1992.

2. Заяц Ю.А. Заславль в эпоху феодализма. Мн.: Навука і тэхніка, 1995.

3. Ляўданскі А.М. Археолёгічныя раскопкі ў м. Заслаўі Менскай акругі // Запіскі аддзелу гуманітарных навук. Кн. 5. Мн., 1928. т. I.

4. Мусин А.Е. Погребальный обряд Древней Руси (Письменные источники и археологические реалии) // Археология, история, нумизматика, этнография Восточной Европы: Сб. статей памяти проф. И.В. Дубова. Спб.: Изд-во С-Петерб. ун-та, 2004. С. 116-124.

5. Уоллес-Хедрилл Дж.-М., 2002. Варварский Запад. Раннее Средневековье 400 – 1000. СПб.: Евразия.

6. Штыхаў Г.В. Крывічы: Па матэрыялах раскопак курганоў у Паўночнай Беларусі. Мн.: Навука і тэхніка, 1992.

7. Заяц Ю.А. Дорохи, 1993. (Полевой дневник Полоцко-Витебского отряда археологической экспедиции Института истории АН БССР; копия) // Личный архив Ю.А. Зайца.

**Іванова Л.**
Інстытут гісторыі НАНБ

# З гісторыі рэфармацыйнай царквы ў Заслаўі

Рэфармацыя пачала распаўсюджвацца на Беларусі з сярэдзіны XVI ст. Асноўную падтрымку ёй аказалі прадстаўнікі прывілеяванага стану — магнаты, частка сярэдняй і дробнай шляхты. Многія шляхецкія роды (Радзівілы, Сапегі, Валовічы, Зяновічы, Кішки, Глябовічы і інш.) далучыліся да рэфармацыі. Першы на Беларусі збор (рэфармацыйная царква) быў заснаваны каля 1553 г. Мікалаем Радзівілам Чорным у яго замку ў Бярэсці. У наступныя гады ў гарадах і мястэчках пачалі ўзнікаць новыя рэфармацыйныя зборы. Арганізацыйным і кіруючым цэнтрам з'яўлялася віленская абшчына. Штогод у Вільні збіраліся сіноды, на якіх павінны былі прысутнічаць прадстаўнікі ўсіх збораў ВКЛ. На сінодах абмяркоўваліся царкоўна-рэлігійныя, палітычныя і сацыяльна-эканамічныя праблемы, вырашаліся пытанні ўнутранага жыцця збораў.

Значная большасць рэфармацыйных абшчын дзейнічала пад патранатам фундатараў, якія матэрыяльна забяспечвалі іх існаванне — будавалі зборы, а пры іх — пачатковыя школы і дамы прытулку («шпіталі»), надзялялі пратэстанцкіх святароў сродкамі на пражыццё. Калі патрон ці яго нашчадкі змянялі канфесію, збор часцей за ўсё прыходзіў у заняпад ці перадаваўся католікам. У XVII ст. фундатары збораў нярэдка перадавалі свае правы ўласнасці і абароны збораў Віленскаму сіноду, што ў пэўнай ступені затрымала працэс іх рэкаталізацыі.

Асноўнымі рэфармацыйнымі плынямі ў ВКЛ былі кальвінізм, лютэранства, антытрынітарызм. Найбольшае распаўсюджванне на Беларусі (і ва ўсёй Рэчы Паспалітай) атрымаў кальвінізм. У другой палове XVI — сярэдзіне XVII ст. ў ВКЛ дзейнічала каля 200 збораў, з іх на тэрыторыі Беларусі — каля 90.

У 60-я гады XVI ст. у Вялікім княстве Літоўскім сфарміравалася радыкальная рэфармацыйная плынь — антытрынітарызм (ці арыянства). Ідэолагі арыянства адмаўлялі дагмат Святой Тройцы, боскае паходжанне Ісуса Хрыста, тэзіс аб несмяротнасці душы. У сацыяльна-палітычным плане яны выступалі супраць эксплуатацыі, «нявольніцтва», вярхоўнай улады, прыватнай уласнасці, удзелу ў войнах.

Найбольш выдатным прадстаўніком антытрынітарызму ў ВКЛ быў Сымон Будны. Яго рэлігійная, літаратурная і выдавецкая дзейнасць была звязана са зборамі ў Вільні, Клецку, Нясвіжы, Холхле, Заслаўі, Лоску.

Пратэстанцкая абшчына ў Заслаўі існавала, мабыць, з 60-х гадоў XVI ст. У сваім творы «Аб свецкай уладзе» (Лоск, 1583 г.) Сымон Будны апісаў знакаміты дыспут на сінодзе 1568 г. ў мястэчку Іўе, дзе яго галоўнымі апанентамі былі прадстаўнікі сацыяльна-радыкальнага напрамку рэфармацыі — Якуб з Калінаўкі і Павел з Візны. С. Будны адзначыў прысутнасць на гэтым сінодзе міністра (пратэстанцкага свята-

ра) з Заслаўя — Блазіўша (Васіля) Качаноўскага [3, II, 218]. Сам Будны асталяваўся ў Заслаўі на пачатку 70-х гадоў, верагодна, у якасці міністра. Тут ён працаваў над перакладам і рэдакцыяй так званай Нясвіжскай Бібліі, якая пачала друкавацца ў Нясвіжскай друкарні Мацея Кавячынскага, а пасля смерці апошняга была скончана «стараннем і накладам» яго братоў — Гектара і Альбрыхта. Напружаная праца над перакладам прывяла Буднага да часовай страты зроку, аб чым ён паведамляў у лісце з Заслаўя ў красавіку 1572 г. [5, 13]. Біблія выйшла ў свет у 1572 г. без абазначэння месца выдання, але з дзвюма прадмовамі. Прадмова Буднага была падпісана ў Заслаўі, прадмова выдаўцоў Кавячынскіх — ва Уздзе. Гэты факт парадзіў у даследчыкаў розныя меркаванні наконт месцазнаходжання друкарні пасля забароны яе дзейнасці ў Нясвіжы ў 1571 г. Мікалаем Радзівілам Сіроткай (сынам Радзівіла Чорнага). Дакладных звестак аб гэтым няма. Адны даследчыкі лічаць, што друкарню перавезлі ў маёнтак Кавячынскіх — Узду, другія — што ў Заслаўе, куды Сымон Будны быў запрошаны кальвіністам Янам Глябовічам.

Біяграфічныя звесткі пра Яна Янавіча Глябовіча нешматлікія і часам супярэчлівыя. Пачатак яго жыцця насычаны драматычнымі падзеямі. Храніст М. Стрыйкоўскі называе яго сярод тых, хто праявіў асабістую мужнасць пры абароне Полацка ў 1563 г. Паранены двума стрэламі ў нагу, Ян Глябовіч быў узяты ў палон і адвезены ў Маскву, дзе правёў амаль чатыры гады. У панегірыках таго часу сустракаюцца звесткі, што ў палоне яго спрабавалі атруціць, вызвалілі на ўмовах супрацоўніцтва з маскоўскімі ўладамі, потым хацелі вярнуць, аднак за 10 дзён ён пераадолеў амаль 120 міль. Пасля вяртання ў Вялікае княства Літоўскае Глябовіча абвінавацілі ў шпіянажы на карысць Масквы, яму пагражаў арышт. Вынікам расследавання стаў каралеўскі дэкрэт Жыгімонта Аўгуста ад 1569 г., які прызнаваў Глябовіча «добрым і верным падданым» [2, 33—34]. Гэтыя перыпетыі лёсу не перашкодзілі Глябовічу ў далейшым займаць высокія пасады — мінскага кашталяна, падскарбія ВКЛ, троцкага ваяводы.

Глябовіч быў прыхільнікам незалежнасці ВКЛ ад Польшчы. Пасля абрання каралём Стэфана Баторыя Глябовіч у час аўдыенцыі не толькі пазбягаў тытулаваць яго вялікім князем літоўскім, але і падкрэсліваў, што Літва (г.зн. — ВКЛ) віншуе яго толькі як караля польскага. У сваіх лістах ён неаднаразова падкрэсліваў, што ў ВКЛ жыве «народ вольны» (пад народам ён, натуральна, разумеў шляхту), выказваў сябе шчырым патрыётам сваёй Айчыны: «я сам маю пільнае вока на ўсё, асабліва на нашу Літву», «я таксама запалёны любоўю да Радзімы»[6, 32—35].

Невядома, калі Глябовіч далучыўся да рэфармацыі. У 1568 г. у матрыкулах рэфармацыйнага ўніверсітэта ў Іене (Германія) мы сустракаем прозвішча Глябовіч. Магчыма, гэта быў Ян Янавіч. Бацька яго, Ян Юр'евіч, у тэстаменце ад 16.04.1549 г. нагадвае сынам сваім ад Ганны Фёдараўны Жаслаўскай — Ераніму і Яну — «на навуку даваць і на ўсякае добрае навучанне» [1, f.1, 160]. Пра Ераніма няма дакладных звестак, магчыма, ён памёр у дзяцінстве.

Ян Глябовіч быў адукаваным чалавекам, дасведчаным у пытаннях рэлігіі (аб гэтым, дарэчы, сведчыць яго тэстамент), ён з'яўляўся адным з апекуноў Віленскага збору. Вылучаўся ён таксама і сваёй мецэнацкай дзейнасцю. Яму прысвячалі свае творы не толькі вядомыя дзеячы рэфармацыі — Андрэй Волан, Марцін Кравіцкі, Ян Ласіцкі і інш. Католік Мацей Стрыйкоўскі прысвяціў Глябовічу кнігу XIII і частку раздзелаў кніг VI і XVIII сваёй славутай «Кронікі Польскай, Літоўскай, Жмудскай і ўсёй Русі», што, на думку даследчыкаў, сведчыць аб тым, што Глябовіч быў адным з мецэнатаў «Кронікі» [8, 150]. Настаўнік і выхавацель трох яго сыноў (Яна, Мікалая, Ежы) Ян Ласіцкі называў Глябовіча «маім і вучоных мужоў мецэнатам і найбольш шчодрым апекуном».

Ян Ласіцкі быў кальвіністам і адным з адукаванейшых людзей свайго часу, вучыўся ў многіх універсітэтах Заходняй Еўропы, прысутнічаў пры апошніх часах Жана Кальвіна ў Жэневе. У якасці настаўніка суправаджаў шляхецкую моладзь у шматлікіх падарожжах за мяжу. Сфера яго навуковых даследаванняў была вельмі шырокай: гісторыя рэлігіі, этнаграфія, бібліяграфія, тэорыя культуры. З 1582 г. Ян Ласіцкі жыў ў Глябовічаў — у іх віленскай рэзідэнцыі і ў Заслаўі. У Заслаўі ён, верагодна, і памёр у 1599 г. [4, 113—117]. Глябовіч згадваў Ласіцкага ў сваім тэстаменце як «добрага і вучонага слугу пры дзетках маіх».

Пяць гадоў (1587—1592 гг.) жыў у Заслаўі і карыстаўся шчадротамі Глябовіча Андрэй Хжанстоўскі — адметная постаць у гісторыі рэфармацыйнай царквы ВКЛ, вядомы кальвісіцкі палеміст. Знаходжанне ў Заслаўі было вельмі карысным для Хжанстоўскага — ён выкарыстаў гэты час для сістэматызацыі і ўдакладнення сваіх тэзісаў для антыезуіцкай палемікі [ 4, 121—122].

Ян Глябовіч пачаў будаваць мураваны збор на Заслаўскім замку ў 90-я гады XVI ст. У тэстаменце ад 28 ліпеня 1590 г. ён просіць сваіх спадкаемцаў завяршыць пабудову, пералічвае наданні на збор: «...у мястэчку заслаўскім пляц і дом на ім казнадзейскі», фальварак і зямельныя ўгоддзі агульным памерам у 50 валок, і наказвае, каб пры зборы быў бакалаўр (настаўнік) для навучання дзетак. Згадваецца ў тэстаменце і збор у Дуброўне (Аршанскі павет) — радавым гняздзе Глябовічаў. Глябовіч перасцерагае сваіх нашчадкаў, каб яны не адступалі ад кальвінізму, інакш усе фундацыі і правы на збор павінны будуць перайсці да Віленскага сіноду [7, № 5].

Відаць, ужо пасля смерці Глябовіча, у 1591 г. яго сыны Ян і Мікалай, «потребуючи науки... в молодости лет своих до чужих земель отъехати умыслили». Вядома, што яны вучыліся ў рэфармацыйных універсітэтах у Германіі (Гейдэльбергу, Страсбургу), у 1592 г. іх прозвішчы сустракаюцца ў матрыкулах каталіцкага ўніверсітэта ў Падуі. У 1595 г. маладыя Глябовічы вярнуліся на радзіму. Ян Глябовіч актыўна ўключыўся ў рэфармацыйную дзейнасць, быў удзельнікам розных акцый, напрыклад, сумеснага з'езду пратэстантаў і праваслаўных, якія сабраліся ў 1599 г. у Вільні, каб абараніць свае правы перад наступам контррэфармацыі [1, f.40, 154]. У 1604 г. ён памёр. Яго брат, Мікалай Глябовіч, перайшоў у

каталіцтва і, нягледзячы на апошнюю волю бацькі, аддаў Заслаўскі збор католікам. Верагодна, гэта здарылася да 1611 г., таму што ў пратаколах Віленскага сіноду, якія збераглíся толькі з 1611 г. (больш раннія загінулі у час пагрому Віленскага збору ў 1611 г.), збор у Заслаўі ужо не згадваецца.

ЗАЎВАГІ:

1. Аддзел рукапісаў Бібліятэкі АН Літвы.
2. Б.Н. Флоря. Русско-польские отношения и политическое развитие Восточной Европы во второй половине XVI — начале XVII в. М., 1978.
3. Akta synodów róznowierczych w Polsce. Oprac. M. Sypajllo. Warszawa, 1972.
4. H. Barycz. Jan Lasicki. Studium z dziejów polskiej kultury naukowej XYI wieku. Wroclaw, etc., 1973.
5. H. Merczyng. Szymon Budny jako krytyk tekstów biblijnych. Kraków, 1913.
6. Sprawy wojenne króla Stefana Batorego. Dyjaryjusze, relacyje, listy i akta z lat 1576—1586. Kraków, 1887.
7. Testament Jana Hlebowicza, wojewody trockiego // U. Augustyniak. Testamenty ewangelików reformowanych w Wielkim Ksiestwie Litewskim. Warszawa, 1992.
8. Z. Wojtkowiak. Maciej Stryjkowski — dziejopis Wielkiego Ksiestwa Litewskiego. Poznan, 1990.

**Макарчык А. А.,**
старшы навуковы супрацоўнік
навукова-экспазіцыйнага аддзела
гісторыка-культурнага музея-запаведніка «Заслаўе»

# Полацкая княжна Рагнеда як правобраз былiннай нявесты князя Уладзіміра

Лёс полацкай княжны Рагнеды Рагвалодаўны заўсёды прыцягваў увагу даследчыкаў. Пачынаючы з першых рускіх гісторыкаў В.М. Тацішчава і М.М. Карамзіна, амаль усе вядомыя даследчыкі першых стагоддзяў старажытнарускай гісторыі ў сваіх працах апісвалі трагічныя падзеі апошняй чвэрці X ст. Шмат увагі асобе Рагнеды ў сваіх даследаваннях надалі беларускія гісторыкі Мікола Ермаловіч, Кастусь Тарасаў, Сяргей Тарасаў, Вітаўт Чаропка, Георгій Васільевіч Штыхаў і Юрый Апанасавіч Заяц. Таму цяжка сказаць нешта новае і пазбегнуць кампіляцый. Неабходны новы падыход да вывучэння дадзенай тэмы. Цікавай ў гэтым кантэксце з'яўляецца думка С.Н. Азбелева аб неабходнасці выкарыстоўваць у навуковых даследаваннях дасягненні дапаможных гістарычных дысцыплін, а іменна — фалькларыстыкі і этнаграфіі. «Необходимо расширение смыкающихся в своем существе исследований историзма эпоса и соотношения письменных средневековых источников с устными. Интенсификация работ в этой области позволит обогатить привлекаемые историками материалы, откорректировав существующие представления о степени достоверности многих сведений и показав несостоятельность тенденций обеднить наши данные о прошлом». (1, с. 146) С.Н. Азбелеў невыпадкова гаворыць аб «тенденциях обеднить наши данные о прошлом». Многія вучоныя прытрымліваюцца таго пункту гледжання, што для вывучэння старажытнай гісторыі нельга выкарыстоўваць дадзеныя фалькларыстыкі. Сярод гісторыкаў і этнографаў вялася доўгатэрміновая дыскусія аб гістарычнасці былiннага эпасу, якая працягваецца і ў наш час. Школа праціўнікаў гістарычнасці былін атаясамліваецца з В.Я. Проппам, а яго апанентаў узначаліў Б.А. Рыбакоў.

Усякая гістарычная падзея ў першую чаргу фіксуецца сведкамі ў вусны аповед. На аснове такіх сведчанняў складваюцца гістарычныя паданні. Паданне —гэта складзены вусна і дакладны ў сваей аснове аповед аб рэальных фактах ці падзеях. На аснове вуснага падання складваліся гістарычныя песні і легенды, якія маглі доўгі час існаваць як фальклорная традыцыя. Такім чынам, гістарычная інфармацыя аб тым ці іншым факце раздзяляецца як бы на два накірункі: першы — вусная народная творчасць у выглядзе паданняў і легенд, і другі накірунак — фіксацыя гістарычнага факта ў пісьмовых крыніцах (летапісах). У пісьмовыя крыніцы гістарычны факт можа трапіць прама ад сведкі. Напрыклад,

апісваючы кіеўскі мяцеж 1068 г., летапісец паведамляе, што ён быў сведкам гэтых падзей і сачыў за імі: «из оконца зрящю» (12, с. 40). Гісторыкі аддаюць перавагу той інфармацыі, якая трапляе ў гістарычныя дакументы. Чым больш ранняя пісьмовая крыніца, тым больш яна каштоўная. Безумоўна, што пісьмовыя крыніцы з'яўляюцца галоўнымі пры вывучэнні той ці іншай гістарычнай эпохі. Аддаючы перавагу пісьмовым крыніцам, мы не павінны ігнараваць той карыснай інфармацыі, якую можна знайсці ў творах вуснай народнай творчасці. Апісаны В.Л. Яніным прыклад стаў класічным пры доказе таго, што быліны даюць дакладную інфармацыю. «Много лет назад рыбаками был извлечен из Ильменя сапог зеленого сафьяна. Долгое время он считался подделкой из-за своей необычной формы: тонкий изогнутый каблук, высоко загнутый кверху носок. Сомнения разрешили былины, в которых такая художественная обувь описана...» (16, с. 240).

«Аповесць мінулых гадоў» была напісана манахам Кіева-Пячэрскай лаўры Нестарам у 1113—1117 гг. і ўваходзіць амаль ва ўсе старажытнарускія летапісныя зводы. Рагнеда тройчы ўпамінаецца ў «Аповесці мінулых гадоў» — пад 980, 988 і 1000 гадамі. Відавочна, што першае ўпамінанне аб Рагнедзе адносіцца да 980 года. У гэтым годзе пачалася вайна паміж Ноўгарадам і Полацкам. Згодна летапісу, вайна пачалася з-за адмовы ў жаніцьбе ноўгарадскаму князю Уладзіміру. На самай справе прычыны вайны былі ў супрацьборстве Ноўгарадскай і Полацкай зямель, хаця імпульсам да вайны магло паслужыць і няўдалае сватанне Уладзіміра да Рагнеды. Гэта была вялікая вайна для таго часу. «Она всколыхнула всю наличную мощь Новгорода» (13, с. 135). У паходзе на Полацк удзельнічалі ўсе падпарадкаваныя Ноўгараду плямёны — славене, чудзь, пскоўскія крывічы, а таксама варажская дружына. Сама летапісная дата ваеннага паходу (980 г.) аспрэчваецца многімі даследчыкамі. «Согласно современным представлениям, начало которым положили работы А.А. Шахматова, даты в летописи стали появляться не ранее 1060-х годов: все предшествующие даты были проставлены по догадке, задним числом». (15, с. 135). Сам А.А. Шахматаў называе дату 970 г. Мікола Ермаловіч даказвае, што падзеі адбыліся не пазней 976 года (3, с. 70). Найбольш упэўненай падаецца аргументацыя М.Н. Ціхамірава (978 г.). (10, с. 61-62).

Падзеі гэтай вайны паслужылі асновай для нейкіх вусных паданняў. Тое, што артыкул пад 980 годам быў запісаны летапісцам з вершаванага падання, даказаў Б. Сакалоў (7, с. 493). М.Н. Ціхаміраў звярнуў увагу на дакладнасць апісання падзей 70-х гадоў X ст., аднак ён робіць вывад, што існавала нейкая пісьмовая крыніца аб падзеях пасля смерці Святаслава. (10, с. 27). Але сказанае ім не выключае таго, што існавала вуснае паданне аб гэтых падзеях. «Исторический факт фиксируется прежде всего в устных рассказах его очевидцев. Такие рассказы отражались в летописях как непосредственно, так и через посредство последующей устной традиции и героических сказаний. Те же устные источники отражались и в былинах». (1, с.145).

Быліна — руская эпічная песня пра подзвігі асілкаў. У Расіі быліны выклікалі цікавасць пасля апублікавання эпічных песень вядомага зборніка XVIII ст. «Древних российских стихотворений, собранных Киршею Даниловым» у 1818 г. (14, с. 4). Але асаблівая цікавасць да былін узрасла пасля адкрыцця П.Н. Рыбнікавым былінных апавядальнікаў на Рускай Поўначы. «Открытие П.Н. Рыбниковым в 1860 г. живого источника былин на Русском Севере произвело целый переворот в русской и европейской науке, позволив по-новому подойти к изучению как русского эпоса, так и песен Гомера и цикла песен о нибелунгах». (9, с. 39). У паслямангольскі перыяд рускія быліны набываюць агульнадзяржаўны характар. «Именно в послемонгольское время былины, связанные с местными центрами, объединились в единый киевский цикл. Ростовчанин Алеша Попович, муромец Илья, рязанец Добрыня, галичанин Дюк Степанович стали героями общерусского эпоса с момента их выезда к Киеву к сидевшему на золотом столе Владимиру Красное Солнышко». (4, с. 168) Неабходна заўважыць, што вусныя паданні даволі жывучыя, напрыклад, паданне аб Кулікоўскай бітве, пра якое добра вядома, што яно ўзята не з летапісу, а было запісана вядомым этнографам яшчэ ў XIX ст. (1, с. 145)

Для нас вельмі важна супадзенне сюжэтных сітуацый як у летапісе, так і ў былінах. У абодвух выпадках размова ідзе аб сватанні князя Уладзіміра. Супадзенне сюжэтаў важней, чым супадзенне антрапанімічнае (супадзенне імёнаў). У «Аповесці мінулых гадоў», у Лаўрэнцьеўскім летапісе сюжэт легенды аб Рагнедзе і сюжэт былін аб сватанні Уладзіміра маюць вялікую ступень супадзення. «Герой (Владимир) сватается к княжеской дочери (Рогнеде), но получает отказ. Герою помогает советами «помощник» Добрыня. В конце концов герой побеждает «царя» (Рогволода), убивает его и женится на «царской» дочери. В награду герою — «царство» (Полоцк)» (11, с. 18). Але і антрапанімічнае супадзенне — як у летапісах, так і ў былінах — даволі значнае. Гэта і Уладзімір, і Дабрыня, і Анастасія. У былінным эпасе нявестай Уладзіміра найбольш часта называецца Апракса, але ёсць быліны, дзе нявестай называецца і Анастасія. Мае месца і тапанімічнае супадзенне. У былінах герой часта едзе па нявесту да літоўскага караля. Заўважым, што Полацк даволі рана ўвайшоў у склад Вялікага княства Літоўскага (Літвы).

Многа былін прысвечана сватанню князя Уладзіміра. Сумненняў у тым, што пад іменем быліннага Уладзіміра мы бачым Уладзіміра Святаслававіча, не ўзнікае практычна ні ў кога. Імя Рагнеды, або Гарыславы (так назваў Рагнеду Уладзімір пасля плянення), не ўпамінаецца ў былінах.

У Цверскім летапісе, які быў складзены ў 1534 г., значна пазней рэальна адбыўшыхся падзей, запісана паданне аб пастрыжэнні Рагнеды ў манахіні пад імем Анастасіі. У паданні гаворыцца аб тым, што пасля свайго хрышчэння Уладзімір прапанаваў Рагнедзе выбраць сабе новага мужа сярод яго баяр, на што Рагнеда адказала, што яна была княгіняй, і таму цяпер лепей стане нявестай Хрыстовай.

Многія гісторыкі сумняваюцца ў праўдзівасці гэтага падання. Як правіла, спасылаюцца пры гэтым на адсутнасць на Русі ў тыя часы манастыроў.

Магчыма, што паведамленне аб пастрыжэнні Рагнеды ў манашкі і выдумана. Але можна меркаваць, што Рагнеда проста хрысцілася пад імем Анастасіі. У дадзеным выпадку ўдасца звязаць паведамленне Цвярскога летапісу з былiннай Анастасіяй. Вывучэнне быліннага эпасу дае пацвярджэнне праўдзівасці паведамлення Цвярскога летапісу.

Вуснае паданне аб сватанні да Рагнеды было складзена ў Полацкай зямлі. Хутчэй за ўсё і быліны аб сватанні Уладзіміра былі складзены там жа, хаця і запісаны ў XIX ст. этнографамі ў Памор'і. Магчыма дапусціць наступны сцэнарый: быліны аб сватанні Уладзіміра з Полацкай зямлі распаўсюдзіліся па ўсёй Русі, але потым па розных прычынах зніклі, захаваліся яны толькі на Поўначы, у Архангельскай і Аланецкай губернях.

Беларуская этнаграфія — адна з самых развітых і дасканалых навук, якая здолела назапасіць значны фактычны навуковы матэрыял. Тым не менш прамых сведчанняў бытавання быліннай традыцыі на Беларусі не знойдзена. Але ёсць шматлікія ўскосныя дадзеныя, што наша краіна была тэрыторыяй, дзе складалі і спявалі быліны.

Д.С. Ліхачоў і Б.А. Рыбакоў упэўнена даказалі, што правобразам быліннага Волха Усяславіча быў полацкі князь Усяслаў Брачыславіч (Усяслаў-Чарадзей), праўнук Рагнеды (5, с. 200., 9, с. 85-97).

Беларускія падзеі таксама паказаны ў «Былине о граде Себеже». (7, с. 93)

Неаспрэчваемым сведчаннем таго, што на тэрыторыі Беларусі існавалі традыцыі быліннага эпасу, з'яўляецца паведамленне ў лісце ад 5 жніўня 1574 года аршанскага старасты Ф.С. Кміты-Чарнабыльскага, прычым у гэтым паведамленні знаходзіцца незнаёмая паўночнарускай традыцыі характарыстыка Салаўя Будзіміравіча як абаронцы межаў Рускай зямлі: «Бо прийдет час, коли будет надобне Илии Муравленина и Соловья Будимировича прийдет час, коли будет служб нашых потреба!». (8, с. 89).

Вацлаву Ластоўскаму ўдалося запісаць народнае паданне пра Рагнеду і яе сына Ізяслава. Паданне пра Рагнеду заканчваецца песняй Гарыславы (4, с. 77-78). Па свайму зместу гэта лірычная песня, у якой спяваецца пра горкую долю жанчыны. У гэтым творы захоўваюцца матывы казкі «Гора», у якой Гора выступае як міфічная істота, якая ніколі не пакідае чалавека. Вобраз Гора сустракаецца і ў народных песнях. Невядома, хто даў загаловак песні Гарыславы, выканаўца ці запісчык твора» (2, с. 41).

Быліны ствараліся на Беларусі ў старажытны перыяд, доўгі час бытавалі ў нас, але беларускі былінны эпас не дасягнуў агульнанацыянальнага маштабу. З цягам часу былінная традыцыя знікла на тэрыторыі Беларусі. Водгукі быліннага гераічнага эпасу захаваліся ў беларускіх казках: «...белорусская сказка сохранила богатое былевое наследие, которое свидетельствует не только о бытовании в прошлом на территории Белоруссии былин, но и о глубокой связи образов былинных богатырей

с местной эпической традицией сказаний о великанах-Осилках». (7, с. 502).

Вядома, што ў невялікім па аб'ёме артыкуле нельга цалкам паказаць сувязь паміж летапісамі і былінамі. Задача ў тым, каб звярнуць увагу на перспектыўны накірунак даследаванняў.

Для беларусаў Рагнеда стала сімвалам гонару і свабодалюбства, любові да сваёй Айчыны. У яе словах, кінутых у твар сватам Уладзіміра з Ноўгарада: «Не хачу разуці рабыніча», — праявілася сутнасць непакорнай княжны. Вобраз Рагнеды, бясспрэчна, самы яркі жаночы вобраз старажытнарускай і еўрапейскай гісторыі. Яе імя добра ведаюць у Швецыі і Нарвегіі, Фінляндыі і Даніі, краінах Балтыі. Яе ўчынак настолькі ўразіў сучаснікаў, што імя Рагнеда пачалі згадваць на старонках многіх летапісных зводаў. Яна стала правобразам быліннай нявесты князя Уладзіміра.

Літаратура:

1. Азбелев С.Н. Об устных источниках летописных текстов (на материале куликовского цикла). // Летописи и хроники. 1980. М., 1981 г.

2. Барыс Сымон, Чаропка Вітаўт. Беларускія гістарычныя песні. //Беларускі гістарычны часопіс. 2002, № 2.

3. Ермаловіч М. Старажытная Беларусь: Полацкі і новагародскі перыяд. — Мн., 1990. — 336 ст.

4. Ластоўскі В. Бяздоннае багацце: Апавяданні, легенды, казкі, аповесці. — Мн., 2001. 204 ст.

5. Лихачев Д.С. Народное поэтическое творчество.// «Русское народное поэтическое творчество», М-Л. 1953, Т. 1.

6. Петров Андрей. Мечты о золотом столе. // Родина. 2002. №№ 11—12.

7. Плужникова С. Былевое наследие белорусского сказочного эпоса. // Известия Академии наук СССР. Серия литературы и языка. 1965, том 24, вып. 6, ноябрь-декабрь.

8. Помнікі старажытнай беларускай пісьменнасці., Мн., 1975. 248 ст.

9. Рыбаков Б.А. Древняя Русь. Сказания, былины, летописи. М., 1963., сс. 85-97.

10. Тихомиров М.Н. Русское летописание. М., 1979.

11. Толочко А.П. Князь в Древней Руси: власть, собственность, идеология. Киев. 1992 г.

12. Толочко П.П. Русские летописи и летописцы 10—13 вв. СПб, 2003. 295 с.

13. Фроянов И.Я. Мятежный Новгород. Санкт-Петербург, 1992.

14. Юдин Ю.И. Героические былины. М, 1975, 120 с.

15. Яманов В.Е. «Рорик Ютландский и летописный Рюрик». // Вопросы истории. 2002. № 4.

16. Янин В.Л. Великий Новгород. // По следам древних культур. Древняя Русь. М., 1953.

**Малаш Ю. Л.,**
старшы навуковы супрацоўнік навукова-экспазіцыйнага аддзела Гісторыка-культурнага музея-запаведніка «Заслаўе»

# Калекцыя наіўнага мастацтва з фондаў Гісторыка-культурнага музея-запаведніка «Заслаўе»*

Наіўнае мастацтва мае тысячагадовую гісторыю. Упершыню яно прыцягнула да сябе ўвагу мастакоў і мастацтвазнаўцаў у канцы XIX — на пачатку XX стст. Менавіта ў Парыжы ў 1885 г. адбылася выстава жывапісных твораў француза-самавукі мытніка А. Русо (1844—1910), а пазней там у 1899 і 1901 гг. адбыліся выставы работ (скульптуры, жывапісу, разьбы) прадстаўнікоў краін Афрыкі, астравоў Інданэзіі, Паўднёва-Усходняй Азіі, якія здзівілі ўсіх як эстэтычным бачаннем навакольнага свету, так і зусім новымі падыходамі да яго мастацкага адлюстравання. Розныя тэрміны шукалі спецыялісты, каб вызначыць гэтую незвычайную галіну мастацтва; прымітыў ці прымітыўнае (ад лацінскага слова primitivus — першапачатковы, першабытны), «сучасныя прымітывы». Пасля таго як у 1931 г. у Парыжы адбылася выстава з твораў А. Русо, К. Бамбука, С. Луі (Серафіны) гэтае мастацтва пачалі называць наіўным, а саміх мастакоў — «мастакамі святога сэрца», бо яны звычайна працавалі на парыжскай плошчы каля сабора Святой Дзевы Марыі. Пазней, у 1966 г., славацкі мастацтвазнаўца Ш. Ткач назаве іх творчасць інсітным мастацтвам (г. зн. прыродным, непасрэдным), альбо наіўным, у перакладзе з лацінскай мовы). Акрамя таго, што творчасць мастакоў наіва не мае прафесійнай мастацкай падрыхтоўкі, іх працы вызначаюцца непасрэдным пачуццёвым увасабленнем іх эстэтычнага густу, інстынктыўным адлюстраваннем хвалюючых імгненняў жыцця, дзе значная роля ў мастацкім выяўленні належыць індывідуальнай асобе мастака. У іх мастацкай мове звычайна прысутнічае апавядальнасць, метафарычнасць, падрабязная дэталізацыя разам з імкненнем да абагульнення розных элементаў у адзіную мастацкую прастору. Замілаванасць да прыроды, міфапаэтычных сюжэтаў, успамінаў аб дзяцінстве (звычайна з сялянскага жыцця) надае іхнім творам характэрную рысу.

У Расіі цікавасць да прымітыву мела «парыжскі водгалас», пасля таго як шэраг мастакоў пабываў на пачатку XX ст. у г. Парыжы. Але ж гэта ўвага была абумоўлена у першую чаргу тым, што яшчэ раней шэраг прафесійных мастакоў, пісьменнікаў выявілі вялікую зацікаўленасць да такога віда народнага мастацтва, як лубок. У 1910—1912 гг. адбыва-

* Каляровыя ілюстрацыі гл. на стар. 122.


Сем гадоў Рагнеда шукала шляхі да прымірэння са сваім гаротным лёсам, спадзявалася, што быстрыня часу забярэ яе пякучы боль з грудзей, але дарэмна. Уначы, калі Уладзімір спаў, Рагнеда ўзняла нож над ім і... скамянела, нібы-та маланкай забітая. Зямное жыццё скончылася, пачалося існаванне ў гісторыі. Гонар беларусаў застанецца з Рагнедай і сынам яе Ізяславам.
Нехачу разуці рабыніча.

Ю.Л. Малаш. Старонка з кнігі «Покліч Рагнеды»

юцца выставы аб'яднання мастакоў (Ларыёнаў, Ганчарова, Кандзінскі, Малевіч) пад назвамі «Бубновы валет», «Асліны хвост», на якіх побач з мастацкімі творамі шырока прадстаўлены лубкі ці народныя карцінкі, крамныя шыльды. У гэты час адбываецца «адкрыццё» грузінскага мастака Ніко Пірасманішвілі (Пірасмані). Узнікае паняцце «прымітывісты». Імі называюць прафесійных мастакоў, якія ствараюць свае працы не па класічных канонах прафесійнага мастацтва (так званага акадэмізма), а з адпаведным ухілам у бок народнага мастацтва (наіўныя па першаму ўспрыманню, часцей плоскасныя, але шматперспектыўныя па кампазіцыі і зместу, алегарычныя, стрыманыя ці ўзмацнёныя па каларыту).

Калекцыя маляваных дываноў бярэ пачатак з 1998 г., калі ад мастакоў А. Марачкіна, В. Басалыгі былі набыты першыя дываны. Маляваныя дываны існавалі на Беларусі вельмі кароткі гістарычны час (1920 — 1960 гг.) і мелі абмежаваныя рэгіёны свайго бытавання (Палессе, Мінская і Віцебская вобласці). Але менавіта дываны захавалі традыцыйныя для беларускай культуры арнаменты, тэматычна-сюжэтныя вобразы, якія можна параўноўваць і знайсці на археалагічных культавых рэчах, манускрыптах, кафлі, тканых посцілках, ручніках, народных строях і вельмі характэрным для XIX — пач. XX стст. — на размаляваных куфрах, выцінанках.

Ужо некалькі гадоў існуе Музей наіўнага мастацтва г. Масквы, у якім неаднойчы праводзіліся выстаўкі з фондаў Гісторыка-культурнага музея-запаведніка «Заслаўе», і ў першую чаргу маляваных дываноў, якія неаднойчы атрымлівалі розныя дыпломы, узнагароды. У 2004 г. у гэтым музеі праводзіўся Першы фэстываль наіўнага мастацтва, на якім было прадстаўлена звыш 280 твораў наіўных мастакоў, сярод якіх мастацкім айсбергам узвышаўся дыван Алены Кіш «У райскім садзе», які прыцягваў да сябе шматлікіх наведвальнікаў. У Гісторыка-культурным музеі-запаведніку «Заслаўе» ў 2002 г. распрацавана канцэпцыя Музея інсітнага (наіўнага) мастацтва, у якім галоўную экспазіцыйную ролю будуць выконваць маляваныя дываны, разам з мастацкай галерэяй, дзе турысты змогуць набыць творы наіўных мастакоў Беларусі. Відавочна, што фінансавыя рэсурсы ад гэтай акцыі будуць належаць не толькі музею, але і гораду Заслаўю, а галоўнае, узрасце колькасць турыстаў, якія будуць наведваць гэты незвычайны і адзіны ва ўсім свеце музей. Сёння ёсць пэўныя крокі да таго, каб музей маляванага дывана (ці інсітнага мастацтва) ужо ў гэтым годзе пачаў сваю практычную рэалізацыю.

На сённяшні час калекцыя наіўнага мастацтва Гісторыка-культурнага музея-запаведніка «Заслаўе» налічвае каля 250 твораў. Безумоўна, галоўнае месца ў гэтай калекцыі належыць маляваным дыванам, агульная колькасць якіх дасягае амаль 200 твораў. Самая вялікая аўтарская калекцыя дываноў Я. Драздовіча налічвае 30 адзінак, працы А. Кіш, якія ўвайшлі ў Сусветную энцыклапедыю наіўнага мастацтва (г. Белград, 1985 г.), налічваюць 11 адзінак («У райскім садзе», «Ліст да каханага», «Дзева на водах»). Пэўныя намаганні па пошуках і захаванню калекцыі маляваных дываноў, акрамя супрацоўнікоў музея (А. Рака, І. Арцемьевай, Ю. Малаша, рэстаўратара В. Пузанкевіча), належыць патрыётам і жыхарам Заслаўя мастацтвазнаўцы Т. Гаранскай і мастаку В. Маркаўцу, якія ўжо чатыры разы праводзілі пленэры маляванага дывана і перадалі ў фонд музея 19 маляваных дыванкоў. Паколькі ў 2005 г. выдадзены альбом-каталог маляваных дываноў з фондаў Гісторыка-культурнага музея-запаведніка «Заслаўе», дзе змешчаны даволі падрабязны тэкст па гісторыі стварэння калекцыі маляваных дываноў, я не буду затрымлівацца на гэтай тэме.

Хочацца звярнуць увагу на малавядомыя творы мастакоў наіва з фондаў Гісторыка-культурнага музея-запаведніка «Заслаўе». У першую чаргу трэба адзначыць творы, выкананыя роспісам на шкле ў 1940—1950 гг. Такіх твораў усяго 6, але мне асабіста не вядома большая калекцыя такіх твораў у іншых музеях Беларусі. Разам з унікальнасцю захавання і збору такой калекцыі цікава адзначыць, што тры творы былі набыты ў Мінскім раёне, што можа сведчыць аб традыцыі роспісу на шкле на гэтай тэрыторыі. Некалькі работ роспісу на шкле выканана на адным баку шкла, а некалькі маюць двухбаковыя роспісы, што стварае эфект эстэтычнага паглыблення ў мастацкую прастору твора («Коцікі» — 1940-я гг., «Пруд з лебядзямі на фоне двух хат» — 1940-я гг.)

Безумоўна, унікальным з'яўляецца маляваны дыван, выкананы на кардоне, «Два алені на беразе возера» (1950 — пач. 1960 гг.), набыты ў

Глыбоцкім раёне. Твор выкананы ў дамінантных зялёных колерах, быццам спрыяючы набліжэнню гледача ў чароўную прыроду глыбоцкіх азёр і лясоў.

Даволі разнастайна прадстаўлена калекцыя роспісу на ДВП ці фанеры (14 твораў) звычайна з выявамі кветак («Ружы ў вазе», «Анюціны вочкі», «Пейзаж з лебядзямі»). Творы гэты выкананы звычайна ў 1930 – 1950 гг., памерам 43х50 см і не валодаюць высокімі, нават для народнага мастацтва якасцямі, але выдатна характарызуюць эстэтычны густ беларускага народа ў гэтыя гады, безумоўна, з улікам наяўнасці маляваных дываноў, як і роспісу на шкле.

З сучасных твораў мастакоў наіва ў першую чаргу хочацца адзначыць працы С. М. Каваля (1960 г. н.), якія прадстаўлены 5 творамі («Касцёл у Заслаўі», «Вечар у Заслаўі», «Начны эцюд», «Партрэт мастака Язэпа Драздовіча», «Стараверы»). Усе работы выкананы ў 2001 – 2002 гг., дзе кожны твор мае асабісты, індывідуальны погляд мастака на хвалюючыя яго тэмы з гісторыі беларускай культуры. На жаль, абмежаваныя грашовыя сродкі ў музеі-запаведніку не дазваляюць сёння набываць новыя творы мастака, якія вызначаюцца не толькі большым мастацкім іх узроўнем выканання, а галоўнае, выказваюць амаль казачнае ўспрыманне сусвету, як па гісторыі Заслаўя, так і па іншых блізкіх для мастака тэмах.

У 1999 г. была набыта серыя твораў мастака Ю. Малаша «Адчуванне Язэпа Драздовіча» (каля 20 прац), якія з'яўляюцца не проста мастацкімі копіямі вядомага мастака «беларускага Адраджэння», а кожная «небазнаўчая» праца Я. Драздовіча (створаная пасля астральных вандровак мастака) дадаецца тэкстамі з малавядомай літаратурнай спадчыны Язэпа Нарцызавіча, што, безумоўна, дапамагае больш уважліва і дасканала асэнсаваць творчасць «беларускага Леанарда да Вінчы». Таксама ў фондах захоўваецца рукапісная кніга Ю. Малаша «Покліч Рагнеды» (другая рэдакцыя кнігі, створаная ў 2002 г.).

У 2005 г. была набыта праца Я. Барычэўскай (загадчыцы загса Заслаўя) «Уладзімір і Рагнеда», якая перадае хвалюючы момант узняцця Рагнедай мяча на Уладзіміра, калі ён спаў. Твор перадае, безумоўна, не толькі алегарычны і хвалюючы гістарычны эпізод з X ст., але сам вобраз Рагнеды набывае пад рукой мастака высокі патрыятычны змест. Праца выканана даволі яркімі алейнымі фарбамі на ДВП, памерам 30х40 см.

Такім чынам, калекцыя наіўнага мастацтва гісторыка-культурнага музея-запаведніка «Заслаўе» мае сёння значную і сапраўды ўнікальную культурна-нацыянальную каштоўнасць, якую, я спадзяюся, у хуткім часе змогуць пабачыць не толькі заслаўчане, турысты з роднай Беларусі, але і госці з розных куткоў свету.

**Мдивани Т. Г.,**
доктор искусствоведения, ведущий научный сотрудник
Института искусствоведения, этнографии и фольклора
им. Кондрата Крапивы НАН Беларуси

# Национальный стиль белорусской музыки

Композиторская школа Беларуси прошла в XX веке значительный этап своего формирования. Словно наверстывая упущенное, она довольно быстро создала свой собственный музыкальный стиль, и в операх, балетах, симфониях, симфонических поэмах, ораториях и кантатах, хорах и хоровых концертах, инструментальных пьесах весомо «зазвучала» национальная тема. Имеются в виду оперы А. Богатырева, Е. Тикоцкого, Д. Смольского, Г. Вагнера, симфонические поэмы и увертюры Н. Аладова, Д. Каминского, балеты и симфонии Е. Глебова, А. Мдивани, симфонические поэмы, сюиты и пьесы для симфонического и народного оркестров В. Помозова, В. Иванова, В. Кузнецова, А. Литвиновского, А. Мдивани, Д. Смольского и др.

В современный период белорусская музыка решала по меньшей мере две задачи. Одна из них была рождена естественным желанием композиторов, находящихся в течение значительного времени под воздействием инонациональных традиций, обрести свою почву и уберечь, оградить свое национальное достояние. Вторая задача была вызвана необходимостью усвоить современный опыт, в первую очередь в сфере выразительных средств и композиторского письма. Естественно, что в таких условиях вопрос о специфике национального начала в музыке обрел особую остроту и актуальность.

Национальное своеобразие творческого стиля обычно связывают с выражением национально-характерного — мироощущения, темперамента, художественных взглядов и пристрастий, эстетического кредо и т.д., национально-специфического — с оригинальностью творческого замысла и его воплощения, средств выразительности, формы, идиоматическими элементами. Питательную среду для творчества, где зарождаются и созревают идеи, находящие выход в художественных обобщениях, создает духовная аура. То есть само появление произведения указывает на соответствующую общественно-художественную ситуацию.

Условием же существования национального музыкального стиля, являющегося важнейшим атрибутом пространства культуры, выступает преемственность и наследование принципов музыкального мышления. Здесь актуален вопрос о силе традиций и плодотворности национальных истоков, которые оказывают воздействие на современность, вплоть до музыкального авангарда. При этом традиции и есть наследование и сохранение художественных принципов предшествующих эпох — от самых близких до удаленных, древних. Понятно, что хотя любая культура испытывает пиетет прежде всего к современности, однако она выявля-

ется только через сопоставление с прошлым. Поэтому каждое звено в становлении национального музыкального стиля предстает как синтезирующее целое. Интерес к традиции зависит и от конкретной художественной задачи, и мироощущения композитора, и от художественной ситуации. Здесь встает вопрос о влияниях. Так, например, на А. Богатырева в разные периоды его творческой жизни оказывали влияние разные стороны русской художественной культуры, на Л. Абелиовича — новой советской музыки и прежде всего Д. Шостаковича, на Е. Глебова — И. Стравинского и т.д. Однако каждый из них сумел сохранить свое стилевое своеобразие.

Традиция является естественной основой всякого открытия в творчестве, и, думается, нет никаких оснований игнорировать преемственность в новаторстве. Любая эволюция музыкального мышления предполагает взаимодействие и даже единство прошлого и настоящего, не исключая непостоянство их отношений. Известно, что традиция предполагает стабильность определенных сторон музыкального стиля, хотя условием его существования является некоторое обновление. Живучесть незыблемых принципов в динамике предохраняет музыкальный стиль от академического консерватизма и анахронизма (как традиционализма).

В процессе рассмотрения национальный музыкальный стиль с точки зрения взаимоотношения прошлого с настоящим, традиционного с новаторским выясняется, что нахождение общего не такая уж неожиданность. Например, в авангардной музыке обнаруживаются связи с музыкой нидерландских полифонистов в области техники письма, а в хоровой — с православной певческой культурой, кстати, забытой за 70 лет. В результате получается, что новое прочно «сидит» в недрах традиций и, будучи «открытым», реализуется в конкретном творческом методе сквозь призму индивидуального видения. Соединяя в единое «традиция — новое — индивидуальное» получаем формулу целостного национального музыкального стиля.

Сказанное поясним примерами. Так, одной из примечательных сторон современной белорусской музыки является синтез лирического с эпическим. В таких ораториях как «Памяти поэта» С. Кортеса, «Вольность» А. Мдивани, «Мая Радзіма» Д. Смольского эпическое наполняется индивидуально-неповторимым, в нем остро звучат темы человеческой судьбы и народа. Однако сопричастность человека (Поэта, Гражданина) к судьбе Отечества расширяет индивидуально-субъективное и выводит его на уровень национально-характерного. Тем самым составляется представление о масштабе личности Творца и о личном в масштабе истории Нации.

В отношении белорусской музыки к традиции можно отметить не только глубокое осмысление опыта прошлого и «дерзаний в будущее», но и сворачивание, угасание определенных форм творческой деятельности. При этом обычно исчезает не вся традиция в целом, а только ее некоторые свойства или стилевые ответвления. Оставшиеся продолжают жить в ином контексте, в ином времени.

Сказанное относится к электронной музыке белорусских композиторов. Эта традиция возникла, показала себя с очень интересной стороны, являя пример «эстетического возвышения» техники, однако в силу отсутствия технической базы и соответствующей системы обучения в республике свернулась и фактически исчезла. А между тем новый мир звуков, рождаемый средствами музыкальной электроники, есть очередной и, возможно, на сегодняшний день и наиболее яркий этап в истории эстетического освоения техномира, НТР в целом, его «вживления» в общий контекст национальной культуры. Тенденция поэтизации техники, как и последовательная ориентация современного композиторского творчества на эксперимент, говорит о том, что новаторский дух новейшего искусства основывается на убеждении, что существующие противоречия между человеком и изменившимся окружающим миром нельзя решить без понимания роли техники в культуре. В Беларуси музыку для средств музыкальной электроники писали С. Бельтюков, В. Кондрусевич, А. Литвиновский, В. Раинчик. Их музыка дала возможность говорить о трех стилистических направлениях:

1. собственно электронно-акустическая музыка;
2. музыка, основанная на имитации звучаний и тембров натуральных музыкальных инструментов;
3. аранжировка, переложение и исполнение любого музыкального произведения на синтезаторе.

Каждый из композиторов опирался на разные композиционные методы сочинения. Их множество, но начиная с П. Шеффера бытует два:

1. сначала формируется общая концепция структуры, а затем отбираются необходимые элементы, подвергающиеся определенной обработке;
2. сначала создается звуковой ресурс, а затем — композиционное целое как структурированный звуковой объект.

Если первый подход исходит из разнообразия материала, то второй — из функциональных характеристик и эстетических возможностей самих электронных средств. Возможен и их синтез. Примечательно, что вместо «технизированной образности» и вместо авангардного «чистого» электронного сериализма или тотального детерминизма, приведшего к кризису в электронной музыке, белорусские композиторы проводят в жизнь другую творческую идею — идею обогащения звуковой палитры новым, или электронным, звуком и его «эстетического возвышения».

Однако пока еще рано говорить о перспективах развития «компьютерного музыкального творчества» в Беларуси, которое, привлекая композитора своими как техническими, так и эстетическими, интеллектуальными возможностями, есть только создание человеческого разума, зеркало, отражающее творческие возможности композитора.

Таким образом, национальный стиль в музыке — динамическое и внутренне противоречивое явление. Смена традиций, имеющая самое непосредственное отношение к динамике становления национального стиля, обусловлена самыми разными причинами. Одну из них мы рассмотрели — это отсутствие образовательной и материальной базы. Дру-

гие, видимо, следует искать в деактуализации нового и новейшего опытов, его художественной неинтересности.

Вообще-то все, что радикально, или то, что насаждается, на определенном этапе исчерпывает себя. Так, например, ни один из современных композиторов Беларуси не ощущает необходимости следовать эстетическим и музыкально-технологическим принципам метода социалистического реализма, ибо метод этот оказался бесперспективным, музыка же — типовой и мало оригинальной. Но главное — метод заведомо не обещает художественно ценного результата и не несет в себе новизны. А ведь композитор всегда создает то, чего раньше не было. Иначе он — эпигон.

Иногда же, как, например, в музыкальном авангарде, происходит отождествление нового и художественно ценного. В этом случае результат очевиден, ибо когда побудительными мотивами творчества является только композиторская техника, а не высшие смыслы и высота духа, то, как правило, наступает кризис. Так и случилось с музыкой представителей «острия прогресса». Подлинно высокий творческий результат может только тогда приобрести общечеловеческое значение, войти в его эстетический опыт на правах закономерного и всеобщего, когда он отвечает запросам времени и духовному климату эпохи и художественное не отождествляется с приемом, письмом.

Между тем развитие традиций следует рассматривать как непрерывный процесс индивидуализации, кристаллизации материала из более общих свойств ярких, оригинальных феноменов. И если поначалу они могут восприниматься как частные, несущественные, то в процессе эволюции стиля приобретают значение неповторимых и одновременно закономерных. Их непрестанное продуцирование является признаком развития традиций. Именно в этом подразумевается процесс ее индивидуализации и одновременно новизна. Последнее есть художественное открытие, в котором заключается объективная истина. На открытии всегда лежит печать личности художника, по которой определяется авторство, в нашем случае — композитора. Его личный вклад определяется свободой выбора (известно, что художник сам для себя создает законы). Эффективность созданного проверяет время, которое оставляет все самое ценное. Это «золото» всегда отвечает перманентно развивающемуся эстетическому чувству, а поскольку без больших идей нет и большого новаторства, то найденное должно быть крупным и значимым — и по смыслу, и по содержанию, и по воплощению.

Из сказанного следует, что только яркая творческая индивидуальность стоит у колыбели новых традиций и только она способна открыть новые страницы в развитии национального музыкального искусства.

**Пашкевіч У. І.,**
навуковы супрацоўнік
Інстытута гісторыі НАН Беларусі

# Заслаўе і яго жыхары паводле інвентара 1698 г.

З 1675 г. Заслаўе, якое з'яўлялася цэнтрам аднайменнага графства, належала буйному магнацкаму роду Сапегаў. Заслаўскае графства перайшло да іх згодна з пагадненнем, заключаным у Любчы паміж Сапегамі і Агінскімі, паводле якога адбыўся падзел спадчыны віленскага ваяводы Ежы Караля Глябовіча[1]. Дзве яго дачкі, Хрысціна Барбара і Марцыбела, былі жонкамі адпаведна Казіміра Яна Сапегі, ваяводы полацкага, і Марцыяна Агінскага, ваяводы трокскага. Пасля смерці ў 1695 г. Хрысціны Барбары Глябовіч Заслаўскае графства, якое складала спадчыну маці, перайшло да яе старэйшага сына Ежы Станіслава Сапегі, стольніка ВКЛ. На працягу амаль 100 гадоў (з 1675 па 1760 ) Сапегі валодалі Заслаўем і нават карысталіся тытулам «граф на Заслаўе». Але сапраўднымі гаспадарамі тут былі арандатары і застаўнікі. Значныя грашовыя выдаткі, выклiканыя неабходнасцю падтрымання высокага сацыяльнага і палітычнага статусу ў грамадстве, прымушалі Сапегаў здаваць у арэнду ці закладаць («пускаць у застаў») частку сваіх маёнткаў, сярод якіх было і Заслаўскае графства. Інвентар Заслаўя 1698 г. быў складзены ў сувязі з перадачаю яго ў арэнду на пяць гадоў Яну Шрэтару, скарбніку ВКЛ[2]. Уся праца па складанню інвентара была выканана сапежынскім эканомам Ежы Марцінам Юрэвічам, падстоліем смаленскім.

Гэты інвентар утрымлівае досыць разнастайныя і цікавыя звесткі аб жыхарах Заслаўя, іх занятках, гарадскіх вуліцах і пабудовах. Інвентар фіксуе колькасць сядзіб («дымоў»), называе прозвішчы гаспадароў, дакладна адзначае памер падаткаў. Ёсць упамінанне пра замак, але без яго апісання. Побач з замкам размяшчалася панская сядзіба, на апісанне якой звернута значная ўвага.

Паводле інвентара 1698 г., у Заслаўі налічвалася 88 сядзіб гараджан («дымоў»)[3]. У гістарычнай літаратуры прынята лічыць, што на кожны дым у горадзе прыходзілася ў сярэднім 6 чалавек. Такім чынам, колькасць жыхароў Заслаўя ў той час складала прыкладна 500 – 550 чалавек. Цікава адзначыць, што ў інвентары Заслаўе згадваецца як «miasto» — горад, у пазнейшых дакументах часцей называецца мястэчкам. У канцы XVII ст. ў Заслаўі былі чатыры вуліцы: Рынычная, Мінская, Ракаўская

---

[1] Sapiehowie: Materiały historyczno-genealogiczne i majątkowe. T.2. Petersburg, 1891. S.164.

[2] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (НГАБ), ф. 1774, воп. 1, спр. 140, арк. 1-26.

[3] Там жа, арк. 4-7.

і Радашковіцкая. Рыначная плошча, якая традыцыйна была цэнтрам планіровачнай структуры беларускіх гарадоў, у інвентары 1698 г. не згадваецца.

Самай вялікай у горадзе была Мінская вуліца, на ёй налічвалася 38 дымоў (сядзіб гараджан). Тут, на ўсходнім баку вуліцы, знаходзілася яўрэйская «школа» (малітоўны дом. — **У.П.**). На Ракаўскай вуліцы месцілася 29 сядзіб і на Радашковіцкай — 21. Мінская і Ракаўская былі забудаваны з двух бакоў. На чале мясцовай адміністрацыі стаяў войт. У канцы XVII ст. заслаўскім войтам быў Ян Васілеўскі, яго сядзіба знаходзілася на Ракаўскай вуліцы. На Рыначнай вуліцы сядзібы гараджан не згадваюцца. Паводле інвентара, «перад замкам ад вуліцы Рыначнай» знаходзіўся ўезд на панскую сядзібу[4].

Усе пабудовы панскай сядзібы апісваюцца ў інвентары вельмі падрабязна. Вялікі панскі дом быў драўляным, крыты дранкай і налічваў 7 пакояў. Усе памяшканні ацяпляліся печамі, аздобленымі паліванай кафляй зялёнага колеру. Падлога была з дошак. У вокнах шыбы мацаваліся з дапамогаю волава. На тэрыторыі панскай сядзібы таксама знаходзіліся разнастайныя гаспадарчыя пабудовы: кухня, свіран, дзве стайні, адрына, лазня, бровар, піўніца (халодны будынак для захавання піва, віна, малака. — **У.П.**). Усе гэтыя пабудовы былі драўляныя, крытыя гонтай ці дранкай, некаторыя мелі саламяныя дахі. Вакол панскай сядзібы быў драўляны плот з брамай. Акрамя таго, у інвентары згадваюцца дзве мураваныя піўніцы на тэрыторыі замка і два млыны. Вялікі млын «а двух колах з двума спускамі» знаходзіўся на р. Свіслачы, пры якім дзейнічаў тартак (майстэрня па распілоўцы бярвення), другі млын быў на р. Чарніцы.

Заняткі жыхароў Заслаўя былі даволі разнастайнымі. У інвентары згадваюцца 16 рамеснікаў 11 рамесных прафесій[5]. Сярод іх былі кавалі (4 чалавекі), ткачы (2), рыбакі (2), муляр, шавец, цясляр, млынар, ліннік (вырабляў канаты і вяроўкі), стэльмах (вырабляў калёсы і сані). Згадваюцца і даволі рэдкія прафесіі — пазументнік (вырабляў пазументы — шытую золатам або срэбрам тасьму) і цырулік (хірург). Магчыма, гэта адно з самых ранніх сведчанняў аб прысутнасці ў Заслаўі кваліфікаванага ўрача. Сярод жыхароў названы яшчэ ляснічы, а таксама вазніца і пастух, якія абслугоўвалі патрэбы панскага двара. Згадваецца мясцовы арандатар, магчыма, заслаўскай карчмы яўрэй Гірш Берковіч, сядзіба якога знаходзілася на Ракаўскай вуліцы.

Тэрыторыя Заслаўя была падзелена на асобныя участкі — пляцы, на якіх месціліся сядзібы гараджан. Памеры пляцаў вымяраліся ў прэнтах (1 прэнт = 23,7 м$^2$) і былі прыкладна роўныя ў кожным горадзе або мястэчку. Паводле ўмоў трымання аселыя пляцы падзяляліся на цяглыя, кунічныя і яўрэйскія. Гаспадары цяглых пляцаў абавязаны былі адбываць паншчыну, а кунічных — плаціць чынш. Акрамя таго, былі пляцы прыёмныя, гуменныя і палявыя, якія знаходзіліся ў часовым карыстанні. У

---

[4] Там жа, арк. 7.

[5] Падлічана па: НГАБ, ф. 1774, воп. 1, спр. 140, арк. 4-7

канцы XVII ст. у Заслаўі налічвалася 29 кунічных, 20 цяглых і 6 яўрэйскіх аселых пляцаў[6]. Яўрэі складалі каля 19% жыхароў Заслаўя, ім належала 17 гарадскіх сядзіб, прычым яны займалі неабавязкова яўрэйскія пляцы. Размеркаванне пералічаных тыпаў пляцаў у горадзе было даволі нераўнамерным. Ракаўская вуліца вылучалася тым, што на ёй абсалютна пераважалі кунічныя пляцы. На Радашковіцкай вуліцы, наадварот, большасць складалі цяглыя пляцы, а на Мінскай іх суадносіны былі прыкладна роўнымі. У горадзе мелася таксама пэўная колькасць вольных і пустых пляцаў, пераважна на Мінскай і Ракаўскай вуліцах.

Большасць гаспадароў займалі па аднаму аселаму пляцу. Прыкладна кожны чацвёрты меў толькі па $^1/_2$ пляца. Па паўтара пляца займалі толькі войт і яўрэй-арандатар. Акрамя таго, больш за палову жыхароў Заслаўя яшчэ мелі ў карыстанні дадатковыя пляцы (прыёмныя, гуменныя, палявыя), а таксама дадатковыя больш дробныя участкі («прэнты»), памер якіх вагаўся ад 6 да 28 прэнтаў. Па даных на 1698 г., у Заслаўі налічвалася 23 прыёмных, $19^1/_2$ гуменных, $7^1/_2$ палявых пляца і дадатковых 417 прэнтаў (9883 $м^2$). Калі ўлічыць дадатковыя пляцы, атрымліваецца, што некаторыя жыхары Заслаўя карысталіся 2 альбо 3 і нават болей пляцамі, як, напрыклад, нейкі Эйзік Дубіна, які меў 3,5 пляца (1 цяглы, $1^1/_2$ прыёмных і 1 гуменны пляц).

Значную ролю ў жыцці гараджан адыгрывалі сельскагаспадарчыя заняткі. За выключэннем яўрэяў (17 сядзіб) амаль усе жыхары Заслаўя мелі надзелы ворыўнай зямлі, памеры якіх ваганіся ад $^1/_4$ да 1 валокі (1 валока = 21,36 га). Абсалютную большасць (69%) складалі надзелы ў $^1/_2$ валокі[7]. Усяго ў карыстанні гараджан знаходзілася 13 валок ворыўнай зямлі (278 га).

Павіннасці жыхароў Заслаўя, якія яны выконвалі на карысць уладальніка графства, былі строга рэгламентаваны. Іх пералік утрымліваецца ў спецыяльным раздзеле інвентара, які меў назву «Устава»[8]. Павіннасці гараджан залежалі ад тыпу пляцаў, якімі яны карысталіся. З кожнага цяглага пляца трэба было адбываць паншчыну два дні на тыдзень, плаціць чынш у памеры 5 злотых і па чарзе даваць падводы да Мінска, Ракава і Радашковіч. Гаспадары кунічных пляцаў плацілі 12 злотых чыншу і былі вольнымі ад паншчыны і падвод. Яўрэі плацілі з пляца 7 злотых 15 грошай і таксама вызваляліся ад паншчыны і падвод. За кожны прыёмны пляц гараджане плацілі 2 злотых, палявы — 1 злоты, гуменны — $^1/_4$ злотага. За кожную валоку ворыўнай зямлі неабходна было штогод плаціць 6 злотых. Дадаткова жыхары Заслаўя разам сплочвалі за гарадскі выган 8 злотых і сенажаць пад Рафалавічамі — 9 злотых. Пры гэтым ад гараджан патрабавалася выплочваць чынш выключна сярэбранай манетай, лічачы 1 талер роўны 6 злотым. Вольнымі ад выканання гэтых павіннасцей былі войт, млынар, рыбак, вазніца і яўрэй-арандатар.

[6] Там жа, арк. 7.
[7] Падлічана па: НГАБ, ф. 1774, воп. 1, спр. 140, арк. 4—7.
[8] Там жа, арк. 8.

Усе жыхары Заслаўя, акрамя вольных, абавязаны былі, калі гэта будзе неабходна, выходзіць на рамонт і насыпку грэбляў. Акрамя таго, цяглыя мяшчане павінны былі летам, да жніва, адпрацаваць 6 талок (па аднаму чалавеку з дыму). Цікава адзначыць, што адміністрацыя графства выдавала гараджанам квіты з адзнакаю таго, хто і якія падаткі выплаціў. За атрыманне гэтых квітоў гараджане плацілі так званае «ўпіснoе», памер якога залежаў ад сумы сплочаных падаткаў і складаў па 3 грошы ад капы (капа = 60 адзінак). Паводле інвентара 1698 г., агульная сума з падаткаў, якія жыхары Заслаўя абавязаны былі штогод выплочваць уладальніку графства, складала 624 злотых і 6,5 гроша[9].

[9] Там жа, арк. 7.

**Пікулік А. М.,**
ІМЭФ НАНБ,
ст. навуковы супрацоўнік,
кандыдат мастацтвазнаўства

# «Покліч Рагнеды» Юрася Малаша і феномен рукапіснай кнігі на Беларусі

Што стаіць за такой з'явай, як рукапісная кніга, як яна здолела захавацца да нашых дзён, у чым сэнс яе існавання сёння, у час высокіх тэхналогій? Фенамен сучаснай рукапіснай кнігі існуе, здаецца, у процілеглых, хаця ў нечым і ўзаемазвязаных плоскасцях.

Па-першае, рукапісная (рукадзельная) кніга сустракаецца ў нашым паўсядзённым жыцці, пры гэтым — значна часцей, чым гэта здаецца на першы погляд. Згадзіцеся, рэдка хто ў дзяцінстве хаця б аднойчы не рабіў кніжку сам. Усяго і патрэбна — папера, нажніцы, каляровыя алоўкі, а ў выніку — колькі задавальнення! І няважна, што аркушы няроўныя, літары не заўсёды ўмяшчаюцца на радку, затое амаль сапраўдная кніжка зроблена ўласнымі рукамі, і самае галоўнае — іншай такой няма ў цэлым свеце... Да і далей, у дарослым жыцці, такія кнігі не знікаюць зусім. Дватры дзесяцігоддзі таму ці не палова краіны трымала ў руках так званы «самиздат», і далёка незаўсёды гэта былі безаблічныя «сляпыя» тэксты... А яшчэ ёсць у нашай рэчаіснасці школьныя, студэнцкія, «дзембельскія» альбомы, дзённікі, запісныя кніжкі — што гэта, калі не рукадзельныя кнігі? Цікава, што росквіт высокіх тэхналогій у канцы мінулага стагоддзя не толькі не перашкодзіў рукадзельнай кнізе, а наадварот, у пэўнай ступені паспрыяў развіццю самадзейнай кніжнай творчасці. Пры наяўнасці камп'ютэрнай тэхнікі кожны чалавек сёння здольны зрабіць некалькі (некалькі дзясяткаў) экзэмпляраў уласнай кнігі. Пры гэтым ён здольны цалкам самастойна (у межах закладзеных магчымасцей) выбіраць фармат, шрыфт, кампанаваць кніжную старонку і г.д., тым самым ажыццяўляючы на нашых вачах адвечную мару аб «ідэальнай» кнізе — калі аўтар і выдавец аб'яднаны ў адной асобе. Безумоўна, гэтую кнігу нельга назваць рукапіснай, але да аўтарскай кнігі яна адносіны мае.

Другая плоскасць, у якой сёння існуе рукапісная (рукадзельная) кніга, — гэта прафесійнае мастацтва. Яно ўсё часцей і часцей выкарыстоўвае кнігу не толькі як «крыніцу ведаў», а хутчэй за ўсё — як крыніцу формы. Кніга, у якой роля мастака выходзіць на першы план, існуе як кніжны аб'ект — ён створаны перш за ўсё для экспанавання на мастацкай выставе і для чытання, як правіла, не прызначаны, і кніга для чытача, для аматара графікі, для знаўцы і калекцыянера. Менавіта гэта, апошняя, і атрымала назву «кніга мастака», «artist's book». На Захадзе (перш за ўсё ў ЗША, потым і ў Еўропе) кніга мастака з 60-х гадоў мінулага стагоддзя склалася і з поспехам развіваецца, як асобны від (жанр?) мастацтва, на-

ладжваюцца спецыялізаваныя выставы, выдаюцца часопісы і каталогі, яе збіраюць музеі і мастацкія галерэі, таксама як і немалая колькасць прыватных калекцыянераў.

На жаль, на постсавецкай прасторы кніга мастака толькі заваёўвае свае пазіцыі, але ўжо ў 2000 годзе расійскі часопіс «Декоративное искусство» здолеў арганізаваць «круглы стол» па названай праблеме. Ён быў прысвечаны юбілею — 100-годдзю кнігі мастака, яго ўдзельнікі слушна шукалі вытокі гэтага мастацкага феномену ў традыцыях «livre d'artiste» і рускай футурыстычнай кнігі пачатку XX стагоддзя, звязвалі яе росквіт з разнастайнымі авангардысцкімі плынямі сярэдзіны стагоддзя. Дыскусія, у якой прынялі ўдзел тэарэтыкі і практыкі кніжнай справы, відавочна прадэманстравала, што ў сучасным мастацтвазнаўстве адносна гэтай з'явы значна больш пытанняў, чым адказаў на іх. Рускамоўныя даследчыкі ў адрозненне ад сваіх заходніх калег яшчэ не распрацавалі метадалогію вывучэння кнігі мастака, не выявілі дакладна яе генезіс на айчыннай глебе, амаль не стварылі нават крытычных аглядаў яе сённяшняга стану. Больш таго, пэўную складанасць выклікае нават і сам тэрмін, само азначэнне кнігі мастака. За адсутнасцю іншага, даследчыкі нагадваюць, магчыма, і спрэчнае азначэнне гэтага феномена, які даў мастак-канцэптуаліст Сол Ле-Вітт яшчэ ў 1976 годзе: «Книги художников», как и прочие виды искусства, являются попыткой транслировать художественные идеи от художника к зрителю-читателю. В отличие от прочих видов искусства, они общедоступны и недороги, не нуждаются в специальных экспозиционных пространствах. Они не представляют ценности, превышающей ценности идей, в них содержащихся... Художественные шоу приходят и уходят, а книги доступны круглый год. Они сами по себе предметы искусства, а не воспроизведение этих предметов...»*. Неад'емнай рысай кнігі мастака, безумоўна, з'яўляецца абавязковая прысутнасць яе аўтара ва ўсіх структурных адзінках кнігі. Мастак стварае тэкст (толькі зрэдку ён выкарыстоўвае чужы), распрацоўвае агульную канцэпцыю сваёй кнігі, выконвае ілюстрацыі і ўсё графічнае аздабленне. Калі кніга не рукапісная, мастак часцей за ўсё карыстаецца аўтарскімі тэхнікамі друку, не толькі вокладка, але і папера часта ствараюцца ім самім. Такім чынам, кніга мастака, здаецца, вырашае адвечны канфлікт ілюстраванага выдання — канфлікт паміж вербальным і візуальным, і вырашае яго на карысць апошняга. Увогуле, галоўнае ў кнізе мастака — гэта выява, а не тэкст, а калі нават і тэкст, то зразумелы і інтэрпратаваны як выяўленчы матыў.

Кніга мастака як асобны від творчай дзейнасці на Беларусі толькі фарміруецца, робіць першыя крокі і ўяўляе сабой на сённяшні дзень надзвычай стракатую карціну. З аднаго боку, тут прысутнічаюць смелыя постмадэрнісцкія эксперыменты Людмілы Русавай і яе аднадумцаў, якія выкарыстоўвалі кнігу ў серыі лінгвістычных перформансаў (арт-

---

*Дженис Экдал. О книге художников и не только //Декоративное искусство, 2000, № 3. С. 30-31.

праект «Наскрозь»), з другога — выдатная стылізацыя пад старажытную кнігу, якую зрабіў у свой час С. Пісарэнка (дыпломная работа мастака — рукапісны варыянт «Песні аб зубры» М. Гусоўскага). Нельга не нагадаць і шэраг выстаў аб'яднання «Літ-арт», якія збіраюць вакол сябе вучняў і паслядоўнікаў П. Семчанкі. Калі гэта яшчэ не кніга мастака, дык тыя пошукі, якія да яе, несумненна, прывядуць. Аб цікавасці да гэтай з'явы відавочна сведчыла і мастацкая выстава, прысвечаная тэкстам, якая адбылася некалькі гадоў назад у Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. Зразумела, што калі прыкладаў няшмат, кожны новы выклікае пэўны інтарэс.

Юрась Малаш за апошнія гады стварыў каля дзясятка рукапісных кніг, больш таго, яны сталі зараз ці не галоўнай справай у яго жыцці, аўтар працуе над сваімі творамі ўпарта і вельмі натхнёна. Гэтая праца тым больш цікавая, што яна не ўпісваецца цалкам ні ў першую, ні ў другую адзначаныя намі плыні існавання сучаснай рукапіснай кнігі.

Першую сваю рукапісную кнігу «Покліч Рагнеды» мастак пачаў ствараць у 2001 годзе (у 2005 г. завершана трэцяя рэдакцыя кнігі «Покліч Рагнеды», другая яе рэдакцыя (2003) захоўваецца ў аддзеле рэдкай кнігі Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, у фондах ГКМЗ «Заслаўе»), потым з'явіліся: «Дзівосны лубок» (2003), «Сусвет душою беларуса» (2004), «Космас, каханне і абстрактнае» (2004), «Патаемнае наіўных мастакоў» (2004), «Жыватворная крыніца Язэпа Драздовіча» (2005). У апошні час ён спрабуе скласці своеасаблівую рукапісную анталогію беларускай класікі (серыя «Рукапісныя фаліянты Белай Русі», 2004/2006). Нягледзячы на такі немалы спіс, кнігі гэтыя з'яўляліся хутчэй насуперак жыццёвым абставінам, чым дзякуючы ім.

Прафесійнай мастацкай адукацыі Юрась Малаш не атрымаў, ён скончыў гістарычны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, працаваў макетчыкам, настаўнікам гісторыі ў школе, пазней засвоіў спецыяльнасць мастака-рэстаўратара. Зараз ён працуе ст. навуковым супрацоўнікам аддзела экспазіцыі ў Гісторыка-культурным музеі-запаведніку «Заслаўе», выступае ў друку як гісторык мастацтва. Юрась Малаш неаднойчы ўдзельнічаў у выстаўках інсітнага мастацтва, дзе экспанаваў свае станковыя творы. На рукапісную кнігу ў яго застаюцца толькі вечары і выхадныя дні... Між тым працуе ён так самааддана, так упарта, і з'яўляюцца яго творы з такой хуткасцю, што, здаецца, на нашых вачах адбываецца нейкі моцны выбух творчай энергіі, мастак нібы выплюхвае на паперу тое, што збіралася ў яго душы не адно дзесяцігоддзе. І калі галоўнае ў кнізе мастака сапраўды камунікацыя, калі ствараецца яна перш за ўсё, каб цябе пачулі, то, безумоўна, творы Малаша — яскравы прыклад гэтага мастацкага феномена.

Большасць тэкстаў кніг належыць самаму аўтару. Напісаныя ў складанай эсэістычнай манеры, амаль як вершы ў прозе, тэксты Юрася Малаша на першы погляд прысвечаны розным тэмам: тут і вядомае паданне аб Рагнедзе і Ізяславе, тут і ўзнаўленне паўзабытых крыніц беларускага фальклору, і аўтабіяграфічная споведзь пра сваё самаасэнсаванне, і

даніна павагі беларускаму нацыянальнаму Адраджэнню, і разважанні аб патаемным беларускіх наіўных мастакоў, але на самой справе піша ён толькі аб адным. Усё, напісанае Юрасём Малашам, ад самага пачатку і да апошняга радка, на самой справе — пратэст закаханага ў сваю Радзіму чалавека супраць страты нацыянальнай культурнай спадчыны, супраць наступаючай з усіх бакоў глабалізацыі і нарастаючых інтэграцыйных працэсаў. Шчыры (хаця, магчыма, і наіўны) заклік спыніцца, не страчваць ні матчынай мовы, ні матчыных скарбаў.

У сваім імкненні быць пачутым, свядома ці падсвядома, мастак выбірае найбольш традыцыйную і зручную форму захавання і перадачы інфармацыі — кнігу, ён спрабуе пашырыць яе магчымасці і надае ёй эстэтычна прывабны выгляд. Адсюль — і амаль абавязковы пераклад тэкстаў на некалькі моў (рускую, англійскую), і спробы выдаць гэтыя рукадзельныя творы, каб павялічыць кола іх чытачоў. Больш таго, у апошні час мастак імкнецца стварыць своеасаблівы «выставачны» варыянт сваіх кніг — аб'яднаць у адной экспазіцыі па некалькі іх старонак з тым, каб уяўленне аб рукапіснай творчасці маглі атрымаць наведвальнікі бібліятэк, вучні сярэдніх школ.

Гартаючы старонкі рукапісных кніг Юрася Малаша, нельга не заўважыць іх дваістасці. Як і сам аўтар, яго творы балансуюць на мяжы прафесійнага і маргінальнага мастацтва, да іх немагчыма падыходзіць са звыклымі меркамі. Безумоўна, яны зусім не падобныя на вышуканыя пластычныя эксперыменты мастакоў-постмадэрністаў і ўзыходзяць да традыцый старажытнай рукапіснай кнігі і першых старадрукаў, якія, дарэчы, Юрась Малаш пасьпяхова вывучае. Менавіта адтуль, з сівой мінуўшчыны, завіталі ў яго рукапісныя творы і паўстаў, якім напісаны тэкст кнігі «Покліч Рагнеды», і пагінацыя старонак ужо забытымі літарамі, і вялікая колькасць заставак, канцовак, ініцыялаў, якія, здаецца, амаль зніклі з нашай сучаснай паліграфічнай кнігі.

Пры гэтым Ю. Малаш вельмі ўважліва ставіцца да сапраўднасці тых элементаў кніжнай аздобы, якія ён ужывае. З сапраўднай навуковай добрасумленнасцю аднаўляе ён старажытны ўстаў, паўстаў, каліграфію. Майстар не церпіць прыблізнасці, слушна заўважае, што нічога выпадковага ў старажытней кнізе не было, нават самая маленькая яе дэталь захоўвае духоўны вопыт нашых продкаў, увасабляе іх светаўспрыманне.

Асноўны прынцып, які выкарыстоўвае мастак часцей за ўсё, — спалучэнне на адным кніжным развароце рукапіснай старонкі тэкста са старонкай-ілюстрацыяй — таксама вядзе пачатак ад вытокаў нашай кніжнасці. Малюнкі, як правіла, выконваюцца тушшу, мастак карыстаецца акварэллю і шмат увагі надае колеру і фактуры паперы. Шмат намаганняў прыкладае ён, каб яе адценне нагадвала чытачу крыху пажухлыя старажатныя рукапісы.

І ўсё ж мастак не займаецца дакладнай рэканструкцыяй рукапісных помнікаў. Юрась Малаш застаецца сучасным чалавекам, ён жыве на пачатку XXI стагоддзя і не абыходзіць балючых праблем нашага часу. Нездарма на адным з яго аркушаў мы бачым сабраныя ў адно трагічныя

сімвалы сучаснага свету — полымя над Чарнобылем, падводная лодка «Курск» на дне мора, самалёты, што атакуюць небаскробы ў Нью-Йорку...

Мастак імкнецца, каб кожная яго кніга мела асабістае, непаўторнае аблічча. У апошніх сваіх творах ён часцей выкарыстоўвае фотаздымкі, рэпрадукцыі, свае ўласныя, створаныя раней станковыя творы, нават прарэзы.

Адметная рыса кніжнай творчасці Юрася Малаша — вялікая колькасць «цытат». Гартаючы старонкі яго рукадзельных кніг, нібы знаёмішся з анталогіяй беларускага мастацтва. Адчуваецца тут і ўздзеянне суровай прыгажосці паганскіх ідалаў, і наіўнае хараство беларускіх вышываных ручнікоў, і дзіцячая мудрасць твораў Язэпа Драздовіча, і шмат чаго іншага, што, дарэчы, магло нарадзіцца толькі на нашай глебе... Мастак не толькі не ўтойвае гэтае «цытаванне», а, здаецца, нават яго і падкрэслівае. Магчыма таму, што падсвядома разумее, што цэлае заўсёды больш, чым яго часткі, і ніякая колькасць цытат не перашкодзіць, а толькі дапаможа яму выказаць сваё, асабістае.

Юрась Малаш — майстар інсітнага мастацтва. І гэта значыць, што, акрамя іншага, ён заўсёды з сусветам — сам-насам, без пасрэднікаў. Над такімі мастакамі не ўладараць ні звыклыя ўяўленні часу, ні прызнаныя аўтарытэты, ні догмы прафесійнай адукацыі, ні думкі калег і крытыкаў, бо творчасць для іх — адзіная магчымасць выказацца. Кніга Юрася Малаша, кніга мастака — спроба выказацца так, каб пачулі.

**Собалева Л. П.,**
малодшы навуковы супрацоўнік
Інстытута гісторыі НАН Беларусі

# Вядомыя жанчыны заслаўскай зямлі

У 1970-х гадах у сусветнай гістарычнай навуцы з'явілася гістарычная феміналогія, якая паставіла сваёй задачай прыцягненне ўвагі да гісторыі жанчыны. Ва ўсе часы жанчыны неслі ў свет прыгажосць і новае жыццё. Яны ўносілі ў адносіны паміж дзяржавамі, пакуль мужчыны ішлі вайной адзін на аднаго, мір і спакой, замацоўвалі гэты мір дынастычным шлюбам, былі шчаслівымі ў гэтым шлюбе ці марнелі ў ролі нялюбай жонкі, нараджалі і выхоўвалі нашчадкаў, станавіліся маці магутных дынастый ці палітычных дзеячаў... У вялікім спісе нашых знакамітых суайчынніц і вядомыя заслаўскія жанчыны.

Ганна Фёдараўна Заслаўская... (? — 1571), апошняя з Заслаўскіх. Яе бацька — Фёдар Іванавіч (каля 1470 — 1538 гг.) быў намеснікам віцебскім, з 1494 па 1499 гг. — намеснікам бранскім, з 1501 па 1538 гг. — старастам і дзяржаўцам аршанскім. Маці — Соф'я Андрэеўна Сангушка, пляменніца славутага палкаводца і вялікага гетмана Канстанціна Астрожскага. Сястра Ганны памерла рана, і ёй дасталіся ўсе маёнткі бацькоў, у тым ліку з трэцяй часткай Заслаўя і замка (горад быў падзелены паміж 9 уласнікамі, нашчадкамі братоў бацькі — Міхаілам і Багданам, найбольш значнай была доля Ганны Фёдараўны).

У 1537 г. Ганна Фёдараўна выйшла замуж за Яна Юр'евіча Глябовіча (? — 1549 гг.), з 1546 г. — канцлера Вялікага княства Літоўскага. Заснавальнік роду Глеб быў родзічам Івана Вяжэвіча — баярына, даволі вядомага ў сярэдзіне XV ст. Дакладна паходжанне Вяжэвічаў і Глябовічаў не вызначана, але існуе меркаванне, што яны паходзяць з баярства Смаленскай зямлі, далучанай да Вялікага княства Літоўскага на мяжы XIV — XV стст. [8, s. 40-45].

Глябовічы даволі рана (у 2-й палове XV ст.) прынялі каталіцтва. Іх узвышэнне было імклівым. Ужо ўнук Глеба, Ян Юр'евіч, заняў пасля Альбрэхта Гаштаўта пасады канцлера і віленскага ваяводы. Аднак маёмасныя ўладанні яго не былі такімі ж вялізнымі, як і ў Радзівілаў, Кезгайлаў, Гаштаўтаў. Паўторны шлюб з Ганнай Фёдараўнай Заслаўскай прынёс яму Заслаўе пад Менскам, Межава пад Оршай, сваяцкія сувязі з Гедымінавічамі, зрабіў яго буйным феадалам і дазволіў зрабіць бліскучую кар'еру. Пазней Ян Глябовіч атрымаў у пажыццёвае карыстанне буйныя староствы Барысаўскае і Бабруйскае. Імкнучыся падкрэсліць сваю веліч, Глябовіч наўмысна падбіраў у кола сваіх прыдворных «прыродных князёў» са здрабнелых праваслаўных родаў: Адзінцэвіча, Бароўскага, Пузыну. Свой уласны двор Ян Глябовіч наладзіў накшталт каралеўскага,



Кафля з выявай сумеснага герба Я. Глябовіча і К. Кратоўскай. Канец XVI ст.

у Вільні меў палац, пры якім утрымліваўся звярынец з экзатычнымі жывёламі. Ад шлюбу з Ганнай засталіся сын Ян і тры дачкі — Гальшка, Барбара і Дарота.

Ганна Фёдараўна выхоўвала дзяцей практычна самастойна (сыну не было і 5 гадоў, калі памёр бацька), акрамя таго, дбала і пра Заслаўе. Дзякуючы далучэнню частак горада, якія належалі яе стрыечным сёстрам, Марыі і Настассі Мсціслаўскім, да 1560 г. увесь горад і ўвесь замак належаў толькі ёй. Пры апошніх Заслаўскіх горад расквітнеў: пашырылася гарадская тэрыторыя, цэнтрам яго стала гандлёвая плошча, новы штуршок атрымалі рамёствы, асабліва ганчарнае [1, с. 124]. З сярэдзіны XVI ст. на рацэ Свіслач дзейнічаў заслаўскі млын. Усе гэтыя змены адбываліся ў тым ліку і дзякуючы гаспадарчай дзейнасці і амбіцыям Ганны Фёдараўны. Тым больш узорам была каралева Бона Сфорца (1494—1557 гг.), прыхільнікам палітыкі якой пэўны час з'яўляўся муж Ганны Фёдараўны, жанчына разумная, энергічная і дальнабачная — дзеля ўзмацнення палітычнай улады свайго мужа інтэнсіўна павялічвала ўласныя зямельныя ўладанні, стала ініцыятарам аграрнай рэформы 1557 г., якая ўвайшла ў гісторыю як «Валочная памера». Ёсць падставы меркаваць, што яны былі знаёмыя. Вялікі князь Жыгімонт I высока цаніў адданасць Глябовічаў: на сённяшні дзень вядомыя 2 прывілеі на полацкае ваяводства за першую палову XVI ст., адзін з іх — прывілей Яну Юр'евічу 1532 г. Жыгімонт I надае ваяводства Я. Глябовічу: за заслугі яго продкаў перад продкамі Жыгімонта; за заслугі самога Я. Глябовіча перад вялікім князем, і «втраты знаменитыи прыимовалъ» у прывілей Глябовічу ўнесены такі аргумент, як просьба каралевы Боны ўзнагародзіць за старую службу і заахвоціць да новай [3, с. 22-23].

Польскі даследчык Ю. Вольф у генеалагічным зборніку прыводзіць шэраг запісаў, якія характарызуюць Ганну Фёдараўну даволі самастойнай жанчынай: яна заключала дагаворы, пазычала і купляла маёмасць, абараняла маёмасныя правы сваіх дзяцей [6, s. 591-594]. Трэба адзначыць, у XVI ст. жанчыны ВКЛ мелі значна больш правоў, чым жанчыны вышэйшага грамадства ў іншых еўрапейскіх краінах. Высокі статус ім забяспечвала ўласная маёмасць і права распараджацца ёю. Адносна асабістых чалавечых якасцей Ганны Фёдараўны, пра якія замоўчваюць крыніцы, сведчыць тэстамент яе сына, Яна Глябовіча. Сваіх сыноў ён просіць шанаваць маці (жонку Яна Янавіча Глябовіча — Кацярыну Кратоўскую): «...каб вы матульку сваю ў вялікай пашане мелі, бо яна вас нарадзіла,

выхавала і старанна вам з маленства вашага служыла...» [5, с. 60-67]. Паколькі ўнутраны лад жыцця сям'і трымаўся ў тагачасным грамадстве на жанчыне, таму і дзеці наследавалі лепшыя рысы характару маці і перадавалі ў сваю чаргу наступнаму пакаленню.

У 1562 г. Ганна Фёдараўна ў другі раз выйшла замуж — за польскага князя Іераніма Сіняўскага, аснову маёмасці яе сына Яна Янавіча, графа на Дуброўне і Заслаўі, склалі бацькоўскія маёнткі князёўны заслаўскай.

Род Глябовічаў зрабіў значны ўклад у гісторыю Вялікага княства Літоўскага. Ян Янавіч Глябовіч, знакаміты дзяржаўны дзеяч, быў менскім кашталянам у 1571—1585 гг. Менавіта пры ім з 1581 г. у Менску пачалі праводзіцца пасяджэнні Трыбунала ВКЛ, што садзейнічала ўзвышэнню палітычнай ролі горада і яго эканамічнаму развіццю, будучы гарачым прыхільнікам пратэстантызму, заклаў кальвінісцкі збор ў Заслаўі. Пры ім горад стаў культурным асяродкам краю: пэўны час тут жыў і працаваў Сымон Будны, у горадзе была наладжана вытворчасць паперы [2, с. 54].

Бацькоўскія маёнткі дазволілі тром пакаленням Глябовічаў трымацца ў ліку найбуйнейшых дзяржаўных дзеячаў. Род іх абарваўся са смерцю Ежы Караля Глябовіча ў 1669 г. Адна з яго дачок і прапраўнучак Ганны Фёдараўны Заслаўскай — Крысціна Барбара Глябовіч — выйшла замуж 12.06.1667 г. за Казіміра Паўла Яна Сапегу (1642—13.3.1720), а паколькі другая дачка дзетак не мела, усе маёнткі Глябовічаў, у тым ліку і Заслаўскае графства, перайшлі ў маёмасць Сапегаў [7, s. 336-356]. У 1676 г. яны заснавалі ў Заслаўі кляштар дамініканцаў, пры якім былі шпіталь, школа і бібліятэка. Паводле вопісу інвентара 1796 г., яе фонд налічваў больш за 300 тамоў [4, с. 70].





Муж Крысціны Барбары меў выдатную адукацыю: вучыўся ва ўніверсітэтах Граца і Лівена, зрабіў бліскучую кар'еру: ад падскарбія надворнага ВКЛ да вялікага гетмана літоўскага. Выхаванне дзяўчынак у тагачасным грамадстве было пастаўлена па-іншаму: іх вучылі пісьму, чытанню, рэлігійным законам, большая ўвага надавалася ў выхаваўчым працэсе фарміраванню такіх якасцей, як цнатлівасць, рэлігійнасць і гаспадарлівасць. Мецэнацкая дзейнасць Крысціны Барбары сведчыць аб дастатковым узроўні адукацыі. Адносіны паміж Крысцінай Барбарай і Казімірам Янам Сапегай былі заснаваны на павазе, узаемаразуменні і падтрымцы. Крыніцы таму пацвярджэнне — у найбольш значныя перыяды свайго жыцця і грамадскай дзейнасці яны згадваюцца разам.

Як вядома, 2006 год абвешчаны Годам маці. Хай і сённяшнее выступленне пра вядомых жанчын Заслаўя, якія занялі сваю нішу ў беларускай гісторыі, стане напамінкам пра святое, прыгожае і жыццядайнае, што ўвасоблена ў Жанчыне...

Літаратура:

1. Заяц Ю.А. Заславль в эпоху феодализма. Мн., 1995. С. 124.

2. Заяц Ю.А. Заславль X—XVIII вв.: Историко-археологический очерк. Мн., 1987. С. 54-55.

3. Малиновский И.А. Сборник материалов, относящихся к истории панов-рады Великого княжества Литовского, Томск, 1901. С. 22-23.

4. Памяць. Заслаўе. Мн., 2000. Ст. 70.

5. Тэстамент Яна Глябовіча, ваяводы троцкага. Пасляслоўе, пераклад і публікацыя А. Унучака. // Спадчына. 2003 г. № 1. Ст. 60-67.

6. Wolff J. Kniaziowie litewska rusky od konca wieky. Warszawa, 1895. S. 591-594.

7. Rachuba A.. Kazimierz Jan Pawel // Dom Sapiezynski. Warszawa, 1995. S. 336-356.

8. Polski slownik biograficzny. T. 43. S. 40-47.

**Тарасаў С. В.,**
кандыдат гістарычных навук,
загадчык аддзела Інстытута гісторыі НАН Беларусі

# Полацк як пачатак беларускай дзяржаўнасці

У 862 г. Полацк ужо згадваецца як горад, а ў 970 г. з'яўляецца і тэрмін, які вызначае дзяржаву — Полацкая зямля, у якую уваходзяць многія гарады: Ізяслаў, Менск, Друцк, Брачыслаўль і інш. Відавочна, што назва дзяржавы ёсць вытворнае ад «Полацка» і тлумачыць не толькі горад, але і акругу — «зямлю», якая падпарадкавана гораду. Такім чынам, і храналагічна і этымалагічна відаць, што першым узнікае горад-дзяржава, які аб'ядноўвае вакол сябе дзяржаву-зямлю разам з іншымі гарадамі.

Вельмі істотна, што ў IX—X стст. на еўрапейскім кантыненце склаўся своеасаблівы тэрытарыяльны падзел не толькі на дзяржаўным, але і на эканамічным узроўні: старыя, паўднёвыя структуры басейна Міжземнага мора, якія складаліся тысячагоддзямі, і больш маладыя — вакол Балтыйскага мора (Ф. Бродель, 1992. С. 281). Полацк, безумоўна, уваходзіў у Балтыйскі рэгіён. Яго асаблівасць была ў тым, што дастаткова «маладыя», а значыць, і актыўныя народы ішлі ў Еўропу часоў Візантыйскай імперыі не толькі імкліва, але і не абцяжараныя тысячагадовымі праблемамі (Херман Й., 1986. С. 8—11). Такім рухам у пэўнай ступені можна разглядаць не толькі з'яўленне на землях Паўночнай Беларусі славян, але таксама і скандынаваў. Калі не ўсё, то многае будавалася і ўзнікала вакол дарог. І дарогі гэтыя, безумоўна, на першых этапах былі воднымі. Адзін з асноўных еўрапейскіх шляхоў, які актыўна выкарыстоўваўся да XIII ст.: Лондан—Бруге—Рыга—Рэвель—Ноўгарад—Полацк—Смаленск. Менавіта ён быў цэнтральным, воссю гандлёвых аперацый (Ф. Бродель, 1992. С. 98) і, пэўна, палітычных стасункаў. Гэтая дарога адкрывала далейшы шлях як у арабскі свет па Волзе, так і ў Візантыю па Дняпры.

Таму і не дзіва, што ўздоўж менавіта гэтай дарогі паўсталі найбольш буйныя гарады Усходняй Еўропы: Ноўгарад, Пскоў, Старая Ладага, Смаленск, Віцебск, Полацк, Магілёў, Кіеў і інш. Другія гарады — «прыгарады» меншыя: Ізяслаў, Менск, Усвят, Друцк, Лукамль, Себеж, Невель і інш., так ці іначай былі звязаны як праз вялікія гарады, так і самастойна з тымі ж шляхамі. Па-рознаму яны імкнуліся выкарыстаць выгоды геаграфічнага размяшчэння: хто непасрэдна з транзіту, хто з волакаў на водападзелах, хто з наяўнасці моцных прытокаў да вялікіх рэк (напрыклад, Чарнігаў на Дзісне, Гомель на Сажы). Але так ці іначай праз іх народы і створаныя імі дзяржавы трапілі ў адзіную агромністую, не да канца структураваную глабальную сістэму між'еўрапейскіх сувязей. Гэта быў своеасаблівы пачатак звязвання Паўднёвай і Паўночнай Еўропы ў

адзіны арганізм. Фактычна яе нараджэнне. І венамі гэтага арганізму былі дарогі, а кроўю — вада.

Актыўны рух IX ст. нарадзіў гарады. У нас ёсць усе падставы лічыць, што пачаткам гэтага працэса ўсё-такі было з'яўленне на нашых землях скандынаваў, с моманту першай фіксацыі абмену матэрыяльнымі каштоўнасцямі і пошуку шляхоў да іх у 750 — 860 гг. (Лебедзеў Г., 1985. Ст. 260). Водападзел рынку праходзіў праз гарады, а гарады не маглі існаваць без улады, гэтаксама як і без «прыгарадаў — прадмесцяў» і прылягаючых вёсак (Бродель Ф., 1986. С. 510). На адным з такіх водападзелаў і паўстаў Полацк. І ў тым, што на другім этапе развіцця славяна-скандынаўскіх адносін: сумесных палітычных, гандлёвых дзеянняў, развіцця культурнага абмену ў 860 — 970 гг. (Лебедев Г., 1986. С. 260) — у Полацку на «стале» з'явіўся вараг Рагвалод, няма нічога дзіўнага. Не паглыбляючыся ў «варажскую» палеміку, адзначым, што сучасны падыход не адмаўляе ролі і месца скандынаваў як у палітычным, эканамічным, так і культурным жыцці славянскіх зямель Еўропы. Яны не здольны былі толькі ўплываць на фарміраванне этнасу, у якім досыць хутка і бясследна растварыліся, выканаўшы ролю каталізатара дзяржаватворчых працэсаў (Джаксон Т.Н. Варяжский вопрос. http//janaberestova.narod.ru/jakson.htm).

Сёння значныя археалагічныя матэрыялы дазваляюць уявіць сабе горад ад пачатку яго ўзнікнення і развіццё ў далейшыя часы. Да прыходу крывічоў старажытнае полацкае гарадзішча належала балцкім плямёнам днепра-дзвінскай культуры (Штыхаў Г., 1992. Ст. 100). Яны далі назву рацэ і гораду. Але балтамі гарадзішча выкарыстоўвалася ў якасці сховішча і не мела такіх спецыфічных гарадскіх функцый, як палітычны, адміністрацыйны, гандлёвы і інш. цэнтр. Толькі з прыходам крывічоў і з'яўленнем тут скандынаваў Полацк пачынае развівацца менавіта як горад. На жаль, сёння мы не маем пераканаўчых матэрыяльных сведчанняў аб заснаванні горада менавіта ў IX ст. Але не маем падстаў і адмаўляць факта яго існавання ў 862 г. на падставе яго згадкі на старонках летапісаў побач з іншымі гарадамі Паўночнай Русі.

Разам з тым няма ніякага сумнення, што ў X ст. гэта быў ужо паўнавартасны горад. Першым сведчаннем таго (апрача ўласна замкадзядзінца) ёсць наяўнасць гарадскога вакольнага горада-пасада. Самы старажытны полацкі пасад быў двухчасным: невялікае паселішча на правым беразе Палаты (0,3 га) і асноўнае, якое дамыкала да горада з поўдня (каля 6 га) (Тарасаў С., Мн., 1998. Ст. 12). Між іншым, падобны падзел (а ў рэальнай тапаграфіі X ст. і водападзел рэчышчам Палаты) мог быць адлюстраваннем наяўнасці ў горадзе дзвюх этнічна-сацыяльных груп: славян і скандынаваў.

Разам з замкам агульная тэрыторыя горада ў IX — X стст. складала не меней 7 га. Па нашых падліках, на падставе археалагічных доследаў, у Полацку ў гэты час жыло каля 4 тыс. чалавек. Горад размяшчаўся ў 1 км ад галоўнага рачнога шляху — Дзвіны і меў умацаванні (замкавую сцяну, роў, магчыма, умацаванні на пасадзе). Гэта сведчыць аб яго вайскова-

адміністрацыйнай функцыі. Без сумнення, ён быў таксама і ідэалагічна-рэлігійным цэнтрам, аб чым мы можам меркаваць ускосна. У XII ст., калі старажытнае гарадзішча страціла свае пачатковыя функцыі, яно выкарыстоўвалася ў якасці могілак і праіснавала ў такім выглядзе аж да сярэдзіны XX ст.

Полацкі пасад IX—X стст. — сведчанне не толькі наяўнасці рамяства і не столькі падзелу рамяства і земляробства, колькі развіцця гандлёвых сувязей. «...кожны горад, якім бы ён ні быў, — гэта перш за ўсё рынак. Калі апошні адсутнічаў, горад было немагчыма ўявіць» (Бродель Ф., 1986 г. С. 533).

Сёння можна ўпэўнена сцвярджаць, што ўжо ў тыя далёкія часы Полацк быў буйным гандлёвым цэнтрам. Аб гэтым сведчаць не толькі шматлікія манетныя і рэчавыя скарбы (два з іх X ст. знойдзены непасрэдна ў горадзе), але і надзвычай распаўсюджанае залатарскае рамяство. У горадзе IX—X стст. археолагамі знойдзены дзве залатарскія майстэрні, а ўсяго да XIII ст. вядома месца знаходжання чатырох. Гэта надзвычай многа для раннесярэдневяковага горада! Такім чынам, ужо на пачатковай стадыі развіцця ў Полацку праглядаюцца рысы, якія сумарна вызначаюць прыкмету дзяржаўнасці.

XI стагоддзе было адметным для ўсёй Еўропы. Менавіта з гэтага часу і да першых прамысловых рэвалюцый у Англіі, а таксама да жахлівага заняпаду, які прынесла чума 1450—1550 гг. (дарэчы, у Еўропе ў цэлым, уключаючы і славянскія землі, яна знішчыла каля 100 млн чалавек), адбываўся пастаянны рост гаспадарак, эканомік, станаўленне і развіццё дзяржаў. Фактычна за адно XI ст. Полацкая зямля дасягнула вышыні сваёй магутнасці і велічы: самастойная незалежная палітыка, высокі дух і высокае мастацтва, не кажучы ўжо пра эканамічнае развіццё. На гэтым запасе дзяржава існавала яшчэ цэлых два стагоддзі.

Тапаграфічны, эканамічны, палітычны, сацыяльны, культурны і, пэўна, этнічны фактары зліліся ў гэты перыяд у адно цэлае. З сярэдзіны XI ст. мы бачым ужо зусім іншы горад і нават на іншым месцы. (Дарэчы, не паглыбляючыся зараз у праблему пераносу старажытных феадальных гарадоў, адзначым, што перанос, гэтак характэрны для многіх гарадоў не толькі на славянскіх абшарах, — не выключэнне, а хутчэй заканамернасць. Прычым яна праяўляецца там, дзе горад набывае нейкі новы статус. Хутчэй за ўсё — сталіцы, эканамічна-палітычнага цэнтра. На першай стадыі — X—XI стст. — гэта прыклады Полацка, Ноўгарада, Смаленска і нават у некаторай ступені Кіева. На другой стадыі — XII—XIII стст. (утварэнне феадальных княстваў — Мінск, Барысаў, Пінск).

Перанос Полацка на Верхні замак толькі часткова змяніў яго знешнюю тапаграфічную структуру, праз змену геаграфічнай арыентацыі і накірунку далейшага тапаграфічнага развіцця ў міжрэччы Палаты і Дзвіны. Калі б горад (у дадзеным выпадку Полацк) быў нечым абстрактным і «вісеў» у паветры, то ён прыняў бы форму шара. Аднак гарады феадальнай пары мелі «звычку рухацца» уздоўж восі сувязяў, адзінае ўлічваючы асаблівасці рэльефу (Бархин М., 1986. С. 46). Такой воссю

для Полацка, як і для многіх іншых гарадоў, была рака, у дадзеным выпадку — Дзвіна. Менавіта яна «паклікала», «запатрабавала» перанясенне замка на прыдзвінскае ўзвышша і будаўніцтва тут Сафійскага сабора. Услед за замкам на ўзбярэжжы Дзвіны апынуліся пасады: Запалоцкі і Вялікі, а потым узніклі і пасады на левабярэжжы: Бельчыцы, Востраўскі, Экіманкскі і г.д. Цэнтральная частка горада, зададзеная міжрэччам Палаты і Дзвіны, доўгі час (па XIX ст.) развівалася па веернарадыяльнай прасторавай схеме. А вось новастворанargentinaы па берагах пасады мелі ў аснове прамавугольную, выцягнутую кампазіцыю. Яна захавалася і па сённяшнія дні.

Бурныя падзеі XI ст. дазволілі Полацку ўпэўнена адчуваць сябе і ў XII—XIII стст., нават у некаторай ступені знаходзіцца ў стане лёгкай эйфарыі. Сапраўды, на агульным фоне бясконцых спрэчак і боек паміж паўднёва-рускімі князямі палачане даволі лёгка выганялі з горада і запрашалі ў горад тых жа князёў. Мала таго, Полацк, ужо не будучы абсалютным валадаром на прасторах усё яшчэ існуючай Полацкай зямлі, заставаўся самым багатым, самым буйным горадам рэгіёна. Ён заставаўся сталіцаю дэ-юрэ, а не дэ-факта. Пэўна занадтая перакананасць у сваіх уласных здольнасцях падштурхнула палачан і князя Уладзіміра на крок, не зразумелы сёння ніводнаму гісторыку — дазволіць немцам заснаваць у 1201 г. пасяленне ў вусці Дзвіны — Рыгу. Пачатая затым агрэсія з боку крыжакоў не знішчыла Полацк як такавы (нягледзячы на тое, што і на яго нападалі, і нават, па некаторых звестках, захоплівалі). Але палачане, як і наўгародцы і пскавічы, згубілі не толькі тэрыторыі ўплываў і ўласныя тэрыторыі.

Эканамічная база Полацка была моцна падарваная тым, што ён вымушаны быў плаціць даніну там, дзе раней яе збіраў. Гэта значыць, што ўсе знешнегандлёвыя аперацыі станавіліся на значны працэнт даражэй. Гэта, без сумнення, выклікала заніжэнне сабекошту экспартуемай прадукцыі на ўнутраным рынку і, адпаведна, падвышэнне кошту імпарту, што са свайго боку выклікала збядненне не толькі пасрэднікаў (у горадзе), але і непасрэдных вытворцаў у вёсках. Паколькі гарадская гаспадарка першапачаткова пазбягала «землеапрацоўчай эканомікі», а існаванне і дзяржаўнае кіраванне патрабавала значнага бюджэту, а бюджэт патрабаваў адміністрацыю, то адміністрацыя патрабавала яшчэ большых грошай і большых падаткаў (Бродель Ф., 1992 г. С. 299-300).

Даволі лёгка ўявіць сабе, з чым пачаў сутыкацца Полацк у першай палове XIII ст. Палачане спрабавалі сілаю вярнуць сабе разам з лівамі захопленыя крыжакамі землі (1206 г. — паход на Гольм). Аднак на наступны год страцілі Кукенойс, а праз два гады і Герсіку. Мірныя перамовы ні да чаго не прыводзілі. Нарэшце ў 1216 г. быў атручаны немцамі і сам полацкі князь Уладзімір. Тым жа часам смаляне, незадаволеныя адсутнасцю прамога выхада на Балтыку (Полацк не забяспечваў яго), карыстаючыся аслабленнем горада, нападалі на яго і яго землі з усходу. Апошняя спроба апошняга полацкага князя з дынастыі Рагвалодавічаў знайсці саюзніка ў выглядзе спрадвечнага ворага і канкурэнта — Ноўгарада была

сапраўды адчайнаю. Але яна таксама не дала пэўнага выніку. Брачыслаў, ажаніўшы сваю дачку з Аляксандрам Яраславічам (Неўскім) у 1239 г., толькі што паслаў свае дружыны на Неўскую бітву 1240 г. А ноўгарадскіх дружын ён не дачакаўся. У Яраславіча хапала і сваіх праблем з атрыманнем залатаардынскага ярлыка. Таму, пэўна, натхнёныя прыкладам Навагародка, які запрасіў да сябе на княжанне Міндоўга (з каранацыяй ад Папы Рымскага, што ставіла на адну ступеню рэлігійна-палітычнага ганку і крыжакаў, і ліцьвінаў, і «русінаў»), палачане запрашаюць да сябе ў 1262 г. літоўца Таўцівіла. Аднак ні Таўцівіл, ні наступныя два князі са славянскімі імёнамі, ні сядзеўшы за імі Войшалк, сітуацыю карэнным чынам не змянілі. Мала таго, у трэцяй чвэрці XIII ст. невядомы па імені князь падпарадкаваў Полацк рыжскаму архіепіскапу. Горад фактычна быў акупаваны немцамі. Палачанам нічога не заставалася, як, прыгадаўшы сваю раннюю гісторыю, зноў паклікаць на дапамогу «варагаў», на гэты раз літоўцаў на чале з князем Віценем. Сумеснымі намаганнямі немцы былі выгнаны, а горад атрымаў пэўную незалежнасць пад вяршэнствам літоўскіх князёў.

XIV — XV стст., як мы адзначалі, досыць цьмяны перыяд у гісторыі Полацка. Нязначная колькасць пісьмовых крыніц, адсутнасць археалагічных культурных напластаванняў толькі ў некаторай ступені дазваляюць меркаваць аб яго эканамічным і палітычным развіцці. Уключаны ў склад ВКЛ, горад у палітычных адносінах цалкам стаў залежны ад велікакняжацкай улады. Спачатку ў ім сядзелі Гедымінавічы, а з 1392 г. — намеснікі. Аднак мяркуючы па дакументах (граматах і прывілеях), вярхоўная ўлада была зацікаўлена ў эканамічным і сацыяльным развіцці горада. Улада намесніка не была абсалютнаю, судзіць мяшчан ён мог толькі пры ўдзеле мясцовага баярства (прывілей Вітаўта 1388 г.). Тое ж было пацверджана і ў прывілеі князя Аляксандра. Вяршыняй самастойнасці для горада стала атрыманне прывілея на магдэбургскае права ў 1498 г., за якое потым неаднойчы давялося змагацца, адстойваючы свае правы.

Знешне тэрытарыяльна горад за гэты час мала змяніўся. Аднак у ранейшых прасторавых межах адбывалася пераразмеркаванне сацыяльна-тапаграфічных дамінант. Палітычны цэнтр горада ў канцы XV ст. перамясціўся на Вялікі пасад, дзе была збудавана ратуша і дзе канцэнтравалася ўся дзяржаўная і мясцовая ўлада. Складваліся няпростыя сацыяльныя адносіны паміж прадстаўнікамі вялікага князя і баярамі з аднаго боку, баярамі і магістратам — з другога, мяшчанамі і магістратам — з трэцяга. У пэўнай ступені магістрат стаў падаўжальнікам і абаронцаю «старыны», традыцый вечавай арганізацыі, не толькі вырашаючы надзённыя праблемы горада, але і абараняючы беглых «халопаў і робу».

Полацк — першы беларускі горад у часе і прасторы. Ён стаў вынікам завяршэння працэсу лакальнай этнічнай кансалідацыі. З яго пачалося стварэнне першай паўнавартаснай дзяржавы на тэрыторыі Беларусі. Полацк як сталіца дзяржавы адыграў выключную ролю першаштуршка ў доўгім і супярэчлівым працэсе складвання беларускай нацыі.

Таму вывучэнне Полацка археалагічна, з выкарыстаннем пісьмовых крыніц, яго гісторыка-тапаграфічнай, сацыяльнай і эканамічнай структуры, развіцця гарадской дэмаграфіі, уплыў на палітычнае жыццё рэгіёна, а таксама параўнаўчае вывучэнне ў структуры еўрапейскай цывілізацыі надзвычай актуальна. Гэта дазваляе па-новаму паглядзець на ролю горада ў агульнаеўрапейскіх эканамічных і дзяржаватворчых працэсах.

Літаратура:


Бархин М. Город. Структура и композиция. М., «Наука», 1986. — 264 с.

Бродель Ф. Время мира. М., «Прогресс», 1986. — 680 с.

Бродель Ф. Структуры повседневности: возможное и невозможное. М., «Прогресс», 1992. — 624 с.

Джаксон Т. Н. Варяжский вопрос. http//janaberestova.narod.ru/jakson.htm.

Лебедев Г.С. Эпоха викингов в Северной Европе. Ленинград, 1985. —286 с.

Тарасаў С.В. Гісторыка-тапаграфічная структура Полацка IX—XVII стст. Мн., 1998. — 196 ст.

Херман Й. Славяне и норманны в ранней истории Балтийского региона // Славяне и скандинавы. М., 1986. — 412 с.

Штыхаў Г.В. Крывічы. Мн., 1992. — 192 ст.

**Филатова Е. Н.,**
кандидат исторических наук, старший научный сотрудник Института истории НАН Беларуси

# Конфессиональная жизнь Заславщины в конце XVIII — первой половине XIX вв.

В составе Речи Посполитой Заславщина находилась на территории Минского уезда и воеводства. Ее население было в основном католическим и униатским, а в местечке проживало и немногочисленное иудейское. Католические прихожане входили в состав Заславской католической парафии Радошковичского деканата Виленского католического епископства. Парафиальный костел был деревянным. В технике кирпичной кладки построен и в 1774 г. освящен костел в честь Рождества Наисвятейшей Девы Марии. В Заславле находился и доминиканский монастырь (основанный в 1676 г.), который входил в состав Русской доминиканской провинции[1]. При монастыре был конвикт, шпиталь (богадельня), архив и библиотека и действовало ружанцовое братство. Здание монастыря было деревянным и построенным на развалинах старого замка. И как описывала «Живописная Россия», что в Заславле «в самом городе был другой замок, из развалин которого воздвигнут был впоследствии монастырь и костел доминиканов. Одна из готических башен костела составляла прежде замковую башню»[2]. Доминиканский костел был назван во имя Михаила Архангела.

После присоединения территории Минщины к Российской империи в 1793 г. католики вошли в состав Заславской католической парафии Минского деканата Минской католической епархии. По сообщению польского «Географического Словаря...», в первой половине XIX в. Заславская католическая парафия насчитывала до 2000 верующих. А в Заславле был костел Св. Николая, а также католические каплицы Свв. Космы и Дамиана в Мацках, Шаповалах, Чайковщизне и Гурках[3]. В 1854 г. в парафии было 2724 прихожан[4].

По указу от 19 июля 1832 г. в Российской империи было закрыто 199 католических монастырей, среди них и Заславский доминиканский. Основными причинами для закрытия монастырей были участие монахов в восстании 1831—1832 гг. и немногочисленность братии ряда монастырей. К таким немногочисленным относился и монастырь в Заславле, в котором еще в 1818 г. проживало только 3 монаха и настоятель Клеменс Белинский. А для того чтобы монастырь оставался действующим и не пе-

---

[1] Litak S. Kościół łaciński w Rzeczypospolitej okolo 1772 roku. Lublin, 1996. S. 324, 505.

[2] Słownik Geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. T. XIV. Warszawa, 1895. S. 441, 442.

[3] НИА Беларуси в Минске. Ф. 1781, оп. 32, д. 99. л. 6 об. — 7.

[4] Radwan M- Carat wobec kościola greckokatolickiego w zaborze Rosyiskim. 1796 +1839-Roma+Lublin. 2001. S. 255.

реходил в разряд заштатных (неважно, был ли он православным, католическим или базилианским), по законам Российской империи нужно было 8 человек. Здание костела было переделано на православную церковь. Деревянный парафиальный костел действовал до 1866 г.

Информация польского «Географического Словаря...» вызывает некоторое сомнение, так как церкви Св. Николая, Преображения Господня и вышеперечисленные каплицы были не католическими, а униатскими. В начале 30 гг. XIX в. м. Заславль и населенные пункты Гурновичи, Липени, Мацки, Шаповалы входили в Заславский униатский приход Минского деканата Литовской униатской епархии. На территории этого прихода проживало 800 душ мужского пола (вместе с женщинами — около 1600 чел.) униатских прихожан. Приход имел 4 волоки и 8 моргов земли, 4 ревизских души крестьян мужского пола, а его фундушовый капитал составлял 668 рублей ассигнациями, и 100 руб. серебром давали другие доходы[5]. Деревянная церковь Преображения Господня была центром Заславского униатского прихода. П. Шпилевский в своей серии очерков «Путешествие по Полесью и Белорусскому краю», которые были опубликованы в журнале «Современник» в 1853—1855 годах, писал, что «единственное украшение Заславля в настоящее время составляет деревянная церковь во имя Преображения Господня. Стиль ее довольно отличный от древних церквей: она имеет форму старинного замка с башенками и шпицами; в башенках устроены какие-то комнатки, или, как называет народ, горенки; одна из них сохраняла следы некогда раскрашенных стен и какой-то надписи на балке, но ее никак нельзя разобрать».[6]

После ликвидации униатской церкви в 1839 г. и присоединения униатов к православию униатские храмы перешли к православной церкви. Архимандрит Николай писал, что в начале 60-х г. XIX в. в Заславском православном приходе была каменная подоминиканская церковь с количеством прихожан 729 м. п. и 711 ж. п. К ней было приписано 2 деревянных кладбищенских церкви — мацковская Космо-Дамиановская и вязынская Покровская. В этом приходе были еще вязынская Преображенская и заславская Св.-Николаевская церкви, шаповаловская Ризоположенская, чайковщинская Св.-Николаевская и гурковщинская[7].

Территория Заславщины в первой половине Х1Х в. входила в состав Минского уезда и губернии. В конфессиональном плане Минский уезд был не однородным. В 1859 г. на территории этого уезда православных было 30 541 муж. и 32 286 жен. (всего 62 824), раскольников — 22 муж. и 25 жен. (47 чел.), католиков 15 062 муж. и 15 797 жен. (30 859), протестантов — 48 муж. и 77 жен. (125 чел.), иудеев 3231 муж. и 3780 жен. (7011 чел.). Среди духовенства в этом же году было 214 православных священников и 3 монаха, 30 римско-католических, 1 кальвинистский и 13 раввинов.

---

[5] Шпилевский П.М. Путешествие по Полесью и Белорусскому краю. Мн., 1992. С. 159.

[6] Николай. Историко-статистическое описание Минской епархии. СПб., 1864. С. 178.

[7] Там же. Ф. 21, оп. 1, д. 5, л. 3 об. — 4.

**Цмыг Г. П.,**
кандидат искусствоведения,
научный сотрудник Института искусствоведения,
этнографии и фольклора им. Кондрата Крапивы
НАН Беларуси

# Белорусский хоровой концерт и его связь с национальной певческой традицией

Становление хорового концерта[1] в Беларуси происходило начиная с 70-х годов в рамках восточнославянского типа жанра в русле тенденций советской хоровой культуры[2] в тесной связи с национальной певческой традицией. Именно последняя придала характерные черты хоровому концертному стилю и определила особенности воплощения этого старинного жанра в современной белорусской музыке[3].

Воздействие национальных певческих традиций видится в русле общей тенденции современности — воплощении народной эстетики на профессиональной сцене. Это художественное осмысление фольклора в виде:

— воплощения песенной традиции на сцене ансамблями традиционного фольклора (подлинными носителями фольклорных традиций), в том числе и молодежными фольклорными коллективами, воспроизводящими традиционный фольклор;

— освоения певческой манеры народного творчества (народно-хоровое исполнительство, в том числе ансамбли белорусской народной песни и танца);

— исторической достоверности обрядов и обычаев (авторские сочинения для народного хора);

— раскрытия содержания народной песни средствами музыкальной драматургии и ее интерпретация (профессиональная обработка образцов народного творчества).

Обратимся к хоровым концертам на народные тексты[4]. Художественное осмысление белорусской народной певческой традиции в этих произведениях связано с концертностью как стилеобразующей категорией, а также особым, в духе «новой фольклорной волны»[5], подходом к привле-

---

[1] Об этом см. работы автора.

[2] Об этом см. там же.

[3] Классификация современного российского хорового концерта произведена Ю. Паисовым.

[4] Среди них «Прымхі» А. Мдивани; «Концерт для сопрано, баритона и хора a cappella на народные тексты» Э. Казачкова; «Купалінка» Ш. Исхакбаевой — В. Шлеенкова; «Месяцем-солнцем» Л. Симакович и др.

[5] Термин Христиансен Л. См: Христиансен Л. Из наблюдений над творчеством композиторов «Новой фольклорной волны» // Проблемы музыкальной науки: Сб. ст. / Ред. Г. А.. Орлов, М. Е. Тараканов, Ю. Н. Тюлин, В. Н. Холопова, В. А. Цуккерман. — М.: Сов. комп., 1972. — Вып. 1. — С. 198-219.

чению белорусских музыкальных «этносимволов»[6], авторским прочтением фольклорной интонации и воплощением собственно фольклорного литературного текста (без оригинальной мелодии), комплексным жанровым заимствованием[7], творческим переосмыслением конкретных фольклорных форм, свобода в расстановке различных фольклорных жанров в соответствии с задуманными композиционными особенностями и спецификой развертывания формы произведения.

Так, в первой части концерта А. Мдивани «Прымхі» («Маладзік малады») концертность выражена, в частности, в антитетическом взаимодействии элементов: двуххорный диалог с контрастным музыкальным материалом в каждом из хоров, причем имеет место элемент своеобразной персонификации хоровых тембров. Жанровое переосмысление фольклорного первоисточника (жанровая основа литературного текста — заговор) осуществляется посредством насыщения музыкального ряда многократными остинатными повторами, диалогичностью, тематическим переинтонированием и вариантным музыкальным воплощением повторяющейся литературной фразы заговора. А музыкальный ряд, наполненный речевыми интонациями, а также и многоплановый фактурный облик номера свидетельствуют о выходе музыки за рамки жанровой основы литературного текста в сферу лирического начала.

В «Концерте для сопрано, баритона и хора a cappella на народные тексты» Э. Казачкова жанровая природа текстового первоисточника является репрезентантом образного наполнения частей. Например, в первой части это мелодические, фактурные ходы, призванные отразить незамысловатое содержание словесной основы («вол бушуе», «баран бляе», «сакоча курка», «дзеўка плача»). Отметим и программную функцию литературного текста, репрезентирующего основную образную линию, которая расширяется, углубляется, детализируется музыкальным рядом. Особенно это проявляется в полифонических (имитационных) эпизодах. Так, например, во второй части жанровые черты плача, протяжной песни проникают в мелодику, которая потом включается в полифоническую ткань. При этом текст то многократно повторяется, распевается, то вообще исчезает, растворяясь в вокализировании междометий, таких как «ой», «а».

Отметим и особую роль воплощения на профессиональной сцене посредством хорового фактурного изложения специфических приемов фольклорной исполнительской практики. Среди них это имитации-переклички хоровых групп, «подхват» солиста хором, контрастное рельефо-фоновое взаимодействие солиста и хора (как в песнях с подводкой на Полесье, где «соревнование» верхнего солирующего голоса с

---

[6] Термин Антоневич В. См.: Антоневич В. Белорусская музыка XX века: Композиторское творчество и фольклор: Учеб. пособие. Мн.: БГАМ, 2003. С. 193.

[7] Термин Антоневич В. См.: Антоневич В. Белорусская музыка XX века: Композиторское творчество и фольклор: Учеб. пособие. Мн.: БГАМ, 2003. С. 220.

хором связано с основополагающими принципами концертности[8]). Например, в концерте «Прымхі» А. Мдивани эффект полиплановости достигается взаимодействием сольных и туттийных кратких возгласов. Аналогичный прием есть в фольклорном обряде «Гуканне вясны», который насыщен призывными возгласами на открытом пространстве. Таким образом, «пространственность» хоровой концертной ткани в этой части хорового концерта основывается на образно-ассоциативных связях с первичным жанром — народной песней-веснянкой. В концерте Э. Казачкова для сопрано, баритона и хора a cappella на народные тексты диапазон исполнительских средств включает двух солистов (сопрано и бас) и смешанный хор без сопровождения. Наблюдается тематическая индивидуализация, тембровая персонификация. Хор выполняет и функцию сопровождения, «реагируя» на музыкально-семантические события, и «развитие сюжета» у солистов. В финале концерта виртуозный музыкальный материал, насыщенный хроматическими интонациями, вначале изложен в партии солиста, а затем противопоставляется вокализу лирического характера у солистки с последующим диалогическим взаимодействием и антитезой хоровому тутти.

Современный белорусский хоровой концерт связан и с обращением авторов к религиозной тематике, старославянским и церковнославянским текстам[9]. Это обусловило привлечение музыкальной стилистики различных пластов многовековой традиции обиходного хорового пения, а также восточнославянской литургической музыки в целом и «церковно-музыкальных стилей»[10] вокально-хоровой музыки без сопровождения, включая колокольность.

Так, одним из основных композиционных приемов в концертах Людмилы Шлег является контрастное сопоставление различных русских церковно-музыкальных стилей, которые вырабатывались на про-

---

[8] Концертность (в хоровом концерте) зиждется на органичном синтезе собственно хоровых (обусловленных спецификой хора как вокального «инструмента») и «универсальных» концертных принципов, присущих также и инструментальному концерту. В основе концертности лежит феномен антитезы. Концертные принципы инструментального и хорового концертов во многом схожи, но есть и отличия. Общими являются: 1) принцип состязания (соревнования) — проявляется в контрастном взаимодействии двух и более автономных начал: ритмических, интонационных, гармонических, фактурных и т.д. на основе их противопоставления (сопоставления); 2) принцип диалогичности — проявляется в диалектической связи полярных начал, находящихся в комплементарном (бесконфликтном) взаимодействии (хоровых групп, тематизма, ритмики и других компонентов музыкальной фактуры); 3) принцип игры — проявляется в демонстрации исполнительского мастерства вокалистов и композиторской хоровой техники.

[7] Например: «Похвала великому князю Владимиру Святославовичу на средневековый текст из «Слова о законе и благодати» Иллариона, митрополита Киевского, для солистов и смешанного хора», «Вечерняя молитва» А. Бондаренко; «Благослови, душе моя», «Тебе поем», «Величай, душе моя» Л. Шлег и др.).

[10] Термин А. Преображенского. См: Преображенский А. Культовая музыка в России. — Л.: ACADEMIA, 1924. — 121 с.

тяжении исторического движения русского хорового искусства[11]. Композитор мастерски воплощает их стилистику, пропуская через призму индивидуального авторского письма, обогащая современными интонационными, гармоническими, ритмическими и фактурными свойствами. В этой связи рассмотрим концерт «Песнопения об Евфросинии Полоцкой» Л. Шлег. Концертность создается ярким контрастом монодийных и полифонических (канон) фрагментов. Стилистическая реминисценция стиля церковной хоровой песни, для которого характерна подголосочная полифония, «втора», некоторые исполнительские приемы, такие как «подхват» хором запева солиста, творчески переосмысливается и применяется автором. Так, в третьей части рассматриваемого концерта слово «Евфросиния» получает музыкальное воплощение именно в стиле церковной хоровой песни и контрастирует монодии и русскому строгому стилю. Стилистический музыкальный контраст приводит к музыкальному образному подтексту (подчеркивается принадлежность святой Евфросинии Полоцкой к собору белорусских святых). Особое значение в концертах Л. Шлег приобретает монастырский, или клиросный, стиль, который сложился под влиянием кантовой певческой культуры XVII—XVIII веков и воспринял от нее некоторые фактурные, ритмические и гармонические особенности[12]. Вместе с тем в лоне церковного искусства он приобрел свои черты, выражающиеся в некоторой неподвижности мелодического голоса; псалмодирующих интонациях с элементами речитации; типичных кадансирующих автентических гармонических ходах, завершающих текстовую строку со свободной от метрической регулярности ритмикой. Клиросный стиль лежит в основе следующей, четвертой части концерта.

Отметим и еще один, весьма существенный, на наш взгляд, в связи с концертностью духовных композиций род русского музыкального церковного стиля, который получает не только воплощение, но и творчески развивается в произведениях Л. Шлег и других современных белорусских композиторов. Речь идет о придании древнему напеву статуса музыкальной темы, которая затем в процессе развертывания концертной композиции получает свободное, разноплановое развитие. Так, в концерте Л. Шлег этот статус трансформирующейся темы приобретает распев слова «Евфросиния», который пронизывает все произведение, видоизменяясь и внедряясь в систему перечисленных выше стилей церковного хорового певческого искусства.

Особое место в хоровых концертных композициях принадлежит колокольности. Белорусские композиторы применяют традиционный для восточнославянского хорового концерта прием имитирования средствами собственно хоровой звучности колокольного звона (сонорно-

---

[11] По А. Преображенскому. См. там же.

[12] По Костюковец Л., Преображенскому А. См: Костюковец Л. Кантовая культура Белоруссии.— Минск: Вышэйш. школа, 1975.— 96 с.; Преображенский А. Культовая музыка в России.— Л.: ACADEMIA, 1924.— 121 с.

звукового эффекта). Среди них: затухания диссонирующих комплексов; divisi, придающие обертоновость яркой звуковой палитре; внезапный удар после паузы «во все колокола»; плотномассовые звуковые «пятна», образованные звуками в низком регистре и имитирующие гулкое звучание большого колокола (например, хоровые концерты «Колокольная фреска», «Благослови, душе моя, Господа» Л. Шлег; концерт «Похвала...» А. Бондаренко. Вместе с тем новым, современным способом претворения колокольности вокально-хоровыми средствами является имитация собственно типов звонов, акцентируется их смысловое наполнение, эмоциональное содержание (благовест, перезвон и др.). Так, например, праздничный перезвон колоколов со свойственным ему разнообразием характерного ритма и широкой палитрой тембровых красок предстает в рефрене концерта А. Бондаренко «Похвала...». Это придает произведению в целом и данному разделу формы особый приподнятый пафос звучания.

Белорусскому хоровому концерту свойственно и усиление роли театрального фактора, что проявляется в особой картинности, «зримости» музыки и ее образов, присутствии элементов сюжетности[13], драматургичности хоровых тембров (трактовке хора не только как массы, охваченной единым порывом, а как исполнительского ансамбля с функционально автономными группами), а также в сопоставлении массового и индивидуального, в пространственных эффектах. Театральность является атрибутом хорового концерта со времени формирования его жанровых идиом (Венеция, XVI в.). На восточнославянских землях в силу особенностей православного обряда и литургической практики, которым присуща особого рода зрелищность, а также в связи с особенностями собственно фольклорной песенной традиции, где сюжетность, особая яркость образных характеристик, включая и театрализацию народной песни в процессе ее репрезентации на профессиональной сцене[14], особая роль театрального начала в современном духовном и фольклорном хоровом концерте представляется весьма закономерной.

Итак, подведем итоги. Белорусскому хоровому концерту как жанровому феномену современной музыкальной культуры присущи: унификация в области фундаментальных средств жанрообразования хоровой музыки концертного класса с одной стороны и художественное осмысление белорусских национальных певческих традиций через призму авторской индивидуальности и стилевых закономерностей времени — с другой.

---

[13] Например, в концерте Э. Казачкова для сопрано, баритона и хора a cappella на народные тексты есть «главные персонажи» (солисты — сопрано и баритон).

[14] Так, уже в начале XX в. известность имел Белорусский народный хор Владимира Теравского; театральный хор из труппы Игната Буйницкого, выступавший и в качестве самостоятельной творческой единицы, исполняя народные песни в обработке Л. Роговского.

**Шаура Р. Ф.,**
**кандыдат мастацтвазнаўства, прафесар**

# Гістарычная рэтраспекцыя Заслаўя ў творчасці Юрыя Малаша*

Старажытнае і сёння маладое Заслаўе авеяна таямніцай легенд і паданняў, якія толькі невялікай часткай дайшлі да нашага часу і паведалі аб тых складаных і драматычных падзеях у мінулым нашай Бацькаўшчыны. Мы ведаем з гісторыі, што, будучы па свайму геаграфічнаму становішчу на мяжы паміж Полацкім і Кіеўскім княствамі, Заслаўе заўсёды знаходзілася ў цэнтры міжусобных войнаў і неаднаразова падпадала пад разбурэнні і знішчэнні карэнных жыхароў. Аднак ніякія пажары і крывавыя ліхалецці не сцёрлі з гістарычнай і культурнай карты веліч падзей, духоўную моц народа, веру ў тыя найвышэйшыя ідэалы, якія з'яўляліся асновай і рухаючай сілай у адраджэнні, аднаўленні і стварэнні ўсё новых і новых жыццёвых здабыткаў.

Сівая даўніна Заслаўя, так багатая не толькі перажытымі катаклізмамі, але і культурнымі дасягненнямі, знайшла шматграннае адлюстраванне ў вуснай народнай творчасці, фальклоры, выяўленчым і тэатральным мастацтве, дэкаратыўна-прыкладной творчасці. Дзясяткі і сотні жывапісных карцін, створаных мастакамі старэйшага пакалення, маладымі творцамі, вядуць выяўленчы аповед аб гістарычных падзеях, што адбываліся на землях Беларусі ў эпоху існавання Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай. І менавіта Заслаўе з яго легендай аб Рагнедзе і шматлікіх іншых паданнях стала ключавой тэмай у іх творчасці. Акрамя таго, багатая мастацкая культура нашых продкаў — заслаўскіх кавалёў, майстроў керамікі і ганчарства — і сёння з'яўляецца выдатным узорам у творчасці сучасных мастакоў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, якія вывучаюць арнаментальнасць і стылістыку кафлі, тэхналогію апрацоўкі металу і трансфармуюць іх у сучаснай творчай дзейнасці.

Тэма гісторыя Заслаўя, прыгажосць яго старажытных мясцін таксама займае значнае месца ў творчасці непрафесійных мастакоў, і ў прыватнасці ў творчасці Юрыя Малаша. Але, перш чым падыйсці да разгляду яго работ, трэба высветліць, што ўваходзіць у паняцці «наіўнае мастацтва», «прымітыў». У сучасным мастацтвазнаўстве непрафесійных мастакоў прынята называць наіўнымі, або інсітнымі, мастакамі, а іх творчасць — выяўленчым прымітывам. Па меркаванні В. Памешчыкава, «мастацтва прымітыву» ўяўляе сабой рэалізацыю ўнутранай патрэбы ў выказванні асабістага бачання з дапамогай сваіх мастацкіх сродкаў, створаных па-за прафесійных школ і народных традыцый, на аснове прыроднага мастацкага інстынкту» [1, с. 158 ]. Далей аўтар зазначае, што адной з важных перадаваемых гледачу якасцей, схаваных у творчасці мастакоў

---

* Каляровыя ілюстрацыі гл. на стар. 123.

прымітыву, — гэта «пагружэнне ў стан самадастатковасці, зварот да ўніверсальных вобразаў і ўяўленняў, якія праецыруюцца на асабістыя ўражанні, адчуванні іх сапраўднасці і патрэбы ў рэалізацыі, спантаннасці творчага акту без рэфлексій і карэктываў».

Для таго каб «адчуць спецыфічную «каштоўнасць прымітыву» як твора мастацтва, — адзначае Л. Тананаева, — неабходна, відаць, пераадолець у сабе звычку шукаць сапраўдныя мастацкія каштоўнасці толькі на «правільных» шляхах развіцця» [2, с. 109]. Хвалюючая сіла мастацкага вобраза не залежыць, як вядома, ад акадэмічнай правільнасці арганізацыі кампазіцыйнай структуры, колеравага вырашэння жывапіснага твора ці прапорцый у аб'ёмнай пластыцы. Кожная стылістычная форма ці напрамак у мастацтве развіваецца ў рамках сваей стылявой сістэмы з адпаведным арсеналам умоўнасцей. У мастацтве «наіўных» жывапісцаў ці скульптараў гэтыя ўмоўнасці формы выяўлены дастаткова яскрава. Прымітыў як асобны тып мастацкага мыслення ўяўляе сабой даволі характэрныя і адносна ўстойлівыя кампазіцыйныя схемы, мае стылістыку, блізкую да традыцыйнага народнага эстэтычнага светаўспрымання.

Наіўнае мастацтва — гэта цэлы пласт мастацкай культуры, які аб'ядноўвае ў сабе таленавітых творцаў-самавукаў — прадаўжальнікаў найбольш старажытных, аўтэнтычных форм вобразнага светаўспрымання і адлюстравання ў мастацтве прыродных з'яў, самой прыроды, ролі і месца ў ёй чалавека. Дырэктар Муніцыпальнага музея наіўнага мастацтва ў Маскве Уладзімір Грозін выказваў такую думку, што наіўнае мастацтва — гэта не модны капрыз, а ўменне адчуць глыбокія карані і ўсвядоміць нацыянальную прыналежнасць у кантэксце развіцця культуры і быту свайго народа. Наіўныя мастакі — гэта перш за ўсё творцы, якія знаходзяцца па-за прафесійным асяроддзем. Іх мастацкая эстэтыка не сфарміравана ні спецыяльнай адукацыяй, ні эстэтычным вопытам, яна як бы падсвядома прысутнічае ў «гатовым прыроджаным выглядзе» і рэалізуецца ў творчасці на больш-менш творчых прынцыпах, якія ўстаяліся.

Калі звярнуцца да мастацкай дзейнасці Юрыя Малаша, то новым штуршком для яго творчай дзейнасці стала праца ў Гісторыка-культурным музеі-запаведніку «Заслаўе», якая адкрыла невядомыя старонкі беларускай гісторыі. Спачатку гэта было захапленне архітэктурнымі помнікамі і незвычайнымі краявідамі Заслаўскай зямлі, лёсам Рагнеды, што адлюстроўвалася ў яго акварэльных і тэмперных працах («Кальвінісцкі збор», 1992; «Заслаўе», 1995). Добрым выпадкам і сапраўдным адкрыццём для Ю. Малаша стала выстава з Музея наіўнага мастацтва г. Ягодзіна (Югаславія) у Мінску, на якую ён завітаў у 1999 г. На ёй адбылося знаёмства з дырэктарам музея, якая запрасіла яго прыняць удзел у міжнародным біенале наіўных мастакоў. У хуткім часе Ю. Малаш атрымлівае запрашэнне да ўдзелу ў дзясятым біенале ў г. Ягодзіна, куды адсылае свае працы «Косава» і «Ключ ад горада Свіцязь». Апошняя праца была надрукавана ў каталозе біенале, які мастак атрымаў праз пошту ў 2001 годзе. Магчыма, з гэтага моманту пачынаецца новы адлік часу для мастака, які аддае творчасці значны вольны час. Разуменне таго,




Ізяслаў




Рагнеда з сынам Ізяславам

што наіўнае мастацтва запатрабавана еўрапейскім грамадствам, надало мастацкім захапленням Ю. Малаша незвычайны эмацыйны і духоўны ўздым, які знайшоў сваё творчае выйсце ў шэрагу новых работ. З'явілася запатрабаванасць у вывучэнні архіўных дакументаў, прысвечаных «беларускаму Адраджэнню» і малавядомых крыніц нацыянальнай культуры Беларусі.

У перыяд 1999 – 2000-х гадоў Ю. Малаш нястомна працуе над графічнай серыяй «Сусвет душою беларуса». Ён стварае звыш 80 прац, сярод якіх «Купалле», «Каляды», «Развітанне Рагнеды з бацькам Рагвалодам», «Рагнеда з сынам Ізяславам», «Дух зямлі Беларусі» і інш. Амаль кожная графічная работа ўзбагачаецца тэкстамі, якія дапамагаюць зразумець духоўныя каштоўнасці з невычэрпных крыніц беларускай гісторыі.

Пошукі новых кірункаў у мастацтве Ю. Малаша спрыялі стварэнню аўтарскай рукапіснай кнігі. Праца над кнігай «Покліч Рагнеды» працягвалася больш года і была завершана ў 2003 годзе. Першы аўтарскі варыянт, зроблены на беларускай і англійскай мовах і ўпрыгожаны малюнкамі, ініцыяламі, застаўкамі, быў набыты ў аддзел рэдкай кнігі Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Новы праект — кніга «Дзівосны лубок» — распрацоўваўся на працягу 2003 – 2004 гадоў. Як і «Покліч Рагнеды», кніга мае прысвячэнне і канцоўку, цікавыя ініцыялы, застаўкі, 28 рукапісных лістоў з тэкстамі, што ўпрыгожваюцца 44 малюнкамі лубкоў, размаляваных акварэльнымі фарбамі. «Дзівосны лубок» — гэта прыгожае падарожжа ў невядомую краіну беларускіх паданняў, казак, занядбаных крыніц беларускага слова, якое пачынае маляўніча «ажываць» пад рукою мастака. Першыя аўтарскія варыянты кнігі былі такса-

ма набыты Нацыянальнай і ўрадавай бібліятэкамі Рэспублікі Беларусь.

Творчыя работы Ю. Малаша па структуры выяўленчай мовы і знешняй стылістыцы ў пэўнай ступені набліжаны да лубачных народных карцінак, якія мелі шырокае распаўсюджванне на Беларусі ў другой пал. XIX і пач. XX стст. Амаль што кожная графічная работа, з'яўляючыся ілюстрацыяй да якога-небудзь літаратурнага твора або як самастойная творчая праца, мае спалучэнне выяўленчай і тэкставай частак, г.зн. малюнка і слова. Такая ўзаемасувязь пашырае дыяпазон зместавага раскрыцця твора і ўзмацняе яго эмацыянальнае ўспрыняцце. Кампазіцыйная рытміка і іканаграфічная пабудова твора адрозніваюцца той умоўнасцю выяўленчай мовы, якая характэрна менавіта народнаму эстэтычнаму ўспрыняццю па-за сферай акадэмічных правілаў і прыёмаў. Разам з тым у работах захоўваецца стылістычнае адзінства, цэльнасць агульнай пабудовы, завершанасць апавядальнага расказа. Такія работы прываблiваюць непасрэднасцю і шчырасцю мастацкага бачання, душэўнай адкрытасцю і немудрагелістасцю сродкаў мастацкай выразнасці. У іх мы адчуваем водгаласы такой далёкай архаікі, якая захавалася ў падсвядомасці сучаснага чалавека і якая генетычна трансфармуецца праз устаялыя коды мастацкага ўсведамлення. Менавіта ў гэтым і эстэтычная каштоўнасць твораў, якія сваёй знешняй формай як быццам вырываюцца з прывычных рамак «вучонага» мастацтва і атрымліваюць самастойнае жыццё ў культурнай прасторы народнай творчасці. Сёння, як ніколі раней, наіўнае мастацтва набывае прыметную актуальнасць і прызнанне ў міжнародым маштабе. І мне здаецца, што творчасць Ю. Малаша можа паспяхова заняць сваю непаўторную аўтарскую нішу ў гэтым шматгранным працэсе вобразнага пераасэнсавання жыццёвай рэальнасці.




Ілюстрацыя

Літаратура:

1. Помещиков В. Роль архетипов в наивном искусстве // Примитив в изобразительном искусстве: Материалы науч. конф.: Москва, 1996. — М.: Гос. Третьяковская галерея, 1997. — С. 158.

2. Тананаева Л.И.. Польский портрет XVII-XVIII веков / К вопросу о «примитивных» формах в искусстве Нового времени //«Советское искусствознание — 77». — М., 1978. — Вып. 1. — С. 109.

3. Шауро Г.Ф. Примитив в современной народной живописи Беларуси. // Феномен наивного искусства и творчества аутсайдеров в наши дни и его проблемы / Материалы науч. конф.: Москва, 2004. — М.: Музей наивного искусства, 2004. — С. 111-120.

**Ювченко Н. А.,**
кандидат искусствоведения, заведующая отделом
Института искусствоведения, этнографии и фольклора
им. Кондрата Крапивы НАН Беларуси

# Модификации исторической сюжетности в современном театральном искусстве Беларуси

Данная тема посвящена воплощению в театрально-сценическом искусстве событий тысячелетней давности, в данном случае — истории Рогнеды. В искусстве (как и в жизни вообще) есть явления давно ожидаемые, а есть долгожданные. Именно к ним и можно отнести балет нашего Национального академического Большого театра балета Республики Беларусь — «Страсти (Рогнеда)» Андрея Мдивани, либретто и постановка Валентина Елизарьева.

Обратясь к «обозримому прошлому», к последним четырем десятилетиям, мы обнаруживаем, что после «Подставной невесты» и «После бала» Г. Вагнера, целой «серии» прекрасных балетов Е. Глебова («Мечта», «Избранница», «Тиль Уленшпигель»), «Крыльев памяти» В. Кондрусевича, в белорусской балетной музыке наступил период длительного затишья. А если точнее — полного безмолвия. И длилось это «штилевое состояние» около десяти лет! Если в опере к традиционным героям присоединялись все новые персонажи — князь Новаградский, король Стах, Мастер и Маргарита, Старая Дама, то белорусский балет рубежа 1980—1990-х гг. чуть ли не «самоликвидировался» как жанр. Прошли годы — и балет возродился.

Значимые балетные постановки — и классической направленности, и авангардно-современные (В. Кузнецов, В. Кондрусевич) — уже вошли в репертуар театров. Более того, они во многом являлись необходимой школой мастерства, равно как и экспериментальной базой творчества. Все это давало замечательные плоды (назовем хотя бы «Макбет», «Мефисто»), говорило о совершенствовании белорусского театра. Но белорусская музыка в соотнесении с национальной сюжетностью долго не могла найти контакт со сценой. Стремления были, замыслы были, но все никак не выкристаллизовывалось произведение, достойное уровня получившего к этому времени уже мировую известность (во многом благодаря деятельности его главного балетмейстера В. Елизарьева) коллектива белорусского балетного театра. И вот, наконец, словно выплеск накопленного многолетнего опыта, словно взрыв долго сдерживаемых художественных эмоций, словно новое подтверждение философского закона перехода количественных изменений в качественные, белорусский балет предстал в обновленном облике, породив произведение долгожданное и неожиданное одновременно.

Произведение, в котором «единовременный контраст» — многоуровневость, многозначность художественных пластов — сочетается с лапи-

дарностью образной символики, где объединенные в монолит архаика и контемпоративность, динамика и статуарность призваны олицетворить своего рода метаидею спектакля — «воспоминание о будущем». Произведение, где драма тысячелетней давности, повествование о жизни княжны полоцкой Рогнеды и о принятии христианства на Руси, наполнено страстями, столь реальными для нашей, в очередной раз переломной эпохи, страстями, столь ощутимыми для все еще почти ничему не научившихся, малообразованных в постижении гуманных истин потомков...

О балете «Страсти (Рогнеда)» уже столь много восторженного написано за эти годы (10 лет), он уже столь очевидно находится «на виду» и «на слуху», что это исключает надобность в его подробном рассмотрении и представлении. Практика, которая, как известно, является критерием истины, свой вердикт уже вынесла, и это касается именно «Рогнеды» — наиболее яркого театрально-музыкального произведения сезона 1995—1996 годов. Отметим также, что автор и постановщики балета были удостоены вскоре звания лауреатов Государственной премии Республики Беларусь.

И все-таки каковы «слагаемые успеха», что являют собой личностно-эстетические характеристики творцов «Страстей (Рогнеды)»?

Во-первых, естественно, следует отметить работу композитора А. Мдивани: без музыки, при самых благоприятных намерениях, балет бы не состоялся.

Партитура А. Мдивани — образец симфонизированного мышления, работы крупными пластами, создающей (вместе со сценографией) величественно-экспрессивную картинную образность спектакля. Это включает и тщательную мотивную проработку тематического материала в специфическом узкообъемном диапазоне, с вычленением черт, призванных характеризовать историческую отдаленность языческих времен. К особенностям композиторского решения относятся и целостность комплекса «музыкально-лирических» средств, характеризующих заглавную героиню, общая тембровая красочность, яркость образных модуляций, особенно в ораториально-литургическую (хор «Господи, помилуй мя...», в финальном эпизоде «Покаяние»), впервые включаемую в эстетику балетного жанра вообще.

Обращаясь к работе В. Елизарьева, автора идеи балета, хореографа, выступающего здесь и в качестве либреттиста, отметим в качестве характерного штриха, что у главного балетмейстера НАБТа была «только одна запись в трудовой книжке»: он всю свою творческую деятельность (33 года) связал с белорусским балетным театром. В его новой постановке общая направленность самих «страстей» балета (которая отображена в развертывании действия, его основных шестнадцати картинах) прочитывается уже в программе спектакля, от «осуди их, боже ... по множеству нечестия их отвергни, ...» («Повесть временных лет») до «... имейте усердную любовь друг ко другу, потому что любовь покрывает множество грехов» (Св. Апостол Павел). Сложнейшая хореография балета исполнена необыкновенной действенности: это своеобразная живописная

и живописующая пластика-показ; в нем сочетаются внешняя и глубинная динамика, объясняемая наличием постоянного «внутреннего ритма» персонажей, несомненно, «инспирированного» балетмейстером.

Начальный выбор исполнителей главных ролей «Страстей» оказался на редкость удачным. Это и исполнитель роли князя Владимира — В. Захаров, и Ярополк — В. Долгих, и обе исполнительницы роли Рогнеды — И. Душкевич и Е. Фадеева. Наряду с ними великолепна Т. Шеметовец, одна из исполнительниц партии Анны Багрянородной, воплощающей победоносно шествующую красоту Православия, рождающую главный идейный полюс спектакля. Это и работа хормейстера Н. Ломанович, благодаря которой определилась выстроенность хоровой кульминации-покаяния. Особую притягательную силу спектаклю обеспечила и работа художника по костюмам С. Шалейниковой. Конечно, главное слово в визуально-декорационном решении спектакля принадлежит В. Окуневу, его сценография определена контрастно-органичным сочетанием различных по стилистике приемов. Это и стилизация древнерусской иконописи («Матерь Божия», «Троеручица» в «Возрождении Полоцка»), лаконичная «графичность», контурность — и монументальный образный размах, необычная экспрессивность («Огненный дьявол» из сцены «Пепел Полоцка», оформление сцены «Крещение Руси»). «Действенная сценография» В. Окунева действенна и в прямом смысле (движущаяся конструкция явления врат) — и одновременно тонко аллегорична, духовна.

Чрезвычайно важная роль в создании спектакля принадлежит музыкальному руководителю постановки и дирижеру Г. Проваторову, его художественному темпераменту и ясному пониманию законов существования и развития и музыкальной, и хореографической «материи» спектакля, умению «читать» авторскую концепцию, доводя ее до совершенства, редактируя в содружестве с автором. Когда за пультом стоит Г. Проваторов, в зале всегда ощутим творческий энергообмен — от дирижера к исполнителям (музыкантам, артистам) и от дирижера и исполнителей к зрителям-слушателям.

Если постановка балета зрелищного, красочного, эстетически полноценного — уже замечательное явление в современном культурном социуме, то постановка балета, сочетающего эти качества с этико-философской направленностью (а не просто с историзмом), с выстраиванием мировоззренческой гуманности, порождает настоящее зрительское сопереживание, вызывает желание осмысления событий и своего к ним отношения еще долгое время после спектакля.

Таким образом, следует признать, что работа творческого коллектива, который осуществлял постановку балета «Страсти (Рогнеда)», — явление, которое отвечает самым высоким художественным критериям, может быть признано значительным вкладом в развитие национального балета Беларуси и заслуживает самой высокой оценки. Это нашло подтверждение в будущем. Спектакль открывал Дни культуры Беларуси в Москве и вызвал настоящий ажиотаж: «Белорусы забили нам гол!» О музыке с особым восторгом отзывались многие, в том числе А. Пахмутова.

К 2006 г. уже состоялось сто спектаклей «Страстей» и соответственно сто аншлагов. Московская пресса рассматривала спектакль как важнейшее художественное событие: ему посвятили публикации многие журналы, в том числе главный российский музыкальный журнал «Музыкальная академия».

Сейчас спектакль идет на сцене Дворца Республики — и снова аншлаг. Это несомненная творческая удача, вклад в национальную летопись художественной культуры Беларуси.

Образы Рогнеды и Владимира — стоп-кадр, остановленное мгновение диагонального «излома» дуэта героев — воплощены в заревной цветописи основной балетной афиши театра, канвы-основы анонсов как самих «Страстей», так и новых балетных постановок коллектива.

Наряду с музыкальным театром история Рогнеды и ее времени неоднократно привлекала и театр драматический. Так, на Купаловской сцене в 1992 г. был поставлен спектакль «Звон — не малітва» по пьесе И. Чигринова (режиссер-постановщик Г. Давыдько). События происходят в Изяславле, куда сослана княгиня с сыном. Особенности драматической трактовки заключаются в том, что Рогнеда представлена как язычница, а по своей драматургической функции — как мстительница и по сути противопоставлена сыну, принявшему христианскую веру. А несостоявшаяся возлюбленная Изяслава — Анея — становится жертвой интриги и идолопоклонничества. В воссоздании общей образности спектакля, имевшей фантасмагорично-стилизованную направленность (позволявшую вспомнить о «Весне священной» И. Стравинского), особое значение приобретал музыкальный «ряд», выстроенный О. Янченко вкупе с различными шумовыми эффектами. «На сцене (...) воплощалась атмосфера таинственного леса, наполненного шепотом, тревожными звуками, ритуальной пластикой полусказочных существ (...), поэтизируется языческая ритуальная обрядность»[1].

В «Рогнеде и Владимире» А. Дударева, определенной в виде повествовательной поэтической хроники, в постановке Гродненского областного драматического театра (1998, постановка В. Мазинского) воплощаются уже и романтические «квазитристановские» мотивы (по сюжету — неожиданная встреча в лесу, мгновенно вспыхнувшая любовь, обман-подмена). Этому способствует общая «притемненность» спектакля, перенесение событий в атмосферу купальской ночи. «Откровенно эротическое поклонение Яриле, белые одеяния девушек, запачканные кровью убитого петуха, выглядят довольно натуралистично и зловеще»[2]; все это в качестве неотъемлемого компонента поддерживается «архаикой-модерном» музыкально-пластического решения (хореография Л. Симакович, музыка А. Кандыбы).

---

[1] Гаробчанка Т. На мяжы стагоддзяў: Сучасны беларускі драматычны тэатр. Мн.: Бел. навука, 2002. Ст. 66.

[2] Там же. Ст. 68.

Впоследствии жанр своей пьесы в новой авторской редакции драматург определил как «трагическая легенда», а само произведение в тюзовской постановке стало именоваться «Полочанкой» (2000 г., постановка А. Андросика). Особое значение в эстетике спектакля приобрели батально-музыкальные сцены, «рисующие» воинственность, напряженность времени (композитор В. Кондрусевич, в постановке принимали участие ученики школы боевых искусств под руководством Б. Самосюка), а также его действенно-эмоциональная пластико-хореографическая направленность (работы М. Дударевой и М. Иноземцева). И хотя «личная художественная позиция остается достаточно путаной и неясной»[3], а спектакль характеризовался в общем как «шоу», напоминающее «американский боевик»[4], все же отметим высокий уровень культуры постановки, общий возвышенный тон, заданный с помощью драматургии, исполнительства, динамичной музыки, напряженного внутреннего ритма[5]. Тема христианства, будущего крещения Руси, ставшая одной из центральных в балете А. Мдивани «Страсти (Рогнеда)», в спектакле «Полочанка» воплощена аллюзийно, в символике воды, в финальных играх детей, в контрастном по отношению к предыдущему «прозрачно-чистом» эпилоге спектакля.

Говоря о постановках белорусских театров, справедливости ради надо отметить, что они были не первыми в истории искусства, посвященными данной тематике. Еще в 1865 г. в Мариинском театре Санкт-Петербурга была осуществлена постановка оперы А. Серова «Рогнеда». И хотя эта «многонаселенная», пышная композиция, близкая по своей романтизированной эстетике спектаклям короля большой французской оперы Дж. Мейербера, по признанию последователей, не являлась бесспорной творческой удачей композитора, шла вразрез с позициями набиравших силу кучкистов и представляет для нас скорее исторический интерес, на один момент хотелось бы обратить внимание. По сюжету оперы именно Изяслав просит свою находящуюся в состоянии тоски-кручины мать спеть «Варяжскую песню». И именно это произведение — маршеобразное, с чеканным пунктирным ритмом, символизирующее смелость, порыв, отвагу, взывающее к памяти отца («Рогволоду враг не страшен!») перешагнуло рубеж уже второго столетия со времени создания, сохраняясь как эффектный номер в концертном меццо-сопрановом репертуаре.

В итоге мы видим, сколь многопланово образ-легенда реализовался в музыкально-драматическом искусстве, обрел новую сценическую жизнь в театре. И нет сомнения в том, что жизнь эта будет продолжена в новых прочтениях старинной истории у наших современников и потомков.

---

[3] Гаробчанка Т. На мяжы стагоддзяў... Ст. 72.

[4] Культура. — №. 8. — 26 лютага — 3 сакавіка. — 2000. Ст. 7.

[5] В 2001 г. спектакль был удостоен премии им. Е. Мировича.

**Яноўская В. В.,**
кандыдат гістарычных навук, загадчыца сектара
Інстытута гісторыі НАН Беларусі

# Канфесійны склад насельніцтва Заслаўшчыны ў канцы XIX стагоддзя

У другой палове XIX ст. Заслаўе — гэта мястэчка (цэнтр воласці) Мінскага павета і Мінскай губерні. Да гэтага часу населены пункт ужо згубіў сваю былую гістарычную веліч. У канцы XIX ст. «Минские губернские ведомости» пісалі: «В настоящее время древний город Заславль представляет из себя незначительное местечко». Я б удакладніла: тыповае для таго часу мястэчка, у якім уся жылая забудова — драўляная. І хаця да канца XIX ст. дзякуючы будаўніцтву Лібава-Роменскай чыгункі знешні выгляд населенага пункта некалькі змяніўся, усё ж па-ранейшаму славутымі мясцінамі Заслаўя засталіся культавыя пабудовы — кальвінісцкі збор (Спаса-Праабражэнская царква) і касцёл Раства Найсвяцейшай Дзевы Марыі (Раства-Багародзічная царква). Пра жыццё мястэчка XIX — пач. XX стст. засталося не так ужо і шмат звестак. Гэта, відаць, і паўплывала негатыўна пры стварэнні такіх сучасных прац, як кнігі з серыі «Памяць» (Заслаўе і Мінскі раён) і «Энцыклапедыя гісторыі Беларусі» (Т. 3). Заслаўю гэтага перыяду ў іх адведзена не так ужо і шмат месца, ды і то звесткі часта супярэчлівыя.

Адзіным дакументам, які дае магчымасць найбольш дакладна прааналізаваць канфесійны стан насельніцтва Беларусі ў канцы XIX ст., з'яўляюцца матэрыялы «Першага Усеагульнага перапісу насельніцтва Расійскай імперыі», які быў праведзены ў 1897 г. Што тычыцца культавых устаноў, то, як сведчыць перапісны ліст па Заслаўю, у 1897 г. у мястэчку дзейнічала 3 праваслаўныя царквы (у тым ліку 2 — прыхадскія), 1 капліца, 1 царкоўна-прыхадская школа і 1 яўрэйскі малітоўны дом[1]. У Заслаўскай воласці мелася яшчэ некалькі праваслаўных цэркваў (у вв. Сяледчыкі, Мацкі, Гірэвічы) і каталіцкая капліца ў в. Гервелі[2].

У адносінах да канфесійнага складу насельніцтва, на жаль, звесткі, да якіх мы мелі доступ, пададзены толькі ў маштабе паветаў і гарадоў. Асобна па мястэчках і нават па валасцях дадзеныя не былі апрацаваны, а самі перапісныя лісты, што захоўваюцца ў Расійскім дзяржаўным гістарычным архіве (С.-Пецярбург) зараз недасягальныя. Таму мы выкарысталі матэрыялы Мінскага павета.

Як жа падзялялася насельніцтва Мінскага павета па канфесійнаму прызнаку ў адпаведнасці з дадзенымі перапісу? Выкарыстаўшы той па-

---

[1] Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў. Ф. 1290. Воп. 11. Спр. 1313. Арк. 552.

[2] Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў. Ф. 1290. Воп. 11. Спр. 1313. Арк. 747, 762, 777, 783.

дзел, які даваў перапіс, атрымліваецца наступнае. У 1897 г. у павеце пражывала 277 154 чалавек. Сярод іх:

| | |
|---|---|
| праваслаўных і аднаверцаў | 41 963 чал. (51,2%) |
| старавераў і тых, хто адышоў ад праваслаўя | 160 чал. (0,05%) |
| армяна-грыгарыян | 3 чал. |
| армяна-католікаў | 16 чал. (0,0005%) |
| рымскіх католікаў | 67 122 чал. (24,2%) |
| лютэран | 1300 чал. (0,46%) |
| рэфарматаў | 28 чал. (0,01%) |
| баптыстаў | ніводнага не зарэгістравана |
| менанітаў* | 1 чал. |
| англікан | 4 чал. |
| караімаў | 2 чал. |
| іудзееў | 65 029 чал. (23,46%) |
| мусульман | 1515 чал. (0,54%). |

Як бачым, большасць насельніцтва ў павеце складалі праваслаўныя, што як быццам адпавядала агульнай структуры падзелу насельніцтва Мінскай губерні па веравызнаннях. Але разам з тым трэба адзначыць вялікія адрозненнні Мінскага павета ад іншых (нагадаю, што ў канцы XIX ст. у склад Мінскай губерні, акрамя Мінскага, уваходзілі — Рэчыцкі, Мазырскі, Навагрудскі, Ігуменскі, Пінскі, Барысаўскі, Слуцкі і Бабруйскі паветы). Дык вось, удзельная вага праваслаўных сярод усяго насельніцтва ў Мінскім павеце была самая нізкая сярод усіх астатніх паветаў Мінскай губерні. Яна значна ніжэйшы, чым сярэдні ўзровень па губерні ў цэлым — 72,5%. Для прыкладу прывяду такія дадзеныя: у Рэчыцкім павеце праваслаўныя складалі 82,9% (самы высокі паказчык па губерні), у Бабруйскім — 71,38% (самы нізкі, не лічачы Мінскі павет). Нават калі параўнаць гэты паказчык з усімі іншымі 35 так званымі«беларускімі паветамі» пяці губерняў (Віленскай, Віцебскай, Гродзенскай, Магілёўскай, Мінскай), то і тады мы павінны адзначыць, што Мінскі павет меў самы нізкі паказчык па колькасці праваслаўных сярод усяго насельніцтва (да яго быў блізкі толькі адзін павет — Гродзенскі, але і там праваслаўныя складалі крыху больш — 51,7%)[3].

Затое Мінскі павет знаходзіўся на першым месцы сярод іншых паветаў губерні па колькасці рыма-католікаў і іудзееў, значна пераўзыходзячы як адну, так другую лічбу ў сярэднім па губерні (рымскія католікі ў сярэднім па губерні складалі 10,1% ад усяго насельніцтва, іудзеі — 16,0%). Што тычылася мусульман, то ў павеце пражывала трэцяя частка ўсіх мусульман губерні.

Ёсць адрозненні і ў размеркаванні насельніцтва Мінскага павета і па роднай мове ў параўнанні па губерні ў цэлым. Большасць насельніцтва губерні назвала сваёй роднай мовай беларускую — 76%. І хаця па павету таксама першае месца па роднай мове заняла група, назваўшая беларускую мову роднай, але іх удзельны вес тут значна меншы — 59,2%. Гэта

[3] Падлічана па «Наличное население обоего пола по уездам и городам с указанием преобладающих вероисповеданий и сословий». Вып. 6. Б.м., 1905. С. 3, 4, 9, 17, 18.

самы нізкі паказчык сярод усіх паветаў Мінскай губерні. Для прыкладу: самы высокі паказчык быў у Навагрудскім павеце — 83,69%, самы нізкі (не лічачы Мінскі павет) — у Бабруйскім — 67,3%. На другім месцы была тая група насельніцтва, якая размаўляла на яўрэйскай мове як у павеце, так і ў губерні ў цэлым. Але ўдзельная вага іх у павеце была вышэйшая — 23% (па губерні — толькі 15,99%). Гэта быў самы высокі паказчык сярод усіх паветаў Мінскай губерні. Падобнае назіралася і па той групе, якая назвала сваёй роднай мовай польскую. У павеце 7,07% (таксама самы высокі сярод усіх паветаў губерні), па губерні ў цэлым — 3%[4].

Уяўляе цікавасць пытанне размеркавання насельніцтва па веравызнаннях і роднай мове. Спалучэнне гэтых двух паказчыкаў дазваляе скласці больш поўнае ўяўленне аб нацыянальным складзе насельніцтва, што пражывала на гэтай тэрыторыі. Мы прааналізавалі канфесійныя групы насельніцтва Мінскага павета па роднай мове. Але, каб як мага дакладней высветліць сітуацыю, лічбы ўзяты без уліку г. Мінска. Вось гэтыя дадзеныя.

**Колькасць насельніцтва па веравызнаннях і роднай мове
Мінскі павет**

| | |
|---|---|
| **Усяго праваслаўных 116 640 чал.**<br>Назвалі сваёй роднай мовай | |
| Вялікарускую | 2947 чал. (2,5%) |
| Маларускую (украінскую) | 20 чал. |
| Беларускую | 111 564 чал. (95,6%) |
| Польскую | 48 чал. (0,04) |
| Латышскую | 14 чал. |
| Нямецкую | 6 чал. |
| Яўрэйскую | 2 |
| **Усяго старавераў 63 чал.**<br>Назвалі сваёй роднай мовай | |
| Вялікарускую | 27 чал. (42,80%) |
| Беларускую | 36 чал. (57%) |
| **Усяго рыма-католікаў 53 362 чал.**<br>Назвалі сваёй роднай мовай | |
| Вялікарускую | 147 чал. (0,27%) |
| Маларускую | 6 чал. |
| Беларускую | 44 026 чал. (82,5%) |
| Польскую | 9130 чал. (17,1%) |
| Літоўскую | 23 чал. |
| Латышскую | 17 чал. |
| Нямецкую | 4 чал. |

[4] Первая Всеобщая перепись населения Российской империи. 1897 г. XXII. Минская губерния. Спб., 1904. С. IX.

| Усяго лютэран 494 чал.<br>Назвалі сваёй роднай мовай | |
|---|---|
| Вялікарускую | 33 чал. (6,68%) |
| Беларускую | 75 чал. (15,1%) |
| Польскую | 33 чал. (6,68%) |
| Латышскую | 19 чал. (3,8%) |
| Нямецкую | 336 чал. (68%) |
| **Усяго іудзеяў 17 468 чал.**<br>Назвалі сваёй роднай мовай | |
| Вялікарускую | 12 чал. |
| Беларускую | 108 чал. (0,6%) |
| Яўрэйскую | 17 347 чал. (99,3%) |
| **Усяго мусульман 192 чал.**<br>Назвалі сваёй роднай мовай | |
| Вялікарускую | 6 чал. |
| Беларускую | 114 чал. (59,37%) |
| Татарскую | 70 чал. (36,45%) |

Такім чынам, відаць, што з усяго праваслаўнага насельніцтва, што пражывала ў павеце, назвалі беларускую мову роднай 95,6%, 2,5% праваслаўных назвалі сваёй роднай мовай вялікарускую, 0,04% — польскую, 20 чалавек —маларускую, 14 — латышскую, 5 — нямецкую, 2 — яўрэйскую. Сярод старавераў, як ні дзіўна, большасць — 57% — палічылі сваёй роднай мовай беларускую, астатнія — вялікарускую. Звычайна падлікі гэтага паказчыка па іншых паветах сведчаць, што большасць старавераў паказвалі сваёй роднай мовай вялікарускую.

Рымскія католікі па роднай мове размеркаваліся наступным чынам: 82,5% — беларуская, 17,1 — польская, 0,27 — вялікаруская. Акрамя таго, 23 чалавекі назвалі роднай мовай літоўскую, 17 — латышскую, 6 — маларускую, 4 — нямецкую. Сярод лютэран (на падставе роднай мовы) было 68% немцаў, 15 — беларусаў, аднолькава (па 6,68%) рускіх і палякаў, 3,8 — латышоў. Сярод мусульман большасць (59,37%) назвала роднай мовай беларускую, 36,45% — татарскую, 6 чалавек — вялікарускую.

Найбольш аднародна выглядала канфесійная група іудзеяў — 99,3% назвалі сваёй роднай мовай яўрэйскую. Разам з тым 0,6% іудзеяў (108 чалавек), што жылі ў Мінскім павеце, палічылі сваёй роднай мовай беларускую, а 12 чалавек — вялікарускую.

**Гаранская Т. Г.**
«Заслаўская кульмінацыя дзейнасці Сымона Буднага»



«Кальвінісцкі збор у Заслаўі». Маляваны дыван Віктара Маркаўца



«Сымон Будны ў Заслаўі». Маляваны дыван Віктара Маркаўца



М. Касцюкевіч. «Сымону Буднаму прысвячаецца». Медзь, латунь, роспіс. 1989

**Гаранская Т. Г.**
«Карэнні хрысціянства крывіцкай зямлі і Заслаўе»



Сваты Уладзіміра Святаслававіча ў князя Рагвалода. Полацкі ўладар гутарыць з Рагнедай, якая адмовілася стаць жонкаю Уладзіміра. Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу



Паход Уладзіміра Святаслававіча на Полацк. Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу



Захоп Полацка князем Уладзімірам Святаслававічам. Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу



Помсцячы за спалены Полацк і вынішчаную сям'ю, Рагнеда Рагвалодаўна спрабуе забіць мужа. Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу



Уладзімір Святаслававіч хоча пакараць Рагнеду смерцю пасля няўдалага замаху на ягонае жыццё. На абарону маці ўстае князевіч Ізяслаў (злева). Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу



Кіеўскі князь Уладзімір раіцца з баярамі пра лёс Рагнеды і Ізяслава. Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу




«Рагнеда і Ізяслаў».
Маляваны дыван
Віктара Маркаўца



Першая старонка
«Аповесці мінулых
гадоў», найстаражытней-
шага летапісу ўсходніх
славян

**Гаранская Т. Г.**
«Тэстамент Антонія Пшаздзецкага як выразнік сацыяльнага, культурнага і эканамічнага становішча Заслаўя ў XVIII ст.»



Партрэт-рэканструкцыя вобраза
Антонія Пшаздзецкага (1718—1772).
Мастак В. Маркавец.
Палатно, алей, 49х39 см, 2001 г.



Партрэт-рэканструкцыя вобраза
дачкі Антонія Пшаздзецкага —
Алены Радзівіл (1753—1821).
Мастак В. Маркавец.
Палатно, алей, 49х39 см, 2001 г.



Партрэт-рэканструкцыя вобраза
мужа Алены Радзівіл — Міхала
Іераніма Радзівіла (1744 – 1831).
Мастак В. Маркавец.
Палатно, алей, 49х39 см, 2001 г.



Партрэт-рэканструкцыя вобраза
жонкі Дамініка Пшаздзецкага
(сына Антонія Пшаздзецкага) Ганны
Радзівіл. Мастак В. Маркавец.
Палатно, алей, 25,5х19 см, 2001 г.



Партрэт-рэканструкцыя вобраза
Іаахіма Храптовіча (1729 — 1812),
мужа Канстанцыі
(дачкі Антонія Пшаздзецкага).
Мастак В. Маркавец.
Папера, акварэль , 49х39 см, 2001 г.



Касцёл у імя Нараджэння Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў Заслаўі
(асвечаны ў 1774 г.). Мастак В. Маркавец. Палатно, алей, 96х150 см, 2005 г.

**Заяц Ю. А.**
«К вопросу о курганных захоронениях с нарушенным анатомическим порядком костяков»





Заславский замок; остатки кирпичного дворца Глебовичей конца XVI — первой половины XVII вв. Раскопки 1983 г.



Заславский замок; нижние венцы срубной постройки, погибшей в пожаре 1127 г. Раскопки 1980 г.



Заславский замок; турецкие золотые монеты второй половины XVI в.



Заславский замок; счетный жетон и золотая монета (Каринтия?) второй половины XVI в.



Заславский замок, территория доминиканского монастыря; изразец второй половины XVII в. с изображением цветка в вазе



Заславский замок; изразец конца XVI в. с совместным гербом Я.Я. Глебовича и его жены К. Кротовской



Заславский замок; пластины углового изразца с гербом «Лев» князей Заславских





Заславский замок; фрагменты импортной высококачественной керамической посуды XVI – XVII вв., «рейнский товар»



Заславский курганный могильник и городище «Замэчак»; металлические накладки и наконечники от боевого пояса дружинника X – XI вв.



Заславский курганный могильник и замок; железные топоры, наконечник копья, кресало, стремя, фибула, бронзовое поясное кольцо X – XI вв.

**Малаш Ю. Л.**
«Калекцыя наіўнага мастацтва з фондаў
Гісторыка-культурнага музея-запаведніка «Заслаўе»





С.М. Каваль
Партрэт Язэпа Драздовіча

Ю.Л. Малаш
Рагнеда з сынам Ізяславам



Заслаўе. Зіма. Палатно, алей. 1966

**Шаура Р. Ф.**
«Гістарычная рэтраспекцыя Заслаўя
ў творчасці Юрыя Малаша»



Вайна — гэта найвялікшае
злaдзейства на зямлі




Заслаўе

## Змест



Вёрстка І.М. Кузьмянковай,
Рэдактар М.У. Сульдзіна

УП «РЫФТУР», Мінск, пр. Пераможцаў, 19а
Тэл. (+375-17) 203-27-14, 226-94-90
Ліцэнзія №02330/049435 ад 2.03.2009 выдадзена Міністэрствам інфармацыі РБ.
Тыраж 50 ас.